Грамадскае аб'яднанне
«Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету
"Бацькаўшчына"»

# Зорны шлях

*Да 100-годдзя Барыса Кіта*

Мінск, «Кнігазбор», 2011

УДК [5+325.2](=161.3)(100-87)(092)+929Кіт
ББК 63.3-8 (4 Беи)
З 86

Укладанне
Лідзіі Савік

**З 86** Зорны шлях / укл. Л. Савік. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 112 с.

ISBN 978-985-6976-65-3.

Гэтая кніга прысвечана 100-гадоваму юбілею Барыса Уладзіміравіча Кіта – сусветна вядомага беларуса, прафесара Вашынгтонскага ўніверсітэта, доктара філасофіі ў галіне матэматыкі (Рэгенсбург, Германія), акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж, Францыя), акадэміка і віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Еўразіі (Масква), ганаровага члена Брытанскага міжпланетнага таварыства, члена Дырэктарыята нямецкага астранаўтычнага таварыства, ганаровага доктара навук Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, ганаровага грамадзяніна Навагрудка.

Барыс Уладзіміравіч Кіт цяпер жыве ў Франкфурце-на-Майне (Германія). 6 красавіка 2010 года ён прымаў віншаванні са 100-годдзем з Беларусі, Расіі, ЗША, Германіі, ад навуковых арганізацый, шматлікіх сяброў, знаёмых, родных.

У кнізе сабраны прысвечаныя юбіляру артыкулы, інтэрв'ю і матэрыялы апошніх гадоў.

**УДК [5+325.2](=161.3)(100-87)(092)+929Кіт**
**ББК 63.3-8 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-6976-65-3**

© Савік Л., укладанне, 2011
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2011

Лідзія САВІК

# Зорны космас беларуса

*100 гадоў славутаму навукоўцу Барысу Кіту*

Здаецца, не так даўно рупліўцы беларушчыны вярталі на Бацькаўшчыну імя Барыса Кіта і адзначалі яго 90-, затым 95-годдзе. І вось ужо святкуем 100-гадовы юбілей «найпершага беларуса з беларусаў свету», як назваў Барыса Уладзіміравіча Васіль Быкаў.

Лёс склаўся для Барыса Кіта надзвычай літасціва — ён сустракае сваё стагоддзе ў добрым здароўі, жывой светлай памяці, з нязменна маладым аптымізмам, мудра-крытычным стаўленнем да свету і сябе самога. «Згадваючы сваё жыццё, — гаворыць Барыс Уладзіміравіч, — я шырэй бачу панараму пакутнага стагоддзя, якое мне давялося перасягнуць. Можа, Бог пакінуў мяне на гэтай грэшнай зямлі так надоўга якраз для таго, каб я, апроч усяго іншага, змог пакінуць сведчанні пра дарагіх майму сэрцу незабыўных, светлых людзей і падзеі свайго часу?..»

Пра яго з поўным правам можна сказаць «чалавек-эпоха», у самым высокім сэнсе і духоўным багацці гэтага вызначэння, асоба, чый прыклад жыцця вучыць нас жыць па сумленні і ў любові да людзей і радзімы.

Калі толькі панарамна акрэсліць убачанае, перажытае, пералічыць імёны славутых землякоў і вучоных свету, з якімі сустракаўся, супрацоўнічаў, сябраваў Барыс Кіт, то і тады раскрываецца агромністы гістарычны пласт, удзельнікам і сведкам якога быў і ёсць гэты жывы сімвал няскоранасці і неўміручасці Беларусі.

Нарадзіўшыся ў Санкт-Пецярбургу (1910), дзе бацька быў на заробках, Барыс Кіт дзіцем бачыў падзеі лютаўскай рэвалюцыі, бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту. А ўжо дома, у найпрыгажэйшых мясцінах Бацькаўшчыны — Карэлічы, Мір, Навагрудак — зведаў разруху і голад грамадзянскай вайны, кайзераўскай і белапольскай акупацый, падзяляў радасць бацькоў з нагоды абвяшчэння БНР. З моманту, калі бацька з родных Агароднікаў на кані адвёз Барыса ў Навагрудскую гімназію і сказаў: «Болей, сын, я табе нічым дапамагчы не змагу, далей дабівайся ўсяго сам», і пачаў будучы славуты беларус сам тварыць сваё жыццё, рана пазначанае высокай нацыянальнай свядомасцю, многімі талентамі і сілай волі.

Сялянскі хлопец — студэнт фізмата Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, актыўны ўдзельнік Сялянска-работніцкай грамады, выкладчык матэматыкі, дырэктар Віленскай, затым

Навагрудскай беларускай гімназій, паслядоўны, непахісны змагар за беларускую справу супраць апалячвання і русіфікацыі, за беларускае школьніцтва, з прыроджаным дарам настаўніка, ён і ў гады Другой сусветнай вайны, падчас жорсткай нямецкай акупацыі вучыў дзяцей, аберагаў моладзь ад угону ў Германію, заснаваўшы ў Маладзечне Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. І за гэтую сваю дзейнасць сядзеў і пры паляках у Лукішках, і пры немцах у Глыбоцкай турме, штодня чакаючы расстрэлу…

Вымушаны пакінуць радзіму ў 1944 годзе, каб пазбегнуць яшчэ і сталінскага ГУЛАГа, Барыс Кіт зведаў пасляваенныя дарогі Еўропы, разбуранай вайной. Ён адным з першых выгнанцаў-беларусаў апынуўся ў ЗША, стаў заснавальнікам беларускай калоніі ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), выпісваў расцярушаных па Еўропе суайчыннікаў у вольны свет, апекваючыся імі на першых кроках, імкнучыся іх аб'яднаць у нязнаных умовах новай краіны.

Нью-Ёрк, Саўт-Рывер, Лос-Анджэлес, Вашынгтон — ад звычайнага супрацоўніка розных фірм да высокага ўзлёту навукоўца, аднаго з першапраходцаў амерыканскай астранаўтыкі — так складваўся жыццёвы лёс Барыса Кіта, які не згубіўся ў чужамоўным свеце, бо, ведаючы французскую, нямецкую, польскую, рускую, беларускую мовы, вельмі хутка авалодаў і англійскай. Як пазней адзначаў Васіль Быкаў, «талерантная натура Барыса Кіта прагнула міру і душэўнай гармоніі, пры якіх толькі магчыма было разгарнуць свае стваральныя здольнасці. Тое надарылася не адразу, але, як сказана, — шукайце і знойдзеце. Спадар Кіт шукаў…»

Пасля некалькіх гадоў працы ў амерыканскай астранаўтыцы напісаў першы ў гісторыі падручнік па ракетных палівах (з прадмовай славутага фон Кармэна), які стаў настольнай кнігай для тых, хто займаўся даследаваннямі космасу. Барыс Кіт садзейнічаў паяднанню высілкаў амерыканскіх і савецкіх вучоных у гэтай галіне, напісаў кнігу пра развіццё савецкай касманаўтыкі, удзельнічаў у падрыхтоўцы палёту амерыканцаў на Месяц.

Дакладнае азначэнне навуковай постаці Барыса Кіта даў Міхась Ткачоў, які сустракаўся з Барысам Уладзіміравічам у яго першы прыезд на Беларусь: «І сёння, гаворачы пра стваральнікаў ракетнай тэхнікі, мы павінны ўсведамляць, што сярод выдатных ракетчыкаў і інжынераў побач з беларусам К. Семяновічам, ангельцам У. Кангрэвам, французам Р. Эно-Пельтры, амерыканцам Р. Годардам, немцамі Г. Обертам і фон Браунам, рускімі К. Цыялкоўскім і С. Каралёвым назаўсёды прапісалася імя Барыса Кіта».

Але сваю ранейшую, любімую прафесію настаўніка, выкладчыка матэматыкі Барыс Кіт, таленавіты педагог-гуманіст, не пакідаў ніколі. Стаў прафесарам Вашынгтонскага Мерылендскага ўніверсітэта. Чытаў лекцыі ў яго філіялах у Еўропе, ужо як пераехаў

у Франкфурт-на-Майне. З лекцыямі аб'ездзіў многія краіны свету: у Японіі ўздымаўся на Фудзіяму, атрымаў дыплом акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Канадзе, вандраваў па Індыі, Мексіцы, Англіі, Францыі, Іспаніі, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Гаваях, шмат разоў быў у Польшчы, такой блізкай да радзімы. Як удзельнік штогадовых кангрэсаў астранаўтыкі пабываў ва ўсіх буйных гарадах Еўропы, выступаў з навуковымі дакладамі і ўсюды сустракаў былых вучняў, якімі найбольш ганарыўся як найвышэйшым дасягненнем свайго жыцця. Быў абраны сябрам многіх навуковых таварыстваў і акадэмій.

Сёння ён звязвае нас з усімі пакаленнямі беларускіх адраджэнцаў, бо менавіта Барыс Кіт, беларускі настаўнік, уваходзіў у кола лепшых прадстаўнікоў сваёй краіны: браты Луцкевічы, Браніслаў Тарашкевіч, Рыгор Шырма, Францішак Аляхновіч, Язэп Драздовіч, Радаслаў Астроўскі, Адам Станкевіч, Хведар і Мікола Ільяшэвічы, Ежы Путрамент (з будучым польскім пісьменнікам жыў у адным інтэрнацкім пакоі ў студэнцкія гады), падтрымліваў затым добрыя адносіны з выдатнымі дзеячамі беларускай дыяспары: а. Львом Гарошкам, пісьменнікамі М. Сяднёвым, Ю. Жывіцам, якому дапамагаў стварыць Беларускі музей у Ляймэне, з Ю. Віцьбічам, доктарам М. Шчорсам, з Рамукамі, М. Калодкам, Брылеўскімі, М. Лужынскім з Аўстраліі. Барыс Кіт апекаваўся групай савецкіх вучоных, якія прыязджалі ў Вашынгтон па лініі навуковых сувязяў (М.Багалюбаў, А. Благанраваў, Г. Будкер, Д. Блохінцаў, У. Векслер і іншыя), вазіў іх па Амерыцы, знаёміў з амерыканскімі нобелеўскімі лаўрэатамі, якіх толькі ў адным Каліфарнійскім універсітэце Берклі было 17. Ён асабіста ведаў Антона Зыгмунта (па творчасці гэтага найбуйнейшага польскага і амерыканскага матэматыка абараніў дактарат), знакамітых вучоных Л. Сядова, Г. Оберта, В. Гайзенберга, Р. Опенгеймера, Т. фон Кармэна, В. фон Брауна. Нямецкае астранаўтычнае таварыства імя Г. Оберта ўзнагародзіла нашага земляка залатымі медалямі Г. Оберта і В. фон Брауна.

Б. У. Кіта віншавалі з 85-годдзем тагачасны прэзідэнт ЗША Біл Клінтан і яго жонка Хілары Клінтан. Імя Барыса Кіта разам з імёнамі славутых вучоных Амерыкі замуравана ў капсуле часу ў сцяну Капітолія, а таксама ўведзена ў Залу славы Вашынгтонскага біяграфічнага інстытута. Федэрацыя касманаўтыкі Расіі выказала ўдзячнасць Барысу Кіту за вялікі ўклад у развіццё міжнароднай касманаўтыкі (за подпісам двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР Георгія Грэчкі).

...Калі на пачатку 1990-х гадоў надарылася магчымасць наведаць Беларусь, якая стала незалежнай, Барыс Кіт прыехаў з ідэяй заснаваць Беларускі нацыянальны ўніверсітэт па тыпу еўрапейскіх, пачаў разам са сваім адвакатам шукаць спонсараў. Пры сваёй

настойлівасці, веданні людзей і спраў Захаду ён бы іх і знайшоў, але на Бацькаўшчыне зноў усё змянілася — і для беларускай справы не ў лепшы бок… Цяпер ён ужо не прыязджае, хаця ў апошнія гады як мог дапамагаў: быў сябрам і спонсарам створанай пры Свабодным універсітэце Берліна «Рабочай групы беларуска-нямецкіх сустрэч», пры спрыянні якой беларускія студэнты маглі стажыравацца ў Германіі, заснаваў прэмію свайго імя, якой узнагароджваліся беларускія навукоўцы, пісьменнікі, журналісты, дапамагаў у выданні іх кніг.

Барыс Уладзіміравіч часта падкрэслівае, што ён стаіць над палітыкай і ніколі не належаў ні да якіх партый і груповак. Яго палітыка — сумленне і доўгае, цікавае, змястоўнае жыццё, пабудаванае па агульначалавечых, хрысціянскіх законах. Атрымаўшы ў спадчыну здаровыя гены дзеда і бацькі, адвечных працаўнікоў-сялян, Барыс Кіт стаў грамадзянінам свету. Пры гэтым не страціў сваю беларускасць, не падпарадкаваўся бяздумна абставінам, што заўсёды былі маласпрыяльнымі для беларусаў, не ішоў за лёсам, а кіраваў ім. Яго глыбокае веданне сусветнай гісторыі, літаратуры, сучасных міжнародных праблем і становішча ў Еўропе, узаемаадносін з Амерыкай, як і ўменне мысліць, аналізаваць розныя факты, падзеі, характарызаваць дзеянні палітыкаў, дыпламатаў, іх памылкі, якія часта прыводзяць да войнаў і трагедый у жыцці цэлых народаў, дакладнасць ацэнак, разуменне надзённых пытанняў і трапныя прагнозы здзіўляюць.

Усё гэта прыцягвала і прыцягвае да яго людзей розных становішчаў і ўзростаў. Не пералічыць усіх з беларусаў, хто карыстаўся яго гасціннасцю ў Франкфурце, бо ад яго зыходзіць святло розуму, дабра, чалавечнасці, любові да Бацькаўшчыны і роднай мовы, якую ён пранёс у сэрцы праз доўгія гады…

І адбылося вяртанне Барыса Кіта на Радзіму ўжо хаця б таму, што сапраўдныя беларусы ўбачылі ў лёсе свайго суайчынніка выдатны прыклад, як можна вырвацца з адвечнай беларускай нястачы, гаротнасці, тутэйшасці, калі ты маеш свабоду самавыяўлення, што дае вольны цывілізаваны свет.

У асэнсаванне гэтага незвычайнага лёсу шмат напісана артыкулаў, на пачатку 1990-х гадоў была магчымасць увесці імя Барыса Кіта ў некаторыя беларускія даведнікі, энцыклапедыі. Тады ж ён быў абраны ганаровым грамадзянінам Наваградка, ганаровым прафесарам Гродзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Была заснавана сябрына Барыса Кіта. Яму дарылі свае кнігі Ніл Гілевіч, Ніна Мацяш, Уладзімір Арлоў, прысвячалі вершы Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў. Ён адзін з герояў кнігі Васіля Якавенкі «Пакутны век» і п'есы Алеся Петрашкевіча «Інтэлігенты». Пра яго напісана безліч успамінаў былымі вучнямі, вучонымі замежжа.

Барыс Кіт паспеў сустрэцца і пасябраваць у свой час з Генадзем Карпенкам, Міхасём Ткачовым, Віктарам Ганчаром, Генадзем Кахановўскім.

І як нешта незвычайнае, наканаванае звыш, але заканамернае для Барыса Кіта, якому шанцавала на сустрэчы з вялікімі людзьмі, — сяброўства з Васілём Быкавым. З вясны 2001-га па вясну 2002 года пражылі Васіль Уладзіміравіч і Ірына Міхайлаўна Быкавы ў Франкфурце-на-Майне, дзе з 1972 года асталяваўся грамадзянін Амерыкі, беларус Барыс Уладзіміравіч Кіт. Амаль штодня Быкавы сустракаліся з ім, слухалі яго расказы пра лёс беларусаў-выгнанцаў, пра цікавыя сустрэчы, падзеі яго доўгага жыцця. Васіль Уладзіміравіч, выдатны знаўца людзей, не мог не запісаць аповеды «найвялікшага з беларусаў і наймудрэйшага з навукоўцаў» (словы Васіля Быкава на кнізе «Знак бяды», падоранай Барысу Кіту).

Гэтыя запісы — найлепшае і дакладнае вызначэнне лёсу беларуса і Беларусі з мноства напісанага пра Барыса Кіта. Вось толькі некаторыя думкі Васіля Быкава: «Бязлітасны лёс Барыса Кіта ператварыў ягонае няшчасце ў сапраўднае чалавечае шчасце. Найвялікшае з магчымых на гэтым свеце, поўным жуды і бяды.

Тое не з кожным здараецца — хіба з самым для таго здатным. Самым сумленным, самым таленавітым і разумным. З тым, хто ў няспыннай канфрантацыі з сіламі зла мае апірышчам дабро і Радзіму. Не зважаючы на жуду гэтага свету і безліч выпрабаванняў асабістага кшталту.

Мусіць, адгадка гэтага парадоксу ў тым, што Барыс Кіт — найперш беларус, хоць і народжаны ў Расеі, пражыўшы жыццё на Захадзе з усімі брутальнымі наступствамі таго факту, у якім мала гармоніі, а болей драмы і трагедыі. Мабыць, у гэтых варунках толькі і магчыма стала спарадзіцца характару такога нацыянальнага гарту. Тое, што ў ягонай кішэні не беларускі пашпарт, — ёсць бязглуздзіца таго часу, гістарычны парадокс, гвалт, учынены бязлітасным векам над нацыянальнай існасцю чалавека і грамадзяніна. Але, можа, менавіта ў пераадоленні таго парадоксу і хавалася шчасце, якое засвяціла не аднаму спадару Барысу. Той факт — як бы персаніфікаваны сімвал жаданай і загадкавай беларускай прышласці.

Спадар Барыс Кіт — не салдат, не партызан мінулай вайны, але і не калабарант, не прыслужнік акупантаў. Найперш ён — беларускі інтэлігент, патрыёт сваёй краіны... Так, яго асабістае шчасце прыйшло да яго позна, каб пазнаць яго, давялося дажыць да сталага веку. У маладыя гады ўсё тое падавалася яму вялікай, нясцерпнай бядой. Зрэшты, бядой яно і было. Калі малады настаўнік Кіт кідаўся з Навагрудка ў Вільню і назад, адбудоўваючы адусюль гнаную беларускую школу, калі гібеў у Лукішках, чакаў расстрэлу ў Глыбоцкай турме. Калі гнаны бальшавіцкай навалай, бадзяўся па

Еўропе ў пошуках хоць якога прыстанішча. Беларусь доўга была для яго звыклай злой мачыхай, а Амерыка была далёка. Але менавіта Амерыка першая ацаніла незвычайнага маштабу талент гнанага беларуса, і ён, беларус, шчодра адплаціў ёй за гасціну. Бо змалку засвоіў хрысціянскую максіму: нягожа заставацца вінаватым — за дабро належыць адплаціць дабром. Ягоны ўклад у сусветную навуку быў, па сутнасці, сплочаным доўгам за амерыканскую дэмакратыю, рэабілітацыяй Беларусі, своеасаблівай адплатай лёсу за яе векавую адсталасць, збэшчаныя народныя таленты…

Ён справядліва ўсведамляе, што свой чалавечы і грамадзянскі доўг сплаціў цалкам. Перад часам, перад людзьмі і перад Богам. Засталося хіба сплаціць рэшту далёкай Радзіме… І колькі ў яго хапае сілы і часу, ён штодзень робіць тое…»

Робіць, нягледзячы на ўзрост, на тое, што яго спасцігла вялікае бацькоўскае гора — страта старэйшага сына Уладзіміра. «Наш беларускі Дамейка», — так называў яго Барыс Уладзіміравіч. І не толькі, каб пахваліць роднага чалавека. Уладзімір Барысавіч Кіт (нарадзіўся ў Лебедзеве каля Маладзечна 4 лістапада 1941 года, памёр 4 лістапада 2009 года) годна працягваў справу бацькі, меў універсітэцкую адукацыю па некалькіх спецыяльнасцях: дыпламатыі, фізіцы, электроніцы, камп'ютарах, абараніў доктарскую, стаў высокім урадоўцам НАСА (намеснік міністра), курыраваў еўрапейскі аддзел па касмічных сувязях. Як і Барыс Уладзіміравіч, выдатна валодаў мовамі (а ў сям'і ўсе пастаянна гаварылі па-беларуску), не забываў радзіму сваіх бацькоў і дзедаў… Цяпер толькі малодшы сын, Віктар (доктар медыцыны, хірург), прыедзе павіншаваць бацьку з юбілеем… Шматлікія прыхільнікі Барыса Кіта на Беларусі выказваюць глыбокія спачуванні яму ў сувязі са стратай сына і як могуць ушаноўваюць свайго выдатнага суайчынніка.

Да папярэдніх юбілеяў Барыса Кіта выходзілі грунтоўныя дакументальна-мастацкія выданні: «Вяртанне», «Космас беларуса», «Барыс Кіт. "Юбілейны альбом"», «Грамадзянін свету», аповесць В. Іпатавай «Сведка стагоддзя», шматлікія ўспаміны. У мастацкім музеі Анатоля Белага (Старыя Дарогі) устаноўлены мемарыяльны знак з барэльефамі Барыса Кіта і Васіля Быкава. Да 100-годдзя вучонага адкрыты музей Барыса Кіта ў Навагрудскай школе № 1 (былая гімназія, якую будаваў і дырэктарам якой быў Барыс Кіт). Афармляў музей У. Гладкоў — таленавіты мастак, сябра Саюза мастакоў і Міжнароднага саюза дызайнераў. Пра Кіта знята некалькі дакументальных фільмаў, у тым ліку «Зорнае прыцягненне» аб знакамітых ураджэнцах Беларусі: О. Шміце, С. Козбергу, П. Сухім, Б. Кіту (аўтары сцэнарыя У. Мехаў і Ю. Цвяткоў). Гэты фільм дэманстраваўся па афіцыйным беларускім тэлебачанні.

На вечарыне ў гонар 95-годдзя Барыса Кіта тагачасны амбасадар ЗША Джордж Крол сказаў, што Амерыка ганарыцца і ўдзячная вучонаму за тое, што ён дапамог амерыканцам паляцець на Месяц. Да гэтай высокай ацэнкі можна толькі дадаць, што «беларусы ва ўсім свеце могуць ганарыцца дасягненнямі прафесара Барыса Кіта, колішняга выкладчыка матэматыкі Віленскай беларускай гімназіі, а пазней прафесара многіх універсітэтаў на Захадзе, аднаго з вядучых амерыканскіх даследчыкаў у ракетных палівах...» (з кнігі Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША»).

Сёння мы маем гонар віншаваць Барыса Кіта са 100-гадовым юбілеем! «Паздароў, Божа, Вялікага Чалавека нашага! Маці-Беларусі вельмі патрэбныя яго моц і здароўе!» (з аўтографа Ніла Гілевіча да кнігі паэзіі «На высокім алтары», падоранай Барысу Кіту).

Рыгор БАРАДУЛІН

# Трэці Кіт

«Я не зрадзіў Беларускаму Народу ані кроплі, ніколі».

*Барыс КІТ, акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі, грамадзянін ЗША*

Да Наваградка на фурманцы
З Агароднікаў
Бацька вёз.
Сын жа выдумаў
Гэткі авёс.
Што на Месяц цікаўных вёз
На ракеце,
Як на ліхаманцы.

Агароднікі…
Як і Дубоўка,
Сэрца на адчай накалоў…
Ад Навагрדскіх дужых муроў
Рэштка літарай А,
Каб зноў
Маладзіла Айчыну абноўка.

Кітаваць трэба гэтак вокны
Беларускае хаты,
Каб,
Воўкам вечар сіберны зяб,
Каб з суседскіх галодных зяп
Вырываўся зайздросны войкат.

Беларусам ды беларускам
Запрашаў
Неба думкі на дол.
…Як на Месяцы, пуста наўкол…

…Сцішыўся ў рыштаваннях
Касцёл,
Што касмічны воз
Перад пускам…
Па міжзорнай раллі разбрыліся
Мроі.

А да Беларушчыны птах
Да руінаў не згубіць шлях.

Як зямля ўся
На трох кітах,
Беларуская —
На Барысе!

*Менск, 1995 г.*

Вольга ІПАТАВА

# Настаўнік

Доктар Кіт запальвае свечку ў Майнцкім саборы.
Заблудзілася рэха ў вышынях каменных прысад.
Змрочна біскупы з нішаў глядзяць.
Можа, клікаў каторы
«На Усход, на язычнікаў» колькі стагоддзяў назад?
За высокім ілбом — таямнічыя формулы веку,
Што на Месяц узняў чалавечыя дзёрзкасць і тло.
Ззяе зорка над ім (ці анёл, што трымае апеку),
Ды не згледзець яе: нетутэйшае гэта святло.
Над жыццём і нябытам яна, і над лёсам вандроўным,
Над усім, што прайшло — дый сягоння жыве,
Над карэліцкім хлопчыкам, што выганяе карову
І бяжыць басанож па асенняй пякучай траве.
Ён запальвае свечку, і цемра ў куткі адступае.
Як асілак, у доўгім жыцці ён адужваў яе,
Дзе як мог… А найбольш на радзіме, якая,
Ахмурэлая прышлымі, толькі чужых прызнае.
Толькі не — ён вяртаецца ў сінія далі.
І выстуквае сэрца: яшчэ… чым змагу… памагчы…
Як усе, што ў чужыне душой не прапалі
(А сябры на радзіме прапалі ў вечнай начы).
Дык запальвайце свечку, Настаўнік, асветнік, вучоны…
Колькі год паміж намі калолася дротам сцяна.
Зараз разам ідзём — хай дарогаю гразкай і чорнай,
Ратаваць Беларусь. А яна ў нас, як доля, адна…

*Франкфурт-на-Майне,*
*3 снежня 1993 г.*

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

# Самаму любімаму беларусу – Барысу Кіту

Вандроўнік крокам выкоўвае знак,
Дайсці паспрабуй да такое вяхі:
Адзінка нагадвае млын-вятрак,
Нулі — як паўнюткія зернем мяхі…

Карэліцкі хлопчык разбег набіраў,
Калі заспяшаўся за родны парог,
Ад тлуму
Частых зямных пераправаў
Да волі
Бясконцых касмічных дарог.

Ён смела каноны ўсе парушаў,
Цалік прабіваў непаўторнай хадой.
Пакуты,
Славу
Спазнала душа,
Але засталася навек маладой.

Як годна,
Высакародна ляжыць
Corona astralis* на мудрым чале…
Глядзіш на яго — і хочацца жыць,
Любоўю,
Надзеяй
І верай сталець.

Хоць шмат у быцці прывабных спакус,
Імкненне да волі не знішчыць ніхто.
Пра гэта сведчыць сабой Беларус,
Якому разгоніста стукнула 100!

---

* Зорны вянок (*лац.*)

Васіль ЖУКОВІЧ

# Барыс Кіт

*Да сотых угодкаў слыннага беларуса*

Ведаю Кіта навукі
Акіянскай глыбіні.
А жыве з ім дух свабоды
Светлазорнай вышыні.

Праз крывавае стагоддзе
Як ні вёў суровы лёс,
Да радзімай Беларусі
Чалавек любоў пранёс.

Уцякаў ад зла людскога,
Сам ратуючы людзей;
Мае чыстае сумленне:
Шкоды не чыніў нідзе.

Бог яго узнагародзіў —
Шлях адкрыў, і волю даў,
І гадоў яму, гадочкаў
Больш як сто падараваў.

Не здзіўлюся, калі ўбачу
Веснавым ласкавым днём:
Кіт сусветнае навукі
Пачуваецца арлом.

*Красавік 2010 г.*

Васіль ЖУКОВІЧ

# Жывое ўражанне

Сто першы стрэў гадок
Цудоўны наш Зямляк,
Прыветлівы дзядок,
Рухавы, як юнак.

На міг пакінуў гмах,
Ад радасці цвіце,
Спусціўся, нібы птах, —
Сваіх спаткаць гасцей.

Прыязны, быццам брат, —
Гарыць вачэй святло!
Уразіць вас наўрад
Ягонае жытло.

Тут, у зямных вірах,
Хвалюе што каго,
Мяне — ягоны шлях
І кнігі пра яго.

Я з радасцю чытаў
Пра космас адкрыцця,
Якому ён аддаў
Зеніт свайго жыцця.

Радзімы нашай сын,
У сэрцы з ёй жыве.
Калі ён і адзін,
То з ім — вялікі свет.

Успомніць мае што,
Бо не забрала цьма!
Яму гадоў за сто
Далося нездарма.

Валер КАЛІНОЎСКІ,
Радыё «Свабода»

# Барыс Кіт: «Гэта Бог так хацеў зрабіць»

*Акадэмік Барыс Кіт — госць «Начной Свабоды».*

***Валер Каліноўскі**: Барыс Уладзіміравіч, перадача «Начная Свабода» больш для моладзі, і моладзь хацела б пачуць ад Вас Вашыя сакрэты поспеху. З чаго пачынаўся Ваш поспех? Якім чынам хлопец, які вырастаў у панскай Польшчы, у вёсцы Агароднікі, трапіў у Вільню, атрымаў добрую адукацыю?*

**Барыс Кіт**: Самае важнае — ахвота, вялікая прага вучыцца. Бо з самага пачатку не толькі я, але і ўсе мае сябры, хлопцы з бедных сем’яў у Беларусі, хацелі як найбольш атрымаць добрую асвету. Мы стараліся — спачатку ў народнай школе, пазней у беларускай гімназіі ў Навагрудку, — рабілі ўсё магчымае, скончылі гімназію, пасля яшчэ паехалі ў Вільню ва ўніверсітэт, і гэтак далей ува ўсім, што я меў у сваім жыцці.

***Каліноўскі**: Але як было забяспечыць грашыма вашую вучобу?*

**Кіт**: Я заўсёды быў самы выдатны вучань і атрымліваў ад гімназіі стыпендыю, а таксама пазней ва ўніверсітэце — ад дзяржавы. Навагрудскі ваявода Зыгмунд Бычковіч, польскі ліберал, апекаваўся нашай гімназіяй у Навагрудку і выдаваў стыпендыі самым выдатным вучням.

Найважнейшае шчасце было, што мы маглі вучыцца і атрымліваць асвету. Я хачу сказаць усёй цяперашняй моладзі: найбольш трэба як мага лепш вучыцца, вучыцца і вучыцца. У 1920-я гады ў нас была страшэнна вялікая прага вучыцца. Калі я быў ужо настаўнікам пяці сярэдніх школаў у Беларусі, я ўвесь час бачыў гэтую прагу беларускай моладзі вучыцца ва ўсіх сваіх школах.

***Каліноўскі**: Віленская гімназія, у якой Вы пазней працавалі настаўнікам матэматыкі, — таксама вялікі поспех беларускай справы. Яе вучні сталіся найлепшымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, рухавікамі нацыянальнай справы. Які быў Ваш унёсак у працу гімназіі? Якім чынам яе ўдалося зрабіць такой цікавай у тых умовах?*

**Кіт**: Беларуская Віленская гімназія, як яе назваў наш вялікі пісьменнік Васіль Быкаў, лічыцца калыскай беларускага адраджэння ўсяго народу. І мы, вучні, усе былі найвялікшымі беларускімі патрыётамі і рабілі ўсё патрэбнае для адраджэння Беларусі.

***Каліноўскі****: А ці былі ў гімназіі праблемы з польскімі ўладамі?*

**Кіт**: Вельмі вялікія праблемы. Польскія ўлады ставіліся да нас вельмі негатыўна. Іхным імкненнем у тыя часы было знішчыць беларускі народ як народ, паланізаваць яго і прылучыць да сябе, асіміляваць у Польшчу. І такая палітыка праводзілася ў апошнія гады старой Польшчы паміж Першай і Другой усясветнымі войнамі.

Напрыклад, віленскі ваявода прыходзіў да нас візітаваць. Глядзіць — вісяць партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. «Што гэта такое? Зняць і павесіць Міцкевіча і Славацкага, нашых польскіх паэтаў!» Тады ён візітаваў усё ў школе, шукаў што-небудзь такое, да чаго прычапіцца. Прыходзіць на кухню, а там усе дакументы вяліся на беларускай мове. «Што, і тут беларуская мова?» Бярэ гэтую кнігу і бразгае аб зямлю. Такімі былі адносіны паміж польскімі ўладамі і беларускай гімназіяй.

***Каліноўскі****: Віленскую гімназію можна, бадай, параўнаць з сучасным ліцэем імя Якуба Коласа, які зараз зачынены і дзейнічае ў падпольных умовах…*

**Кіт**: Безумоўна. Яны падобныя паводле духу: такі ж дух, як сёння ў ліцэі, быў і ў нас. Сітуацыя ў тыя часы дайшла да такой ступені, што беларускі актыў вырашыў паехаць у Варшаву і дамагацца выпраўлення становішча. У гэты актыў уваходзілі дырэктар Астроўскі, адвакат Глінскі і я. Але мы даведаліся, што не толькі ў Вільні негатыўныя адносіны да беларусаў, але і ў Варшаве, на вышыні вышэйшых уладаў. Гэта значыць, што мы не дамагліся таго, што мы хацелі: спаткаць высокіх міністраў. Гаварылі толькі з ніжэйшымі загадчыкамі аддзела ў міністэрства і вярнуліся дахаты. Як толькі віленскія школьныя ўлады даведаліся, што мы гэта зрабілі, сказалі: «Ды вы дазволу не мелі ад нас!» Па-першае, звольнілі Астроўскага з працы, перавялі яго настаўнікам у Лодзь. А мяне таксама ўжо падрыхтавалі на выгнанне з гімназіі, але дзеля таго, што не было наступнікаў пасля мяне, дык я застаўся, пакуль не пачалася вайна, калі ўсё перамянілася.

***Каліноўскі****: Барыс Уладзіміравіч, быў адзін поспех беларускай палітычнай справы — была створаная Беларуская сялянска-работніцкая грамада, якая ахапіла ўвесь край, якой польскія ўлады нават спалохаліся. Скажыце, у чым была прычына такой вялікай, усеабдымнай папулярнасці гэтай партыі?*

**Кіт**: Я лічу, што гэта ўсё натуральна. Беларускі народ — жывы народ, патрыятычны народ. Пачатак быў пасля Першай усясветнай вайны, калі атмасфера ў Польшчы была даволі ліберальная і дэмакратычная. Але калі змянілася ўсё на фашыстоўскую сістэму, тады беларусы падняліся, увесь народ падняўся, хацеў нешта рабіць сваё, рабіць сваю незалежнасць. І за кароткі час Грамада мела 100 000 сяброў.

Я сам таксама браў у ёй актыўны ўдзел. Мы, вучні Наваградскай гімназіі, ездзілі па гарадох і закладалі гурткі Грамады. Я, між іншымі, заклаў гурток у Агародніках, дзе майго бацьку выбралі старшынёй. Але польскія ўлады гэтага спужаліся, і праз кароткі час пачалі рэпрэсаваць Грамаду, і гэта мы ўсе адчувалі ў Наваградку — я быў вучнем шостага класа, калі ў Наваградку арыштавалі адразу 50 чалавек. І выпусцілі з турмы толькі трох чалавек — настаўніка Чатырку, майго сябра Гоцку і мяне, а рэшту пасадзілі ў турму.

***Каліноўскі**: І як Вам удалося пазбегчы турмы?*

**Кіт**: Колькі там ні стараліся паліцэйскія, каб я выдаў розныя сакрэты Грамады, я гэтага не зрабіў — увесь час толькі казаў, што я нічога не ведаю, і гэта мяне выратавала. А іншыя, якія трошкі нешта гаварылі, усіх арыштавалі. Ёсць супрацоўніца музея ў Карэлічах сёння (Святлана Кошур), яна выкапала ў гарадзенскім архіве копію майго паліцэйскага дазнання. Цяпер яна вісіць на сцяне ў музеі — як трэба адказваць падчас такіх суадносінаў (*смяецца*).

***Каліноўскі**: Цяпер беларускія дзеячы таксама часта трапляюць у міліцыю, іх дапытваюць у КДБ, іх дапытваюць у турмах…*

**Кіт**: У КДБ не трэба прызнавацца.

***Каліноўскі**: Барыс Уладзіміравіч, сыходзячы з Вашага досведу ў Грамадзе, што б Вы параілі сучасным беларускім палітыкам, каб іхныя партыі сталі такімі ж уплывовымі?*

**Кіт**: Трэба, можа, рабіць усё больш асцярожна, і трэба прадбачыць, што можа стацца. Ну і, безумоўна, трэба рабіць, рабіць і рабіць.

***Каліноўскі**: Вам давялося пасля вайны эміграваць, і ў складаных умовах, без ведання мовы, ужо ў сталым узросце — што Вы зрабілі, каб дамагчыся поспеху на чужыне?*

**Кіт**: Трэба працаваць і працаваць, мець дастаткова энергіі, цярпліва чакаць на ўсялякія магчымасці, выпрабоўваць розныя магчымасці, а не засесці дзе-небудзь на чорную работу і сядзець толькі. Мы шукалі працы ў розных месцах, стараліся навучыцца як найлепш мове — калі вы добра ведаеце мову, тады вам усё дапамагае. Проста адны людзі маюць больш шчасця, іншыя — менш шчасця.

***Каліноўскі**: У Вашым выпадку ў Вас быў поспех, і вельмі істотны поспех: Вы ўдзельнічалі ў касмічных праграмах, сталі заслужаным чалавекам, навукоўцам…*

**Кіт**: Гэта залежыць вельмі ад таго, якую вы мелі прафесію, чаму вы вучыліся. У Амерыцы было так, што на ўзыходзе касмічнай эпохі Амерыка хацела развіць гэтую справу. Але для такой працы, для касмічных даследаванняў патрабуюцца пэўныя прафесіі. Найбольш патрабавалася прафесія матэматыка і інжынера. Гуманітарныя прафесіі былі амаль што непатрэбныя. Але самае было важнае —

матэматыкі, і добрыя матэматыкі. Усё пачыналася з матэматыкі: спачатку матэматыкі распрацоўвалі ўсе праекты, а пасля перадавалі гэтыя планы і праекты інжынерам, якія ўжо выконвалі канкрэтныя рэчы.

***Каліноўскі**: Яшчэ адзін Ваш поспех — гэта Вашыя дзеці і Вашыя вучні. Ці былі ў Вас тут якія сакрэты ў выхаванні?*

**Кіт**: Я ў гімназіі меў вялікі поспех. Выкладаць матэматыку — гэта не ёсць выкладаць гісторыю ці што іншае. Не ўсе вельмі ахвотна адносіліся да гэтага прадмету. Каб дапамагчы, зацікавіць, я заўсёды, з самага пачатку лекцыі чытаў беларускую паэзію — чытаў Іллячэвіча, Хмару, Купалу, і гэтым захопліваў сваіх вучняў, гэта іх падганяла пазней слухаць матэматыку.

***Каліноўскі**: Такі цікавы, нечаканы падыход. Вашыя дзеці — як яны выгадаваліся, кім яны сталі?*

**Кіт**: Мае дзеці зрабілі вельмі шмат. Абодва мае сыны маюць па чатыры скончаных універсітэты. Мой старэйшы сын — адзін з намеснікаў міністра ў НАСА ў Вашынгтоне, а другі — вельмі кваліфікаваны хірург. Абодва вучыліся вельмі добра, мне не трэба было ні аднаму, ні другому памагаць у матэматыцы, як гэта звычайна робяць бацькі. Напэўна, ёсць ад нараджэння нешта, прырода нам таксама дае базу, на якой асноўваецца пазнейшае развіццё.

***Каліноўскі**: І адзін з галоўных Вашых жыццёвых поспехаў — гэта даўгалецце: актыўнае даўгалецце ў навуцы, працы і проста ў жыцці. Вы цікава жывяце, сочыце за ўсімі падзеямі ў Беларусі, у свеце. Як Вам гэта ўдалося, у той час як многія Вашыя сябры ўжо даўно не жывуць?*

**Кіт**: Напэўна, патрэбна найбольш сілы ад прыроды, потым — цікавае, інтэлектуальнае жыццё, і потым — чыстае сумленне. Я нікому дрэннага нічога не зрабіў. Наадварот, вельмі шмат якім людзям дапамагаў, а былі такія выпадкі, што выратаваў і жыццё. І вось гэта ўсё ўплывала пазітыўна на мой арганізм, я так думаю. А яшчэ — наш лёс залежыць ад Бога, і гэта Бог так хацеў зрабіць.

***Каліноўскі**: Барыс Уладзіміравіч, якое Вашае пажаданне нашым слухачам, маладзейшаму пакаленню беларускіх актывістаў, удзельнікам партыяў, рухаў, студэнтам, якія зараз Вас чуюць?*

**Кіт**: Усім гэтым дзеячам, беларускаму народу жадаю як найбольшага шчасця, поспеху. Нашай моладзі — далей змагацца за сваю Бацькаўшчыну, і — вучыцца, бо гэта, можа, самае галоўнае ў нашым жыцці, тое, што дае нам лепшае і цікавейшае жыццё.

***Каліноўскі**: Дзякуй Вам за гутарку і жадаю Вам абавязкова дажыць да ста гадоў, каб парадаваць гэтым юбілеем родных, блізкіх і беларускі народ.*

*2007*

Валерий КУПРИЯНОВ,
председатель секции истории космонавтики и ракетной техники
Северо-Западной межрегиональной общественной организации
«Федерация космонавтики России»

# Судьба академика астронавтики

В 2009 году исполнилось сорок лет со дня первой высадки землян на другое небесное тело — нашу космическую соседку Луну.

18–26 мая 1969 года экипаж космического корабля «Аполлон-10» в составе Томаса Стаффорда, Юджина Сернана и Джона Янга совершил полет на окололунную орбиту, осуществил отделение лунного отсека и совершил несколько облетов Луны, приблизившись к ее поверхности на 15 км.

16 июля 1969 года стартовал корабль «Аполлон-11» с Нейлом Армстронгом, Эдвином Олдрином и Майклом Коллинзом на борту. 20 июля два астронавта — Н. Армстронг и Э. Олдрин — произвели посадку лунного отсека в районе безводного Моря Спокойствия. В 5 часов 56 минут московского времени 21 июля Армстронг ступил на поверхность Луны. Сенсационная новость мгновенно облетела все страны. Московское телевидение весь день каждый час повторяло телевизионный репортаж о первом выходе американского астронавта на поверхность Луны. Сбылась заветная мечта фантастов и ученых, став триумфом научной и технической мысли человечества.

Это событие исторического значения оказалось неразрывно связанным с историей Санкт-Петербурга. Схема полета экспедиции «Apollo» (выведение на орбиту спутника Луны корабля, от которого отделяется посадочный аппарат с экспедицией посещения) была предложена в двадцатые годы прошлого века бывшим студентом Санкт-Петербургского политехнического института Юрием Васильевичем Кондратюком (Александром Игнатьевичем Шаргеем). Его идею использовал Джон Хуболт, который предложил отказаться от первоначально предполагавшейся схемы «прямого» полета на Луну, выдвигавшегося группой Вернера фон Брауна. Длительная борьба сторонников этих предложений увенчалась победой более экономного варианта полета. Это официально признано историками американского космического агентства НАСА.

Однако, как оказалось, это не единственная связь граждан нашего города с этим проектом века. Сравнительно недавно мне довелось познакомиться с еще одним из участников этой программы, уроженцем С.-Петербурга. В 1963–1965 годы Борис Владимирович

Кит работал сотрудником отдела разработки спутников связи в корпорации ИТТ («International Telegraph and Telephone Corp»). При этом был исследователем и советником президента фирмы. Участвовал в исследованиях и создании спутников связи, а также в разработке схемы использования спутников космической связи с аппаратами, отправлявшимися к Луне в рамках проекта «Apollo». Еще раньше Б. В. Кит был соавтором справочника по ракетному топливу, в котором рассматривался вопрос о применении жидкого водорода в качестве топлива перспективных ракетных систем. Все это свидетельствует о том, что наш земляк был непосредственным участником разработок, приведших к триумфальному событию в мире космонавтики.

Борис Владимирович Кит родился 6 апреля 1910 года в Санкт-Петербурге в семье служащего Министерства почт и телеграфов. Его отец Владимир Александрович Кит был белорусом, из крестьян, родом из Минской губернии, Новогрудского уезда, Кореличской волости, деревни Огородники; мать Ксения Дмитриевна Зурова (в девичестве) — русская, родом из деревни Туликово Кашинского уезда Тверской губернии. В метрике о рождении сделана запись, что 28 марта 1910 года сын указанных родителей Борис крещен в Петербургском Воскресенском всех учебных заведений Соборе, более известном как Смольный собор. Семья Кита пережила революционные катаклизмы в Петрограде.

Спасаясь от голода, в 1918 году семья Кита возвратилась на родину отца — в д. Огородники (ныне г. п. Кореличи, Гродненская обл., Беларусь), где родители вели малоземельное хозяйство. С 1920 по 1926 год Борис Кит учился в Кореличской народной школе, а с 1926-го — в Новогрудской белорусской гимназии, которую окончил в 1928-м. В этом же году поступил на физико-математический факультет Виленского университета им. Стефана Батория, который окончил в 1933 году со степенью магистра философии по специальности «математика».

Он много сделал на ниве педагогики. С 1931 по 1939 год преподавал математику и физику в Виленской белорусской гимназии, активно работал в Товариществе белорусской школы, за что был арестован польскими властями. После воссоединения Белоруссии в сентябре 1939 года Б. Кит советскими властями был назначен директором гимназии. В связи с передачей Виленской области Литве белорусская гимназия переводится в Новогрудок. В 1940 году Б. Кит работает в Барановичском облоно в качестве окружного школьного инспектора, активно участвует в строительстве советской системы народного образования.

После начала Великой отечественной войны Б. Кит находится в Лебедево (близ Молодечно), где укрывается как советский работник

от полицейского преследования в семье родителей жены, позже работает учителем Лебедевской народной школы, с 1942 года преподает в учительских семинариях в Молодечно и Поставах. Можно было бы только мельком говорить о Поставском периоде в жизни будущего академика астронавтики. Но этот 1942/43 учебный год поставил Бориса Кита на грань жизни и смерти. Педагогическая работа в Поставах была не только средством существования, выживания семьи, спасения молодежи от угона в Германию, но и решительным противодействием нацистской политике оболванивания белорусской молодежи, попыткой обострить польско-белорусские противоречия, возбудить низменный антисемитизм. Как свидетельствуют белорусские исследователи и еще живые ученики Б. В. Кита, этот выдающийся белорусский педагог не раз «ходил под расстрелом», подвергался постоянным угрозам со стороны эсэсовцев, но самоотверженно выполнял свой учительский долг, сторонясь политических интриг и оберегая своих воспитанников от военного лихолетья. В 1943 году при следовании из Постав в Лебедево, где жили жена с маленьким ребенком, по доносу прислужника оккупантов был арестован, месяц провел в камере смертников в Глубоком и лишь случайно спасся от расстрела. Угроза смерти не остановила Б. Кита, уж слишком велико было желание учить детей разуму, вечным ценностям жизни. В 1943 году в г. Молодечно он организует под прикрытием торговой школы нелегальный административно-торговый институт, что было открытым вызовом антиславянской идеологии нацистов. От очередной расправы его спасло освобождение Беларуси в июне-июле 1944 года.

В 1944 году Б. В. Кит выезжает в Германию, сначала в баварский город Оффенбах-Ландау, затем в Мюнхен, где до 1946-м изучает медицину в Мюнхенском университете. Одновременно зарабатывает себе на жизнь преподаванием математики в небольших учебных заведениях в лагерях для перемещенных лиц и эмигрантов.

В 1948 году семья Б. Кита эмигрирует в США, где в последующем ее члены получают американское гражданство и становятся членами белорусской «колонии» в г. Саут-Ривер. Первоначально Б. Кит работал на фармацевтических предприятиях Саут-Ривера (штат Нью-Джерси), а с 1950 года в Лос-Анджелесе (Калифорния). В этом городе одна встреча резко изменила его судьбу. На одном из вечеров выходцев из Польши он встречается с Густавом Мокшицким, который работал старшим научным сотрудником в «North American Aviation Inc.» (ныне «Rockwell International Corp.»). Профессор Г. Мокшицкий был эмигрантом из Польши, бывшим профессором аэродинамики политехнического факультета Варшавского университета, переписывался с Альбертом Эйнштейном. Узнав о математическом образовании Б. В. Кита, он выдал ему

рекомендации, которые позволили Борису Владимировичу быстро устроиться на работу в «N. A. A.».

В 1956–1958 годах Б. В. Кит работает в «North American Aviation Inc.». В то время в США велись работы по созданию крылатой ракеты «Navaho». Одним из участников этих работ и стал Б. В. Кит. Здесь ему пригодились как математическая подготовка, так и знание нескольких языков (английского, немецкого, русского, белорусского, украинского, польского). При этом он занимался и перспективными исследованиями, в частности, использованием жидкого водорода как топлива для ракетных систем. Непосредственно в проекте «Navaho» водород не использовался. Да и сам проект был закрыт даже на более ранней стадии, как и аналогичный проект «Буря» в СССР. Это было связано с появлением в то время более «удобных» в использовании баллистических ракет.

Но монография по использованию жидкого топлива, в том числе и водорода, написанная Б. В. Китом в соавторстве с Дугласом Эвередом, «Rocket Propellant Handbook» осталась. Она вышла в печати в 1960 году. И получила широкое распространение в соответствующих кругах. Предисловие к ней написал крупнейший ученый в области ракетостроения Теодор фон Карман. Известно, что водород как топливо использовался на последних ступенях по программам «Apollo» и «Shuttle».

Дальнейшая деятельность Б. В. Кита тесно связана с началом международного сотрудничества в космических исследованиях СССР и США. С 1958 по 1963 годы он работал в качестве научного сотрудника, исследователя и советника в Бюро международной космонавтики при Министерстве воздушных сил США (Вашингтон). Кроме обыкновенной работы в министерстве, Б. В. Кит активно привлекался к организации встреч с представителями СССР во время проведения международных конференций и различных встреч с советскими специалистами. Он оказался одним из первых, кто написал книгу по истории советской космонавтики «USSR. Space Research and Development» в соавторстве с Фредериком Ордвеем, вышедшую из печати в 1964 году. Это сделало его признанным экспертом по советской космонавтике.

Биография ветерана космонавтики Бориса Владимировича Кита богата встречами с многими видными деятелями этой области знаний в СССР, начиная с 1958 года. Например, его первая встреча с академиком Л. И. Седовым состоялась еще в 1958 году, когда они оба приезжали на годичную конференцию Международной Астронавтической федерации. Особенно ему запомнилась история, случившаяся на конгрессе Астронавтической федерации в Японии в 1963 году. Леонид Иванович Седов был приглашен в Токийский университет для прочтения лекций по аэродинамике. Получилось

так, что переводчика с русского на японский, знакомого с соответствующей терминологией, не удалось найти. Тогда попытались использовать переводчика с русского языка на английский. Но и здесь помощь коммерческого атташе Юрьева оказалась недостаточной. Перевод математических терминов вызывал у него затруднения. Присутствовавший на лекции Б. В. Кит (он сидел в первом ряду рядом с докладчиком) пришел на помощь. Сказались его математическая подготовка и знание русского и английского языков. Вторую часть лекции уже помогал переводить Б. В. Кит. После лекции его благодарили Л. И. Седов, а также посол США в Японии, поскольку на этом конгрессе Б. В. Кит представлял США.

Еще об одной встрече сохранились воспоминания Б. В. Кита. Она проходила в отеле «Шератон» в Вашингтоне. С советской стороны участвовали Л. И. Седов и А. А. Благонравов. Согласно воспоминаниям, которыми Б. В. Кит поделился с народным писателем Беларуси В. Быковым, эта встреча состоялась в 1960 году. Об этом же он написал и мне в своем письме от 6.08.2005 года. Действительно, в то время Л. И. Седов являлся Президентом Международной Астронавтической федерации, а А. А. Благонравов в это время был назначен заместителем представителя СССР в Комитете по мирному использованию космического пространства при Организации Объединенных Наций и одновременно представителем СССР в Научно-техническом подкомитете того же комитета. По-видимому, такая встреча состоялась с ними как представителями этих организаций. Встреча проходила на высоком уровне. От США ее возглавлял Хью Драйден, в то время вице-директор НАСА. От Министерства воздушных сил США А. А. Благонравова и Л. И. Седова сопровождал Б. В. Кит. В лабораторию, которая занималась проблемами возвращения спускаемых аппаратов в атмосферу Земли и располагалась в «Norfolk Virginias» на юге от Вашингтона, делегацию доставили на специальном самолете. На аэродроме ее встречали американские специалисты, сопровождающим и переводчиком был Б. В. Кит. Состоялась экскурсия по всем 4-м отделениям лаборатории, пояснения давались специалистами этих отделений.

В 1986 году Б. В. Кит был отмечен золотым знаком Международного объединения имени Германа Оберта и Вернера фон Брауна (Нюрнберг, Германия). В 1991 году он избирается членом-корреспондентом, а в 1994 году — академиком МАФ (Париж). В 1995 году награжден золотой медалью Международного объединения им. Германа Оберта – Вернера фон Брауна за вклад в развитие астронавтики.

Отмечены заслуги Б. В. Кита и в Беларуси: в 1994 году ему присвоено звание Почетного доктора наук Гродненского государственного университета им. Янки Купалы, он имеет многочисленные на-

грады от государственных и общественных организаций, является почетным гражданином г. Новогрудка.

Б. В. Кит — один из основателей и вице-президент Международной академии наук Евразии, один из старейших членов Американского астронавтического общества, почетный член Британского межпланетного общества, член комитета директоров Немецкого астронавтического общества, член Международного объединения имени Германа Оберта и Вернера фон Брауна, с 1958 года — член Американского института аэронавтики и астронавтики.

Признавая заслуги Бориса Владимировича в развитии международного сотрудничества в космических исследованиях, Северо-Западная межрегиональная общественная организация «Федерации космонавтики России» в 2008 году направила Б. В. Киту благодарственное письмо, подписанное дважды Героем Советского Союза, летчиком-космонавтом СССР Георгием Михайловичем Гречко.

Борис Владимирович, которому минуло 100 лет, по-прежнему ведет активный образ жизни, поддерживает связь с Санкт-Петербургом, городом, в котором он родился и который навсегда останется с ним в его сердце. Он остается патриотом Беларуси, верным сыном ее многострадального народа…

Валерый КАЗАКОЎ-РАМАНКЕВІЧ

# Вяртанне дадому, адкуль ніколі і не сыходзіў

Эсэ

Дзесьці там, на ўскрайку неба, над чорным шчарбатым лесам вісела ўсім знаёмая, але ад гэтага не менш таямнічая поўня. Спрадвечнае жыццё каціласся пад гэтым лупатым нябесным вокам, як тое кола сансары. Дробненькія зорачкі, як мізэрныя дзіркі ў чорным радне, слязліва імглелі, і не было ім ніякага клопату аб тым, што робіцца ўнізе, як і чым жывуць там людзі. Магчыма, неба, якое паэты называюць «тварам бога», нават і не ведае пра людзей, яно нас не заўважае, як і мы не заўважаем мураўёў ці якіх-небудзь яшчэ больш дробных істотаў. Неба з тварам далёкага і жорсткага Бога жыве сваім жыццём, а насельніцтва Зямлі, якое і засяліла гэтае самае неба багамі, Касіяпеямі, Скарпіёнамі і ўсялякімі Мядзведзіцамі, жыве па-свойму, як умее. Сярод людскога разнамоўя, якраз пасярэдку Еўропы, жыў і жыве мой народ. Пералескі, рачулкі, азёркі, вёскі ды невялічкія мястэчкі, можа, якая жменя больш-менш вялікіх гарадоў, спаскуджанныя меліярацыяй балоты — вось і ўся нашая зямля, старажытная і сівая, якая ўсё аніяк не прыладкавалася жыць сваім розумам. Зірнеш у родную гісторыю як у студню — і нічога, толькі рэха, ды плёскаецца ў цёмнай вадзіцы нейкі сучасны адбітак. Дык хто ж мы і адкуль? Колькі разоў гучала гэтае пытанне ў наваколлі і колькі разоў адзін той жа народ адказваў на яго па-рознаму. Кім мы толькі не былі, пакуль не зрабіліся беларусамі: і крывічамі-радзімічамі, і сарматамі, і рускімі, і літвінамі, і палякамі, і паспалітымі, і ўніятамі, і жыхарамі Заходняга краю, і часткай савецкага народа, і бульбашамі, і нават тутэйшымі. Вось так, і няма ў гэтым ніякага гістарычнага сораму, бо ўсе сучасныя народы сталі самі сабой толькі ў васямнаццатым-дзевятнаццатым стагоддзях. Нікому ж сёння не прыйдзе ў галаву італьянцаў назваць рымлянамі, ці расіянаў — маскавітамі, ці ўкраінцаў — русінамі, але калісьці жыхароў тых мясцінаў так і звалі; прыкладна так і мы — беларусы — выйшлі з прадвечнай цемры ў сучасны свет. Так, мы былі ўсім тым, аб чым гаварылася вышэй, былі, бо такі наш гістарычны шлях. І хвала Магутнаму Богу, што сталася як сталася і ў нас ёсць сёння незалежная дзяржава, ёсць родная мова, свая будучыня і свае Геніюшы.

Нялёгкі наш лёс, але ж ён наш і іншага ўжо не будзе. Як не будзе другога Барыса Кіта… На жаль, людзі жывуць нядоўгай памяццю.

Каго мы памятаем? Ну бацькоў, так-сяк бабулю з дзядулем, і ўсё — далей цемра і загубленыя дзесьці могілкі продкаў, парослыя быллём нашай абыякавасці. Што зробіш, але такой жа памяццю жыве і дзяржава, і выцягваючы з глыбіняў гісторыі вядро мінулага, яна бачыць у вадзе толькі сваё аблічча. Але я перакананы, што пройдзе і гэта, і надыдзе той час, калі імёны вялікіх сыноў нашай краіны будуць вядомыя і ўшанаваныя на Радзіме.

Барыс Уладзіміравіч Кіт, выдатны навуковец, адзін з тых, хто вынайшаў паліва, на якім чалавецтва ўпершыню даляцела да свайго бліжэйшага суседа — Месяца. Той самай поўні, якая так прыгожа красуецца на ўскрайку роднага спазору. Але ж я скажу некалькі слоў не пра навукоўца і спадара прафесара, можа, праз тое, што ні халеры не разумею ў касмічнай навуцы, а пра паліва ведаю толькі адно: што яно выпадкова заканчваецца ў маім самаходзе і становіцца год ад года ўсё даражэйшым. Я распавяду аб сталым, прыгожым чалавеку, з якім сустрэўся ў Франкфурце гадоў з сем таму.

Барыс Кіт увайшоў у мой лёс праз Васіля Быкава. У кожнага чалавека ёсць у жыцці свае павадыры, якія нябачна накіроўваюць цябе ці ў той, ці ў іншы бок. Адным з такіх павадыроў у мяне быў і застаецца дзядзька Васіль, бясконцы космас якога ўвабраў у сябе і боль, і сорам, і сумленне нашай сучаснасці, ды і ўсяго дваццатага стагоддзя. Я збіраўся ў Нямеччыну на кніжную выставу, і Ірына Міхайлаўна Быкава (жонка Васіля Уладзіміравіча) параіла спаткацца там са спадаром Барысам. «Ой, яму будзе вельмі прыемна! — матнула рукамі на маё «а ці зручна… у такім узросце…». — Вы нават не ведаеце, як ён там чакае ўсялякай весткі адсюль, чакае беларушчыны…»

Вось так у маё жыццё і ўвайшоў Барыс Уладзіміравіч, рухавы, зіхоткі чалавек — гонар і боль свайго часу. Мы хадзілі з ім па вузенькіх брукаваных вулічках старажытнага места, заходзілі ў храмы, кавярні, пілі самае смачнае ў свеце піва. Ён паціху смактаў чорны, як аксаміт «Гінас», я сапраўдны «Паўлайнер», і размаўлялі. Не, я больш слухаў, а ён казаў. Цудоўная, нібы крыштальная і глыбокая беларуская мова, крыху прыглушаная доўгімі гадамі выгнання, прыгожа гучала пад склепавымі столямі. Чаму я ўсё гэта тады не пісаў на дыктафон, не ведаю. Ён памятаў усё: імёны і прозвішчы першых настаўнікаў, сяброў, польскіх, савецкіх і нямецкіх следчых; час, калі штосьці адбылося ці здарылася. Калі ён пра нешта распавядаў, здавалася, што я не толькі гэта бачу, але і адчуваю пах палыну, скрып пяску на зубах, чую нейкія гукі… Калі піва стала занадта, у нашую гутарку вельмі павольна і стройна ўплыў голас спадарыні Тамары, і тады я ўбачыў, што такое прыгажосць, якую не здолее зруйнаваць ні сталы век, ні цяжкі лёс выгнанца. Яны сціпла развіталіся і паехалі дахаты, нават не — яна праводзіла свайго

каханага да ягонага жытла і рушыла да сваёй кватэры. Бо двум каханням вельмі цесна ў адным пакоі. Пакуль яны ішлі да дзвярэй, турыстычны грай паціху змаўкаў, усе позіркі як прыліплі да гэтай пары: яму тады было амаль дзевяноста пяць, ёй — шэсцьдзесят чатыры, а ідуць разам па жыцці ўжо амаль трыццаць пяць гадоў. Вось так.

Пра стары Франкфурт Кіт распавядаў вельмі цікава, абавязкова падкрэсліваючы нейкія выпадкі і справы, якія тут калісьці адбыліся і датычыліся беларусаў. Так умелі распавядаць пра Парыж старыя расейскія эмігранты. Мяне цікавілі мясціны, у якіх быў Васіль Быкаў. Ужо потым у Маскве я чытаў цудоўную кнігу Васіля Уладзіміравіча пра жыццё і сустрэчы з Кітом. Ім вельмі пашанцавала, што яны сустрэліся на гэтай зямлі, абодва на чужыне і абодва геніі.

Тыдзень, цэлы тыдзень адвёў лёс на нашую сустрэчу. З’ехаўшы на два дні ў Мюнхен, я ўжо сумаваў і дакараў сябе, і цягнуўся назад да гэтага чалавека. Шмат Барыс Уладзіміравіч распавядаў пра свайго сына, які, як і бацька, стаў знакамітым навукоўцам. Лепшымі помнікамі нашых зямных спраў з’яўляюцца нашыя дзеці, гэта нейкі крок у несмяротнасць, нават калі дзеці паміраюць раней бацькоў…

Дзякуй Богу, што тое нашае спатканне працягваецца і дагэтуль. Я атрымліваю лісты і тэлефаную вечнаму беларусу.

Навуковая спадчына Барыса Кіта і ягонага сына Уладзіміра вядомая ў свеце, але Барыс Уладзіміравіч пакінуў свой след не толькі ў небе і на Месяцы, ёсць і яшчэ адзін зорны шлях гэтага вялікага чалавека, шлях зямны, шлях беларускі. І пачынаецца ён з настаўніцтва і настаўніцкіх школаў, ім заснаваных, з усё той жа беларускай справы. З гэтага, прынамсі, пачыналі амаль усе нашыя нацыянальныя Геніюшы, да якой бы галіны дзейнасці яны не належалі. І самым вялікім ушанаваннем нашаму славутаму земляку сёння будзе не толькі музей у ягоным родным Наваградку, не толькі ганаровыя дошкі, самаробныя помнікі і дзяржаўныя ўзнагароды — галоўным будзе беларуская мова, якую ён нёс людзям і пры пальшчызне, і пры савеччыне, і пры фашыстах, мова, за выкладанне якой яго кідалі ў турмы, судзілі на смерць, чаплялі шыльду здрадніка і гналі з Радзімы.

Мова, на якой ён, у адрозненне ад многіх з нас, размаўляе і цяпер, бо толькі на гэтай мове мы будзем размаўляць з Госпадам, калі прыйдзе наш час.

Я рады, што спадар Кіт вяртаецца дадому.

Іосіф СЯРЭДЗІЧ, «Народная воля»

# Незабыўныя дні з Барысам Кітом

Так, яны назаўжды застануцца ў маёй памяці. І не толькі ў маёй. Разам са мной да Барыса Кіта ў Франкфурт-на-Майне адправіліся яшчэ пяць беларусаў.

Прызнаюся, хваляваліся ўсю дарогу. А раптам… Чалавеку не пяцьдзясят і не семдзесят, а ўсе сто!

І якая радасць апанавала нас, калі мы ўбачылі перад сабой не нямоглага старца, а вясёлага, жыццярадаснага чалавека. Абдымкі, поціскі рук, першыя цёплыя словы… Я асабіста раней ні разу не сустракаўся з Барысам Уладзіміравічам, нашым славутым земляком, але, паверце, адчуванне было такое, быццам бы мы знаёмы даўным-даўно: ён вітаў кожнага з нас як блізкага, самага дарагога сябра. Такая ж сардэчнасць зыходзіла і ад яго вернай спадарожніцы Тамары. Здавалася, гэтых шчырых, лагодна-ўсмешлівых людзей паслаў нам сам Бог!

У многіх нямецкіх рэстаранах няма гардэробаў, наведвальнікі вешаюць вопратку побач са сталамі на разгалінаваныя рожкі. Я, як маладзейшы за Барыса Уладзіміравіча на сорак гадоў, вырашыў дапамагчы яму зняць куртку. І трапіў у нялоўкую сітуацыю. «Дзякуй, дзякуй, я сам», — пачуў ветлівы адказ векавога Кіта. А каб згладзіць маю разгубленасць, Барыс Уладзіміравіч пажартаваў: «Калі хочаце, я магу паказаць вам позу чаплі?»

Такога я не мог уявіць сабе нават у сне. Чалавеку сто, а ён можа стаяць на адной назе, выцягнуўшыся ўсім целам наперад і шырока раскінуўшы рукі. «Штодзённая гімнастыка дапамагае, — заўважыўшы наша здзіўленне, удакладніў юбіляр. — Кожны дзень з Тамарай хвілін па трыццаць займаемся».

Вядома ж, такое незвычайна цёплае знаёмства з Барысам Уладзіміравічам нібы рукой зняло тое хваляванне, якое адольвала падчас пералёту з Мінска ў Франкфурт-на-Майне. Выбраўшы ўтульнае месца ў галоўнай зале рэстарана, мы ўсе размясціліся за адным доўгім сталом. Пакуль рассаджваліся, спадар Кіт некалькі разоў паўтарыў: «Як я цешуся, як я цешуся…» Пагадзіцеся, якое прыгожае слова — цешуся. Сёння ў Беларусі яго не часта пачуеш. Звычайна кажуць: радуюся. А Барыс Уладзіміравіч Кіт, з якім мы бачыліся два дні, ледзь не праз кожныя дзесяць хвілін прамаўляў: «Як я цешуся…» Гаварыў ён на чысцюткай беларускай мове. Як быццам не шэсцьдзесят шэсць гадоў таму пакінуў Бацькаўшчыну, родную Беларусь, а толькі ўчора ці ў крайнім выпадку пазалетась.

…Мы аднымі з першых беларусаў віншавалі стогадовага юбіляра-земляка, чалавека, якога ведаюць ва ўсім свеце за яго глыбокі розум, за яго велізарны ўклад у сусветную навуку, за яго гуманістычную грамадзянскую пазіцыю. Па ўсім было бачна: Барыс Уладзіміравіч цешыўся кожнаму прывітанню, кожнаму слову, перададзенаму з Бацькаўшчыны. Вось ён трымае ў руках амаль трохкілаграмовы духмяны каравай «Радзівілаўскі», а ў вачах блішчаць, быццам ранішняя раса, слёзы. Слёзы радасці! Сувеніры з Радзімы падрыхтавала не толькі нашая кампанія. Арыгінальныя, з нацыянальным каларытам гасцінцы перадалі праз нас жонка Васіля Быкава — Ірына Міхайлаўна, літаратуразнаўца Лідзія Савік, прафесар Адам Мальдзіс.

Пасля афіцыйнай цырымоніі наступае момант падняць тост за Барыса Уладзіміравіча, да ста гадоў якому на той дзень не хапала менш тыдня. Я глянуў спачатку на спадарыню Тамару, потым на самога Кіта, пытаючыся: «Што будзем піць?» Па выразе твараў зразумеў: «Усё, што і госці». Заказалі чырвонае віно. Пад цікавую гутарку не заўважылі, як за першым келіхам апусцеў другі… Гэта ўжо назаўтра я спытаю ў Барыса Уладзіміравіча: «Як самаадчуванне?». І пачую: «Нармальнае». Аказваецца, спадар Кіт, пражыўшы сто гадоў, у жыцці ні ад чаго не адмаўляўся. Але і нічым не злоўжываў. Моцнымі спіртнымі напоямі не захапляўся, а вось келіх віна ці кufаль піва выпіць мог. Як кажуць, не перабіраў і з харчамі. І гэта, мабыць, таму, што ў дзяцінстве зведаў голад. Каб неяк выжыць пасля рэвалюцыі 1917 года, бацькі вымушаны былі вярнуцца з Піцера ў вёску Агароднікі Карэліцкага раёна, што на Гродзеншчыне.

За сталом — восем чалавек. Гутарка не спыняецца ні на хвіліну. Мы, землякі Барыса Кіта, з цікавасцю ловім кожнае яго слова, кожны рух яго рук, кожную ўсмешку. Баімся стаміць яго сваімі пытаннямі, а ён, здаецца, толькі цешыцца ад таго, што мы іх безупынна задаём, іншы раз не звяртаючы ўвагу на этыкет. Вось нехта зноў пацікавіўся здароўем Барыса Уладзіміравіча, маўляў, ці часта наведвае дактароў. Дзякуй Богу, у гэтым асаблівай патрэбы няма. Хоць яго малодшы сын адзін з самых вядомых лекараў у ЗША, па дапамогу да яго і да іншых дактароў спадар Кіт звяртаецца ў рэдкіх-рэдкіх выпадках. Калі ён вельмі гучна засмяяўся, я заўважыў: якія прыгожыя зубы! Няўжо свае? Пытацца ў самога юбіляра неяк няёмка, а таму, выкарыстаўшы момант, вырашылі пацікавіцца ў Тамары. І пачулі: «Усе зубы ў Барыса Уладзіміравіча свае, толькі на некалькіх стаяць каронкі». Во малайчына! Усім бы беларусам такія зубы!

І не толькі зубы. Моцнае ў спадара Кіта здароўе! Гляджу, пятая гадзіна пайшла, як мы сядзім за сталом. Я і мае малодшыя сябры ўжо не супраць таго, каб адпачыць, а стогадовы Кіт бесперапынна працягвае расказваць пра жыццё-быццё, як быццам яго нішто не

турбуе. І толькі спадарыня Тамара, прыкладна праз паўгадзіны, намёкам дае зразумець: можа, на сёння хопіць, заўтра ж зноў сустракаемся?

Дамаўляемся: інтэрв'ю, якое мы яшчэ ў Мінску вырашылі ўзяць у Барыса Уладзіміравіча не зусім звычайна, пераносім на наступны дзень. Я, праўда, пакуль не кажу, што пытанні будуць не толькі ад мяне, але і ад іншых журналістаў «Народнай Волі». Але што да гэтага Барысу Уладзіміравічу? Ён, мне падалося, настолькі рады прызямленню ў Франкфурце-на-Майне «беларускага дэсанта», што гатовы задаволіць любую нашую просьбу.

...У нядзелю сустракаемся ў тым жа рэстаране, што ў самым цэнтры нямецкай фінансавай сталіцы. Каб ніхто не перашкаджаў браць інтэрв'ю, я знайшоў ціхі куточак у другой зале. Вядома ж, першыя пытанні задаваў свае, прадуманыя яшчэ ў самалёце.

*— Барыс Уладзіміравіч, на вашым жыццёвым шляху было столькі выпрабаванняў, столькі розных цяжкасцяў, што далёка не кожны вытрымаў бы. Вы не проста вытрымалі ўсе экзамены жыцця, але, як кажуць, узялі лёс у свае рукі. Як вам гэта ўдалося?*

— Я лічу, усё залежыць ад людзей. Адны — рашучыя, другія — менш рашучыя, адны больш разумеюць, як ім дзейнічаць у той ці іншай складанай сітуацыі, другія менш. Ну я, можа, больш рашуча дзейнічаў, а калі казаць канкрэтна, заўсёды імкнуўся да лепшага, цікавейшага. Думаеце, лёгка было пакідаць Радзіму, падавацца на Захад? Але я прааналізаваў усе акалічнасці і прыйшоў да высновы: мне ў чарговы раз пагражае небяспека, а калі так, то я павінен ратавацца...

*— Далейшы ваш лёс залежаў ад таго, якое рашэнне вы прымеце...*

— Так. Некаторыя мае сябры казалі: што ты робіш, Барыс, куды едзеш, што цябе чакае? Ці варта зрушвацца з месца... Я цвёрда вырашыў: варта!

*— Час паказаў, што вы тады прынялі адзіна правільнае рашэнне. А можаце, ужо з вышыні сённяшніх дзён, назваць некалькі сапраўды лёсавызначальных эпізодаў са свайго жыцця?*

— Усе маладыя гады я прысвяціў асветніцтву. Нават падчас вайны вучыў дзяцей. Дык вось, калі ў Паставах узначальваў семінарыю, быў такі жудасны выпадак. Немцы правялі карную аперацыю, усеялі горад трупамі. Прыходзіць палкоўнік-германец і кажа: арганізуй семінарыстаў на ачыстку горада ад забітых. Я разумеў, чым гэта можа адгукнуцца ў будучым для мяне, а таму адмовіўся ад выканання такога даручэння. Тады немец выхоплівае пісталет і цэліцца ў мяне. Добра, што побач стаяў бургамістр, які схапіў яго за руку і

папрасіў не пазбаўляць настаўніка жыцця, маўляў, пытанне будзе вырашана і без яго ўдзелу. Калі б бургамістр прамарудзіў нейкую секунду — мяне ў жывых не было б. У той жа час я не меў права запляміць сябе супрацоўніцтвам з немцамі.

*— Падчас вайны яшчэ былі выпадкі, калі жыццё вісела на валаску?*

— Калі б я не пакінуў Беларусь і не падаўся на Захад, са мною было б тое, што сталася з мільёнамі бязвінных савецкіх людзей. Хоць я, акрамя вучыцельства, нічым іншым не займаўся.

*— А на Захад як прабіраліся?*

— З прыгодамі. Даводзілася прымаць рызыкоўныя дзеянні. Калі я знаходзіўся ў Зальцбургу, Чырвоная Армія брала ўжо Вену, у якой засталіся мае рэчы. Я вырашыў падскочыць за імі. Прыехаў, а там ужо цягнікі не ходзяць. Трэба як-небудзь шмыгануць на Захад. Толькі мясцовы цягнік ішоў у Сант-Пэйтэн, гэта такая мясцовасць. Думаю, пад'еду хоць кіламетраў пятнаццаць, а там пайду пешшу.

*— Змаглі усё ж такі вырвацца?*

— Лёс спрыяў мне. Прыехаў я ў Сант-Пэйтэн, бачу, стаіць санітарны цягнік. У «гармоніку», які злучае вагоны, сядзяць людзі. Я заскочыў, праз нейкіх пару хвілін цягнік крануўся…

*— За плячыма сто гадоў, поўны век. Што лічыце галоўным дасягненнем жыцця?*

— Галоўнае дасягненне, лічу, звязана з тым перыядам, калі я працаваў у ракетнай галіне ЗША. Напачатку ў амерыканскай касманаўтыцы выкарыстоўваліся маламоцныя палівы, якія не дазвалялі значна прасунуцца наперад. Нарэшце навукоўцы звярнулі ўвагу на плыўкі вадарод. Аднойчы падыходзіць да мяне начальнік: «Барыс, падрыхтуй абагульняючы даклад па плыўкім вадародзе». Далі мне некалькі тыдняў, і я пачаў актыўна працаваць. У выніку напісаў вялікую працу, і гэта быў прарыў у маёй кар'еры. Плыўкі вадарод стаў асноўным ракетным палівам, дзякуючы яму амерыканцы змаглі паслаць карабель на Месяц, рэалізаваць праграму «Шатл» і многае іншае.

Я напісаў першы падручнік па ракетным паліве, якім дагэтуль карыстаюцца ў сусветных ракетных цэнтрах.

*— Барыс Уладзіміравіч, а што засталося ў жыцці нерэалізаваным?*

— У дзяцінстве я захапляўся ігрой на скрыпцы, маляваннем. Любіў гісторыю. Ледзь не паступіў на гістарычны факультэт Віленскага універсітэта, але ж у той год быў вялікі наплыў, і я пайшоў на матэматыку, што і вызначыла маё далейшае жыццё.

*— Раскажыце, калі ласка, пра тое, як склаўся лёс вашых дзяцей?*

— Скажу шчыра, я вельмі хачу, каб на Радзіме ведалі, што мой старэйшы сын Валодзя, які нарадзіўся ў 1941 годзе ў Лебедзеве пад Маладзечнам, быў адданым беларускім патрыётам. Ён цудоўна валодаў беларускай мовай, цікавіўся ўсім, што адбывалася на нашай Бацькаўшчыне. Займаў вялікую пасаду ў амерыканскім аэракасмічным агенцтве (NASA). На жаль, у мінулым годзе памёр. 4 лістапада нарадзіўся і 4 лістапада памёр. Я ўсім кажу: з ягонай смерцю напалову памёр і я.

Малодшы сын Віктар скончыў тры ўніверсітэты, знакаміты ў Амерыцы хірург. Маю дзвюх унучак і двух праўнукаў. Старэйшая ўнучка Марына скончыла балетную школу ў Вашынгтоне. Выступала на адной сцэне з сусветна вядомым Рудольфам Нурыевым.

*— Што вы ў людзях найбольш цэніце, найбольш паважаеце?*

— Дабрыню. Добрыя, шчырыя сяброўскія адносіны. Не такія, што пагаварыў — і ўсё. Калі паміж людзьмі сапраўдная дружба, тады лягчэй жыць на свеце.

*— Які, на ваш погляд, уклад жыцця найбольш спрыяльны для чалавека: заходні, ці, як мы кажам, наш, усходні, з адбіткам савецкай сістэмы?*

— Дэмакратычны, сапраўды дэмакратычны, а не імітацыя пад дэмакратыю. Той, калі чалавек можа жыць так, як марыць, як хоча жыць. Я лічу, што ў Амерыцы найлепшая ў свеце сістэма дэмакратыі.

*— Падсумоўваючы стогадовы жыццёвы шлях, вам можна толькі радавацца. Усявышні апекаваўся вамі, і таму вы прыйшлі да векавога юбілею ў добрым здароўі і радасным настроі…*

— Дзякуй Усявышняму, дзякуй лёсу, што кіраваў мною і даваў магчымасць вытрываць усе выпрабаванні!

*— Наступнае пытанне, магчыма, не зусім карэктнае. Вы, Барыс Уладзіміравіч, самі вырашайце, адказваць на яго ці не. Можна і не адказваць, і наогул парайце мне, уключаць яго ў інтэрв'ю ці не ўключаць. Але я, як ваш суайчыннік, як чалавек, які блізкі вам па духу, хацеў бы высветліць вось такое пытанне. Бессмяротных людзей не бывае, наступіць такі час, калі трэба будзе і вам, Барыс Уладзіміравіч, павітацца за ручку з Богам, а ён вам, я ўпэўнены, дазволіць гэта зрабіць. Але ж да нас, вашых землякоў, дайшла інфармацыя, што вы ўжо купілі месца тут, у Нямеччыне, для свайго пахавання. А не думалі наконт таго, каб вярнуцца на Бацькаўшчыну?*

— Я, безумоўна, думаў. Але для вас гэта такая цяжкасць будзе… Я не рашыўся на вашы плечы накладваць такія абавязкі. Тут ёсць Вісбадэн, там ужо ляжаць беларусы, архіепіскап Філафей…

*— Вы будзеце сярод супляменнікаў, родзічаў?*

— Так. Гэта першае. Там цудоўныя могілкі, на якіх пахавана нямала выдатных людзей, не толькі многіх расійцаў, але і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Ну і самае важнае: тут, у Нямеччыне, на іншых могілках 20–30 гадоў хаваюць, а потым наверх кладуць другіх, трэціх… Знікае чалавек. А вось гэтыя могілкі застаюцца назаўсёды…

*— Ну тады зусім шчыра… Я толькі баюся, каб вас не пакрыўдзіць. Але, скажыце, калі беларуская гісторыя захоча, можа, праз 50 гадоў, можа, праз 100, вярнуць вас на Радзіму, вы не супраць даць згоду на гэта сёння?*

— Згода. Добра.

Я звяртаюся да сябра, які запісваў гэтыя словы на лічбавую відэакамеру:

— Гэта гістарычны момант. Запішы: калі Беларусь захоча вярнуць свайго знакамітага сына дахаты, на Радзіму, ён сёння, адзначаючы сваё 100-годдзе, гаворыць, што дае на гэта згоду.

Барыс Уладзіміравіч працягвае роздум:

— Добра. Тое, што вы мне гаворыце, я чую ўпершыню. Але гэта робяць усе народы.

*— Так. Значыць, я не пакрыўдзіў вас гэтым пытаннем?*

— Барані Божа. Беларусь — заўсёды мая Бацькаўшчына.

*— А зараз, Барыс Уладзіміравіч, дазвольце перайсці да пытанняў, якія я прывёз для вас ад журналістаў «Народнай Волі». Святлана Калінкіна, напрыклад, просіць, каб вы адказалі на такое пытанне. У Беларусі вы працавалі дырэктарам гімназіі, настаўнікам, школьным інспектарам, а каб сёння вярнуцца ў тыя гады, ад якіх памылак вы ў першую чаргу перасцераглі б сваіх вучняў? Які галоўны ўрок дало вам жыццё?*

— Шчыра кажучы, ёсць вучні якія радуюць і сваіх настаўнікаў, і сваіх бацькоў, а ёсць такія, якія, на жаль, не хочуць вучыцца. А ў жыцці самае галоўнае — гэта веды. Як кажуць, трэба вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца! Нельга марнаваць час на ўсялякія гулянкі-п’янкі, іншыя ганебныя рэчы. Адным словам, мая парада: самае дарагое — гэта час, не губляйце яго дарэмна.

*— А які галоўны ўрок усё ж такі дало вам жыццё?*

— Быць добрым чалавекам. Нікому шкоды не рабіць. Мець чыстае сумленне. Я ніколі нікому не стараўся зрабіць дрэнна, толькі наадварот. Адным словам, трэба быць добрым для ўсіх…

*— Барыс Уладзіміравіч, вось пытанне ад Марыі Эйсмант. За часы праўлення Лукашэнкі шмат маладых перспектыўных людзей*

*пакінулі Беларусь. Як вы ставіцеся да іх рашэння будаваць сваё будучае па-за межамі Радзімы? Ці можна іх асуджаць, папракаць тым, што нельга будаваць дэмакратыю на сваёй радзіме, знаходзячыся за тысячы кіламетраў ад яе?*

— Вандруючы па свеце, я пазнаёміўся з мноствам вялікіх людзей, якія дапамагалі сваёй Бацькаўшчыне лепш, чым некаторыя з тых, хто пражываў на месцы.

Вось і я. З’ехаў у Амерыку, але ні на адзін дзень не забываў і не забываю пра Радзіму.

*— Што б вы маглі параіць маладым беларусам, якія ўсё ж такі ў сённяшніх умовах пакідаюць Беларусь…*

— Пакідаць, калі ўзнікае такая неабходнасць, часова, а не назаўсёды. І дапамагаць Бацькаўшчыне ўсім, чым толькі можна.

*— І яшчэ пытанне ад Марыі Эйсмант. Ці цікава, Барыс Уладзіміравіч, жыць у такім узросце, якога дасягнулі вы?*

— Як для каго. Праўда, трэба прызнаць, што калі чалавек старэе, з’яўляецца нейкая апатыя, але гэта залежыць ад таго, як хто ставіцца да жыцця. Я яшчэ вельмі за ўсё перажываю, усім цікаўлюся, таму не згубіў прагу да жыцця.

*— Зараз я зачытаю пытанні Марыны Коктыш. Першае — як вы спраўляецеся са стрэсамі?*

— Стараюся пераключацца на нейкую іншую тэму, не ўзгадваць тое, што сапсавала настрой. Не трэба забіваць сябе дрэннымі думкамі… Больш увагі звяртаць на галоўнае і менш — на другаснае.

*— Тая ж Марына Коктыш прасіла мяне задаць такое далікатнае пытанне: для вас тэма любові, кахання заўжды была актуальна?*

— Як тут адказаць… Калі мець на ўвазе чыста фізіялагічны бок, то з узростам актуальнасць гэтай тэмы, безумоўна, зніжаецца, але набывае большае значэнне фактар маральнасці, прыгажосці ў адносінах паміж мужчынам і жанчынай.

*— Ці былі ў вас учынкі ў адносінах да жанчын, за якія потым было сорамна?*

— Не было. Я заўсёды шкадаваў сваіх прыхільніц і стараўся да апошняга быць з імі.

*— Малады журналіст Віталь Гарбузаў пытаецца, што, на вашу думку, павінны зрабіць беларусы, каб стаць сапраўды свабоднымі людзьмі на сваёй зямлі?*

— Пабудаваць сапраўды дэмакратычную дзяржаву. Улады не павінны кідаць людзей у турмы за іх погляды. І яны, улады, павінны разумець, што яны не вечныя…

*— Пытанне Івана Макаловіча: чаму Беларусі так рэдка шанцавала на лідараў?*

— Я так не казаў бы. Лічу, што за сваю гісторыю Беларусь мела нямала выдатнейшых лідараў. Я добра ведаў, напрыклад, Браніслава Тарашкевіча. Ён быў вялікім чалавекам!

*— Алена Малочка прасіла спытаць у вас, ці даводзілася вам сустракацца з публіцыстам, гісторыкам, дзеячам старой рускай эміграцыі Глебам Рарам?*

— Не даводзілася.

*— Яшчэ адно яе пытанне. Як вы думаеце, ці хутка наша грамадства пазбавіцца ад жорсткіх ідэалагем, ад вечнага падзелу людзей на «сваіх» і «чужых»?*

— Мяркую, што не хутка. Трэба спачатку змяніць сістэму, у якой жыве грамадства, надаць ёй сапраўды дэмакратычную аснову.

*— Вашы пажаданні беларусам, сваім суайчыннікам — тым, якія жывуць на Бацькаўшчыне, і тым, якія жывуць за яе межамі: што б вы сёння маглі ўсім нам пажадаць?*

— Каб усе былі шчаслівыя. Свабода, дэмакратыя — лепшы лад жыцця. Каб усё гэта было ў беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне.

...Два дні доўжылася наша сустрэча ў Франкфурце-на-Майне са слынным сынам Беларусі Барысам Уладзіміравічам Кітом. Час праляцеў як адна хвіліна. Ужо ў самалёце я міжволі падумаў: добра было б, каб ён у такім веснавым настроі сустракаў і наступныя свае юбілеі — у 105, 110 і нават у 120 гадоў.

Доўгіх і радасных дзён вам, Барыс Уладзіміравіч!

*Мінск–Франкфурт-на-Майне–Мінск, 2010*

Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік

# Сто гадоў Вялікаму Беларусу

У час перабудовы і развалу СССР (канец 1980-х – пачатак 1990-х гадоў мінулага стагоддзя) мы пачалі патроху даведвацца праўду пра нашых беларускіх эмігрантаў, пра якіх бальшавіцкі афіцыёз удзёўбваў нам у галаву, што ўсе яны «здраднікі» і «калабаранты». Тады адбылося і вяртанне імя Барыса Кіта — спачатку ў невялікіх артыкулах, а ўжо ў 1992 годзе ён сам змог — амаль праз 50 гадоў жыцця за межамі Беларусі — прыехаць на Бацькаўшчыну. Тады і я з ім пазнаёміўся. Нягледзячы на ўжо досыць сталы ўзрост (82 гады), я ўбачыў жвавага, энергічнага, добразычлівага і абаяльнага чалавека, які загаварыў на цудоўнай беларускай мове. Мы хутка знайшлі агульныя тэмы для размовы, і здавалася, што даўно знаёмыя.

Я быў уражаны яго складаным жыццёвым шляхам ад сялянскага хлопчыка да выдатнага навукоўца, педагога і грамадскага дзеяча. Здзіўляла яго жыццяўстойлівасць, мэтанакіраванасць да авалодання ведаў. Ужо вядомы навукоўца ў галіне касманаўтыкі, прафесар матэматыкі, якім ён стаў, маючы толькі званне магістра філасофіі ў галіне матэматыкі, Барыс Уладзіміравіч у 73-гадовым узросце абараніў дысертацыю на навуковую ступень доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі.

У Акадэмію навук Беларусі паступілі заявы ад акадэміка Юрыя Астроўскага і прафесара Адама Мальдзіса з прапановай абраць Барыса Кіта ганаровым ці замежным членам нашай Акадэміі навук. Я як віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, адказваючы за кадры, заняўся гэтай справай. Бюро Прэзідыума Акадэміі якраз абмяркоўвала магчымасць зноў аднавіць такія выбары, якіх ужо не было амаль 35 гадоў. Мае намаганні не прынеслі станоўчага выніку, бо да беларусаў-эмігрантаў ваеннага часу тады яшчэ ставіліся з вялікай асцярогай, ды і нашыя фізікі і матэматыкі мала ведалі працы Барыса Кіта.

Зноў мы сустрэліся з Барысам Уладзіміравічам у верасні 1994 года на Генеральнай асамблеі толькі што заснаванай грамадскай Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі ў Менску. Мы аднагалосна абралі нашага славутага земляка членам Акадэміі і яе віцэ-прэзідэнтам. У першай палове 1990-х гадоў адбылося выбуховае прызнанне Барыса Кіта як выдатнага навукоўца ў галіне астранаўтыкі і матэматыкі і грамадскага дзеяча, гонару беларускага народа. Ён быў абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж, 1994), ганаровым доктарам навук Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта

імя Янкі Купалы (1994), узнагароджаны залатым медалём Германа Оберта і Вернера фон Брауна (ФРГ) за ўклад у развіццё астранаўтыкі і інш. З'явілася шмат публікацый пра яго жыццё і дзейнасць. Аповеды Барыса Кіта ў 2001 годзе запісаў Васіль Быкаў пад назвай «Цярновы шлях». Шырокая вядомасць да Барыса Уладзіміравіча прыйшла досыць позна, але Бог быў да яго літасцівы і даў яму даўгалецце, каб ён адчуў прызнанне і славу на Радзіме і ва ўсім свеце пры жыцці, а не пасля адыходу ў іншы свет, як гэта часта адбываецца.

У 2000 годзе ён быў абраны ганаровым старшынёй «Рабочай групы Беларуска-Нямецкіх спатканняў», якая была заснавана пры Свабодным універсітэце Берліна. Была заснавана прэмія Барыса Кіта для ўзнагароджання найбольш актыўных дзеячаў беларускай культуры і нацыянальнага адраджэння. Такая прэмія ў 2004 годзе стала для мяне адной з самых прыкметных і дарагіх.

Шырока, цёпла і ўзнёсла былі адзначаны 85-гадовы, 90-гадовы, 95-гадовы юбілеі Барыса Кіта, якога часта сталі называць «грамадзянін свету». Але мяне больш за ўсё ў постаці гэтага волата прыцягвае яго беларускасць. Нягледзячы на неймаверныя цяжкасці свайго жыцця, адрыў ад Бацькаўшчыны, працэсы глабалізацыі, ён заўсёды заставаўся сапраўдным патрыётам Беларусі, прыхільнікам беларушчыны, і гэтыя святыя пачуцці перадаваў сваім вучням, калі быў настаўнікам і дырэктарам розных навучальных устаноў і пры паляках, і пры Саветах, і пры немцах. Як ён сам успамінаў: «Пры ўсіх уладах мне даводзілася сядзець у турмах за тое, што я вучыў дзяцей беларускай мове і гісторыі». Крэда жыцця Барыса Кіта — ягоныя словы: «Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй Радзімы і яе славы…» З гонарам за Барыса Кіта, якому споўнілася 100 гадоў, хочацца падкрэсліць, што ён застаецца шчырым беларусам, прычым не проста грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны, а Вялікім Беларусам, вядомым ва ўсім свеце.

6 красавіка 2010 года ў зале Палаца мастацтваў адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею Барыса Кіта. Святлана Кліменценка ў «Народнай волі» адзначала: «Усе, хто выступаў на вечарыне ў перапоўненай зале, з любоўю і глыбокай пашанай гаварылі пра сына беларускай вёскі, які стаў сапраўдным Чалавекам свету… але пры тым застаўся, па яго ўласным прызнанні, 100-працэнтным беларусам.

[…] Аб гэтым ён напісаў у сваім прачулым вітанні «светлым беларусам», што сабраліся ў гэтай зале. Яго зачытала вядомая навукоўка, аўтар кніг пра Барыса Кіта, яго першы біёграф Лідзія Савік. У выступах старшыні аргкамітэта святкавання пісьменніка Васіля Якавенка, старшыні МГА «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"»

Алены Макоўскай, лаўрэата прэміі Б. Кіта і Міжнароднай прэміі «Еўрапейскі паэт Свабоды», майстра пяра і гісторыка Уладзіміра Арлова, акадэміка НАН Беларусі Радзіма Гарэцкага, паэта Сяргея Законнікава, дырэктара Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамары Вяршыцкай, старшыні Беларускага фонду культуры Уладзіміра Гілепа, старшыні Мінскага культурна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоля Белага, знанага палітыка Станіслава Шушкевіча, брата юбіляра Льва Кіта, галоўнага рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча і іншых паўставала магутная постаць сапраўднага «кіта́» навукі і беларускасці…»

Калі я па тэлефоне павіншаваў Барыса Уладзіміравіча, у адказ пачуў бадзёры голас шчаслівага чалавека, якому ніколі не дасі столькі гадоў.

# У Мінску адбылася вечарына, прысвечаная 100-гадоваму юбілею Барыса Кіта

6 красавіка 2010 года адзначыў 100-гадовы юбілей славуты беларускі вучоны Барыс Уладзіміравіч Кіт — акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, заслужаны прафесар Вашынгтонскага Мерылендскага ўніверсітэта, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, ганаровы сябра Брытанскага міжпланетнага таварыства, сябра Дырэктарыяту нямецкага Астранаўтычнага таварыства, ганаровы прафесар Гродзенскага ўніверсітэта, Ганаровы грамадзянін г. Наваградка, які цяпер жыве ў Германіі, у Франкфурце-на-Майне.

У Мінску ў дзень нараджэння славутага вучонага адбылася святочная вечарына ў яго гонар. Арганізатарам яе выступіла Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Сам Барыс Уладзіміравіч, на жаль, не змог прыехаць у Беларусь. Але ягонае вітанне ўсім, хто прыйшоў на вечарыну, зачытала яго давераная асоба Лідзія Савік. Яна распавяла пра тое, як Барыс Кіт адсвяткаваў дзень нараджэння ў Франкфурце-на-Майне, дзе ён цяпер пражывае. Мэрыя горада арганізавала прыём з гэтай нагоды. Гучала класічная музыка. Барыс Кіт атрымаў вельмі шмат віншаванняў і падарункаў. Артыкулы пра юбілей змясцілі цэнтральныя газеты Нямеччыны. Сярод іншых свае віншаванні юбіляру перадалі прэзідэнт Нямеччыны Хорст Келер, Расійская федэрацыя касманаўтыкі імя К. Цыялкоўскага, касманаўт Уладзімір Кавалёнак.

Падчас святочнай вечарыны ў Мінску Барыса Кіта павіншавалі акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч, лаўрэаты прэміі імя Барыса Кіта пісьменнікі Сяргей Законнікаў і Уладзімір Арлоў, мастак Мікола Купава, дырэктар Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея, дзе знаходзіцца экспазіцыя, прысвечаная Барысу Кіту, Тамара Вяршыцкая, старшыня культурна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоль Белы, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, галоўны рэдактар газеты «Народная Воля» Іосіф Сярэдзіч і многія іншыя.

Перадаў свае віншаванні і міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Іх зачытаў супрацоўнік міністэрства Віктар Маліноўскі.

Прыемнай нечаканасцю стала вестка пра тое, што на вечарыне прысутнічае родны брат юбіляра Леў Уладзіміравіч Кіта. «Заўсёды казалі: “Той, хто там, — гэта чужы”. Але я сёння спакойны, бо я бачу, што для вас Барыс Кіт свой», — з удзячнасцю прамовіў Леў Уладзіміравіч.

Музычным упрыгожаннем імпрэзы сталі выступленні заслужанага артыста Беларусі Віктара Скорабагатава, бардаў Таццяны Беланогай і Алеся Камоцкага.

На завяршэнне імпрэзы айцец Леанід Акаловіч (БАПЦ) прачытаў малітву за здароўе Барыса Кіта.

*Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»*

# Вітанне Барыса Кіта гасцям святочнай вечарыны ў Мінску

*Дарагія Суродзічы!*

Сардэчна вітаю Вас усіх, хто ўганараваў мяне сваёй прысутнасцю дзеля святкавання майго юбілею. Вельмі шкадую, што з прычыны свайго ўжо не вельмі моцнага здароўя не змог прыехаць да Вас у Менск, каб разам з Вамі адзначыць мой дзень народзінаў. Згадваючы сваё жыццё, я шырэй бачу панараму пакутнага, а ў нечым і шчаслівага стагоддзя, якое мне давялося перасягнуць. Можа, Бог пакінуў мяне на гэтай грэшнай зямлі так надоўга якраз для таго, каб я, апроч усяго іншага, змог пакінуць сведчанні пра дарагіх майму сэрцу незабыўных, светлых людзей і падзеі свайго часу? А я ведаў многіх выдатных асобаў і нашай Бацькаўшчыны, і з іншых краінаў свету.

Мне не патрэбна многа апавядаць пра сябе; маё жыццё Вам вядомае з кніг, артыкулаў, дакументальных фільмаў, створаных на Бацькаўшчыне.

Усявышні зрабіў, што маё жыццё аказалася такім працяглым, поўным усялякіх падзеяў, здарэнняў — радасных і сумных сустрэчаў, стратаў і здзяйсненняў. Але ёсць у ім два галоўныя перыяды: жыццё ў Беларусі і за яе межамі. На Беларусі я жыў у Заходняй яе частцы і праз асветніцкую дзейнасць браў актыўны ўдзел у нацыянальным адраджэнні — спачатку над польскай, а пазней нямецкай акупацыяй, за што і гібеў або ў польскіх турмах, або ў нямецкай камеры смерці.

Ваенныя падзеі прычыняліся да таго, што я эміграваў на Захад, канчальна ў ЗША, дзе правёў самую шчаслівую частку жыцця і ў асабістым, і ў грамадскім сэнсе, зрабіўшы дасягненні, вядомыя ўсім. Афарыстычна сказана адным з нашых пісьменнікаў, што я трапіў у «вока амерыканскага ўрагану» і рабіў, што магчыма, для славы і дабра і Радзімы, і Амерыкі.

Усявышні спрыяў гэтак, што мне ўдалося падняцца з нізінаў жыцця, вырвацца з кіпцюроў смерці і трапіць у абставіны, калі можна было рабіць нешта карыснае для ўсяго чалавецтва.

Асабліва ганаруся тымі гадамі жыцця, якія я правёў на Бацькаўшчыне. Гэта былі сапраўды рэвалюцыйныя гады, калі я вучыўся ў Навагрдскай беларускай гімназіі і пазней быў настаўнікам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, якую Васіль Быкаў назваў калыскай беларускага адраджэння. Я таксама браў удзел у дзейнасці дзвюх знакамітых арганізацый таго часу: Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе і Таварыстве беларускай школы, супрацоўнічаў з такімі гістарычнымі асобамі, як Б. Тарашкевіч, А. Луцкевіч, Р. Астроўскі, Р. Шырма, А. Станкевіч, браты Ільяшэвічы, Я. Драздовіч, Ф. Аляхновіч і многімі іншымі. Таксама давялося гібець за гэта ў вязніцах Навагрaдка і ў Вільні на Лукішках (дарэчы, у адной камеры з сенатарам ад Беларусі ў Польскім сойме Васілём Рагулем), дзе некалі гінуў наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі.

А сёння пры канцы майго доўгага жыццёвага шляху маю вялікую радасць спаткаць Вас усіх у гэтай зале. Ведаю, што тутака сабралася светлая частка нашага грамадства, бо Вы працягваеце беларускае Адраджэнне, чым жылі і займаліся мы ў свой час на карысць нашага гаротнага народа.

За гэта Вам належацца падзяка і слава!

Ад глыбіні майго сэрца хачу зложыць мае найлепшыя пажаданні Вам усім, моцнага здароўя, шчасця ў Вашым асабістым жыцці, шмат поспехаў у прафесійнай і грамадскай дзейнасці! Хай Бог заўсёды трымае Вас у сваёй ласкавай апецы! Жыве Беларусь!

*Барыс КІТ*

## Віншаванне ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

*Паважаны Барыс Уладзіміравіч!*

З пачуццём глыбокай павагі сардэчна віншую Вас з нагоды 100-гадовага юбілею.

Мы ганарымся Вамі — нашым суайчыннікам, — вучоным, якога ведае ўвесь свет, ганаровым доктарам навук Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, ганаровым грамадзянінам Навагрaдка. Экспазіцыя, прысвечаная Вам у мясцовым краязнаўчым музеі, карыстаецца вялікай цікавасцю ў падрастаючага пакалення, для якога вы з’яўляецеся сапраўднай жывой легендай.

У многіх краінах Вас называюць «грамадзянінам свету», і гэта сапраўды так: Вашымі навуковымі распрацоўкамі карыстаецца ўвесь свет. Мы радыя, што Вашае імя разам з іншымі выдатнымі асобамі значыцца ў пасланні нашчадкам «Капсула часу», якую

павінны адкрыць праз 500 гадоў. Такога ганаровага жэсту ўдастоены толькі людзі, якія маюць адметныя заслугі перад усім чалавецтвам.

Жадаю Вам моцнага здароўя і дабрабыту, памнажэння маральных і духоўных сілаў!

З павагай

*Павел ЛАТУШКА,*
*міністр культуры Рэспублікі Беларусь*
*Мінск, 6 красавіка 2010 года*

## Віншаванне ад Акадэміі навук Еўразіі

*Паважаны Барыс Уладзіміравіч!*

Мы, члены беларускага аддзялення культуралогіі Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (МАНЕ), віншуем Вас, нашага дарагога калегу, віцэ-прэзідэнта МАНЕ, са 100-гадовым Юбілеем, жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця, усяго найлепшага ў Вашым доўгім жыцці.

Вашы даследаванні і дасягненні ў галіне астранаўтыкі з'яўляюцца моцным падмуркам у развіцці сусветнай навукі XX–XXI стагоддзяў.

Вам пашчасціла быць сведкам і непасрэдным удзельнікам асваення касмічнай прасторы.

З Лос-Анджэлеса пачаўся Ваш зорны шлях у цікавую і складаную навуку астранаўтыку. Разам са сваімі калегамі Вы стварылі амаль усе касмічныя праекты, ад першых інтэркантынентальных ракетных сістэм «Navaho» да найбольш бліскучых праектаў XX стагоддзя «Apollo» і чаўночных касмічных караблёў «Shuttle».

Вы — аўтар першага ў гісторыі падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве.

Вы грамадзянін ЗША. Вы ўвайшлі ў навуковую эліту ЗША, сталі сусветнавядомым вучоным, экспертам па ракетах і дарадчыкам у галіне развіцця астранаўтыкі, выкладчыкам прэстыжных універсітэтаў ЗША і Заходняй Еўропы.

Вы доктар філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, прафесар універсітэта ў Рэгенсбургу (ФРГ), ганаровы прафесар амерыканскага ўніверсітэта штата Мэрыленд (ЗША), акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), член галоўных астранамічных таварыстваў ЗША, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, ганаровы доктар Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (Беларусь), ганаровы член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (Мінск), ганаровы грамадзянін Навагрудка (Беларусь), дзе адкрыты музей Б. У. Кіта. Вы ўзнагароджаны залатым медалём Германа Оберта за вывучэнне сусветнай прасторы (ФРГ).

У Ваш гонар Камітэтам Ушанавання ўведзены ва ўжытак медаль «Барыс Кіт. За дасягненні ў асветніцтве і навуцы», якім ганаруюцца лепшыя вучоныя нашай краіны.

Моцнага здароўя Вам, Барыс Уладзіміравіч,аптымізму, бадзёрага настрою, шчасця ў жыцці!

І няхай Вашая Зорка з Касмічнай прасторы доўга-доўга кіруе Вашым лёсам!

*Члены беларускага аддзялення культуралогіі*
*Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі*
*Мінск, 6 красавіка 2010 года*

## Віншаванне ад клуба «Спадчына»

*Паважаны Барыс Уладзіміравіч!*

Ад нашых шчырых сэрцаў віншуем Вас, дарагога і цудоўнага Чалавека, са 100-гадовым Юбілеем, жадаем моцнага здароўя, шчасця, усяго найлепшага ў жыцці!

Мы, сябры мінскага культурна-асветнага клуба «Спадчына», ведаем Вас, нашага Вялікага Земляка, выдатнага беларускага асветніка, вядомага амерыканскага даследчыка ў галіне астранаўтыкі, аднаго з першапраходцаў астранаўтыкі ЗША. Мы ганарымся Вамі, выдатнейшым сынам нашай Беларусі, які зрабіў вялікі ўклад у сусветную навуку.

Вы — сведка і актыўны ўдзельнік найбольш значных падзей у гісторыі Беларусі і свету ў XX–XXI стагоддзях.

У Вас нязгасны аптымізм той беларушчыны, якой Вы прысвяцілі доўгае, цікавае, багатае на знакамітыя падзеі, сустрэчы, навуковыя дасягненні жыццё.

Вы — грамадзянін ЗША. Але Вашае сэрца заўсёды рупілася і рупіцца пра Беларусь.

Вашая касмічная эра пачалася ў Лос-Анджэлесе, калі разам з супрацоўнікамі Вы стварылі амаль усе касмічныя праекты, ад першых стратэгічных, інтэр-кантынентальных ракетных сістэм «Navaho» да найбольш бліскучых праектаў XX стагоддзя «Apollo» і чаўночных касмічных караблёў «Shuttle», стварэнне Вамі вадароднага паліва для ракет.

У ЗША Вы скláліся як выдатны вучоны, бліскуча здзейснілі свае мары і спадзяванні.

Вы ўвайшлі ў навуковую эліту ЗША, сталі сусветна вядомым вучоным, выкладчыкам прэстыжных універсітэтаў ЗША і Заходняй Еўропы.

Вы сапраўдны кіт сусветнай навукі і астранаўтыкі.

Вы — доктар філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, прафесар нямецкага ўніверсітэта ў Рэгенсбургу, ганаровы доктар навукі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (Беларусь), заслужаны і ганаровы прафесар амерыканскага ўніверсітэта штата Мерыленд (ЗША), акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), акадэмік, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Масква), член галоўных астранамічных таварыстваў ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, ганаровы член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (Мінск), ганаровы грамадзянін Наваградка (Беларусь), узнагароджаны залатым медалём Германа Оберта за вывучэнне сусветнай прасторы (ФРГ).

У Ваш гонар Камітэтам Ушанавання ўведзены ва ўжытак медаль «Барыс Кіт. За дасягненні ў асветніцтве і навуцы», якім ганаруюцца лепшыя вучоныя нашай краіны.

Дай Бог Вам моцы, аптымізму, жыццярадаснасці і жыццялюбства, моцнага здароўя, бадзёрага настрою, плёну ў працы, вялікага шчасця ў жыцці!

*Роўным не было жыццё ніколі,*
*Падсумоўка робіцца пасля:*
*Чым чысцейшы чалавек душою,*
*Тым мілей бацькоўская зямля.*

*Вашыя шчырыя прыхільнікі і сябры клуба «Спадчына»*
*Мінск, 6 красавіка 2010 года*

## Віншаванне ад прадстаўнікоў касмічнай тэхнікі Беларусі

*Паважаны Барыс Уладзіміравіч!*

Мы, супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і калектывы нашых арганізацый, звязаныя з касмічнай тэматыкай, сардэчна віншуем Вас са стогадовым юбілеем.

Мы ведаем пра Вашыя заслугі ў беларускім школьніцтве, працу на карысць амерыканскіх касмічных праектаў і ва ўніверсітэтах ЗША і Еўропы. З'яўляючыся заслужаным і ганаровым прафесарам Вашынгтонскага Мерылендскага ўніверсітэта, акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі і віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай акадэміі навук і мастацтваў Еўразіі, аўтарам падручніка па ракетных палівах і кнігі пра касманаўтыку Савецкага Саюза, а таксама многіх артыкулаў і нарысаў, даследчыкам навуковых дасягненняў славутага матэматыка Антонія Зыгмунда, Вы набылі

шырокае прызнанне ў навуковым свеце. Мы ганарымся тым, што Вы не згубілі нацыянальныя карані і заўзята адстойваеце беларускую справу ўсюды і заўсёды на працягу свайго доўгага змястоўнага жыцця.

І зараз Ваш лёс перасякаецца з вядомымі вучонымі, пісьменнікамі, іншымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі Беларусі, і Вы шчыра радуецеся іх поспехам, садзейнічаеце іх міжнароднаму прызнанню.

Да месца будзе сказаць, што Вашае імя гучала на пленарным пасяджэнні Чацвёртага Беларускага касмічнага кангрэса (27–29 кастрычніка 2009 г., Мінск), удзельнікі якога праглядзелі таксама фільм «Зорнае прыцягненне» (сцэнарый У. Мехава і Ю. Цвяткова) пра слынных ураджэнцаў Беларусі, у тым ліку і пра Вас, ганаровага доктара навук Гродзенскага ўніверсітэта імя Я.Купалы і ганаровага грамадзяніна Наваградка.

Зычым Вам, дарагі Барыс Уладзіміравіч, здароўя, фізічнай моцы, бадзёрага настрою і жыццёвага аптымізму, якія так характэрны для Вас на працягу многіх дзесяцігоддзяў, усяго радаснага і цёплага збоку шматлікіх людзей, якія прызнаюць, любяць і шануюць Вас.

*Аляксандр Васільевіч ТУЗІКАЎ,*
*генеральны дырэктар Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі*
*НАН Беларусі, галаўной арганізацыі па выкананні*
*Нацыянальнай касмічнай праграмы Рэспублікі Беларусь,*
*доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар*

*Сяргей Анатольевіч ЗАЛАТЫ,*
*дырэктар навукова-інжынернага рэспубліканскага ўнітарнага*
*прадпрыемства «Геаінфармацыйныя сістэмы» НАН Беларусі,*
*прызначанага Нацыянальным аператарам Беларускай*
*касмічнай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі,*
*кандыдат тэхнічных навук, член-карэспандэнт*
*Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі*

# Гісторыя стварэння персанальнага архіва Барыса Уладзіміравіча Кіта ў Наваградскім гістарычна-краязнаўчым музеі

У 1992 годзе Барыс Уладзіміравіч Кіт упершыню пераступіў парог Наваградскага гістарычна-краязнаўчага музея, які толькі-толькі адчыніўся. Пачатак жыцця музея супаў са зменамі ў лёсе Беларусі: яна стала незалежнай у 1991 годзе, і прыезд Барыса Кіта ў Беларусь быў важнай падзеяй. Яго з радасцю прымалі ў Акадэміі навук, Беларускай энцыклапедыі, Міністэрстве замежных спраў. Вядомы беларус, якога ведалі і памяталі былыя гімназісты Наваградскай беларускай гімназіі, быў вельмі жаданым госцем у Наваградку.

Для Барыса Уладзіміравіча прыезд у Наваградак быў вяртаннем у маладосць. Тут ён здабываў сваю першую адукацыю, тут бацькі, настаўнікі, сябры па гімназіі, а таксама сама атмасфера тагачаснага Наваградка з моцным беларускім рухам, безумоўна, паўплывалі на яго характар.

Кіт прыехаў у Наваградак не адзін, яго суправаджала Біціна Хайнц, прафесар хіміі са Злучаных Штатаў Амерыкі. Маладая жанчына са светлымі валасамі не выпадкова стала спадарожніцай Барыса Кіта ў вандроўцы ў мінулае: яна як дзве кроплі вады была падобная на Рыву — першае каханне маладога настаўніка матэматыкі ў Наваградку, калі Барыс Кіт вярнуўся сюды з Вільні ў 1939 годзе.

Так, прыезд у Наваградак ускалыхнуў успаміны, закрануў душу, і Барыс Кіт шчыра адгукнуўся на прапанову музея зрабіць Наваградак цэнтрам, дзе будзе захоўвацца яго персанальны архіў.

Тады ён яшчэ выкладаў матэматыку ў філіяле Мерылендскага ўніверсітэта ў Гайдэльбергу, быў занятым чалавекам, але хутка падрыхтаваў усё, і ў лютым 1993 года ў Міністэрстве замежных спраў Наваградскі гістарычна-краязнаўчы музей атрымаў першую частку дакументаў, фотаздымкаў, навуковых прац і асабістую перапіску Барыса Кіта з многімі вядомымі людзьмі свету — усяго каля чатырохсот адзінак.

Гэта было падставай для стварэння экспазіцыі ў музеі, вывучэння і збору матэрыялаў па гісторыі беларускай гімназіі і дзейнасці Барыса Кіта ў Наваградку.

З уласцівым яму энтузіязмам Барыс Уладзіміравіч імкнуўся зрабіць карыснае для сваёй бацькаўшчыны. Ён прапанаваў гарадскім уладам Наваградка дапамагчы наладзіць партнёрскія

сувязі з нямецкім горадам Ляймэнам, дзе на той час знаходзіўся адзіны ў Нямеччыне Беларускі музей, у стварэнні якога ён сам прымаў актыўны ўдзел (сёння гэты музей з'яўляецца часткай гарадскога музея).

Сувязі Навагрудка з горадам Ляймэнам працягваюцца да сёння, дэлегацыі з горада-пабрацiма ўжо 10 разоў прыязджалі ў Навагрудак з грузам гуманітарнай дапамогі, завязаліся сапраўдныя сяброўскія адносіны.

Матэрыялы ад Барыса Кіта працягвалі паступаць у музей на працягу ўсіх наступных гадоў. Зараз яго персанальны архіў уключае звыш 1300 адзінак. Гэта, а таксама архівы іншых славутых землякоў, сабраныя ў фондах музея, нарадзілі ідэю стварыць у Навагрудку «Музей Людзей». З аднаго боку, на працягу тысячагадовай гісторыі горада тут склаўся характар тыповага навагрудца, а з іншага — ураджэнцы Навагрудчыны зрабілі вялікі ўклад у еўрапейскую і сусветную культуру і навуку. Горад падтрымлівае гэтую ідэю і выдзеліў будынак для стварэння экспазіцыі на аснове сучасных музейных тэхналогій.

100 гадоў актыўнага жыцця не могуць не пакінуць след. Жыццё Барыса Кіта і яго дасягненні натхняюць моладзь Навагрудчыны. У Навагрудку штогод праходзіць чэмпіянат інтэлектуальных гульняў імя Барыса Кіта, і адзін раз у год капітан каманды-пераможцы атрымлівае пераходны кубак імя Б. Кіта і апранае мантыю доктара матэматычных навук, якую для гэтага на кароткі час выносяць з музея.

У школе №1, дзе ў 1920–1930-х гадах працавала Беларуская гімназія, у 2008 годзе створаны Музей Барыса Кіта.

*Тамара ВЯРШЫЦКАЯ,*
*дырэктар Навагрудскага*
*гістарычна-краязнаўчага музея*

# У Навагрудку адкрылі музей Барыса Кіта

Сёння ў Навагрудку ўрачыста адкрылі музей Барыса Кіта, слыннага беларускага асветніка і грамадскага дзеяча, амерыканскага даследчыка, удзельніка астранаўтычных праграм.

Музей Кіта размясціўся ў будынку былой беларускай гімназіі, а цяпер сярэдняй школы № 1, дзе сам спадар Кіт калісьці вучыўся, а пазней працаваў настаўнікам і дырэктарам.

На імпрэзе прысутнічалі настаўнікі і вучні, прадстаўнікі мясцовых уладаў, Саюза беларускіх пісьменнікаў, згуртавання «Бацькаўшчына», жыхары Навагрудка.

У 1939 годзе ў памяшканні Навагрaдскай беларускай гімназіі (цяпер школа № 1) быў прыватны пакой, у якім жыў дырэктар гімназіі Барыс Кіт. Сёння ў іншым пакоі, дзе калісьці месціўся КІД (Клуб інтэрнацыянальнай дружбы), зноў «пасяліўся» Кіт. Экспазіцыя музея Кіта створаная школай пры падтрымцы раённых уладаў і мясцовага Гістарычна-краязнаўчага музея. Грашовую падтрымку зрабіў прадстаўнік беларускай дыяспары ў Расеі Валерый Казакоў, за чый кошт быў адрамантаваны цэлы школьны паверх.

Сам Барыс Кіт на ўрачыстасць не прыехаў, хоць вельмі хацеў. Пісьменніца Лідзія Савік зачытала ягоны зварот да прысутных:

*«Я веру, што гэты музей шмат паслужыць у культурным развіцці горада Наваградка і будзе напэўна важнай цаглінай у будаўніцтве лепшай, светлай долі беларускага народа».*

Нейкім дзіўным чынам імя Кіта аб'яднала і прадстаўнікоў нелаяльных да цяперашняга ўраду грамадскіх арганізацый, і супрацоўнікаў райвыканкама.

Кіраўнік ідэалагічнай управы Наваградскага выканкама Іван Грынь назваў адкрыццё музея падзеяй вялікага патрыятычнага гучання: «І мясцовымі органамі ўлады, і калектывамі, грамадскасцю раёна аддаецца вельмі вялікая ўвага супрацоўніцтву з нашымі землякамі».

І спадар Грынь, і іншыя асабіста знаёмыя з Барысам Кітом выступоўцы шмат станоўчага казалі пра яго як беларускага асветніка, змагара за беларускую мову і адначасова грамадзяніна сусвету, удзельніка касмічных праграм.

Пісьменніца Вольга Іпатава выказала спадзеў, што з цягам часу школа № 1 Наваградка, збудаваная Барысам Кітом разам з іншымі жыхарамі горада і сялянамі навакольных вёсак у даваеннай Польшчы, каб вучыць дзетак на роднай мове, неўзабаве зноў стане беларускамоўнай. А вядомы мастак Аляксей Марачкін параўнаў лёс і памкненні Язэпа Дразовіча і Барыса Кіта:

«Бачыце, космас іх аб'яднаў. У аднаго творцы, мастака Язэпа Драздовіча, космас быў ва ўяўленні, такім фантастычным, а Кіт ужо канкрэтна адчуваў гэты космас у сваёй працы. Гэта сапраўды чалавек сусвету».

Аляксей Марачкін прапанаваў, каб першы спадарожнік, які накіруе незалежная Беларусь у космас, насіў імя Барыса Кіта.

*Валер КАЛІНОЎСКІ, Радыё «Свабода», 2008*

# Барыс Кіт:
# «Усё, што маю, пашлю ў Наваградак!»

*4 чэрвеня ў Наваградскай сярэдняй школе № 1 адчыніўся Музей Барыса Кіта. А задоўга да гэтай неардынарнай падзеі на будынку школы, дзе Барыс Кіт працаваў у перадваенны час, была прымацаваная памятная дошка, яшчэ раней выйшлі ў свет дзве кнігі пра славутага навукоўца — «Вяртанне» (1993) і «Космас беларуса» (1996). Іх аўтарка — пісьменніца Лідзія Савік, з якой мы і пагаворым пра асобу Барыса Кіта ды ягоны музей.*

## «Барыс Кіт вельмі любіць Наваградак — горад сваёй маладосці і першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага»

***Міхась Скобла:*** *Спадарыня Лідзія, усё ж прыжыццёвы музей — з'ява ў Беларусі нязвыклая. Хто тут праявіў ініцыятыву і хто канкрэтна спрычыніўся да стварэння музея Барыса Кіта?*

**Лідзія Савік:** Адназначна вызначыць, хто першы выказаў такую думку, складана. Хутчэй за ўсё, гэта была калектыўная ідэя. Тут адыграў сваю ролю і той факт, што мясцовыя ўлады абралі Барыса Кіта ганаровым грамадзянінам Наваградку, унеслі яго ў кнігу «Славутыя людзі Наваградчыны». Але канкрэтна думка пра музей сфармавалася гады два-тры таму, калі на будынку школы, якую будаваў Барыс Кіт, дзе ён настаўнічаў, была адкрытая памятная дошка з ягоным барэльефам. Трэба сказаць, што Кіт вельмі любіць Наваградак — горад сваёй маладосці і першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. І потым само па сабе ўзнікла пытанне: куды дзяваць шматлікія экспанаты, якія ён паспеў перадаць у Беларусь. А пачынаў ён іх перадаваць напачатку 1990-х гадоў — праз наша Міністэрства замежных спраў, якое ўзначальваў тады Пятро Краўчанка.

***Скобла:*** *На адкрыцці музея неаднойчы гучала імя Валерыя Казакова. Менавіта ён дапамог фінансава ў стварэнні музея. Хто гэта і што падштурхнула гэтага чалавека на гэткую дабрачыннасць?*

**Савік:** Валерый Казакоў наш суайчыннік, таленавіты пісьменнік, які жыве і працуе ў Маскве. Ён быў добра знаёмы з Васілём Быкавым, падтрымлівае адносіны з ягонай удавой Ірынай Міхайлаўнай. Па рэкамендацыі Ірыны Міхайлаўны ён паехаў у Франкфурт-на-Майне і пазнаёміўся з Кітом. Пазнаёміўся — і захапіўся гэтым чалавекам. Трэба сказаць, што Барыс Уладзіміравіч проста неверагодным чынам уздзейнічае на людзей, з ім заўсёды лёгка і проста кантактаваць. І аднойчы ў размове Барыс Кіт згадаў, што ёсць гэткая ідэя: стварыць у Наваградку музей. Маўляў, наўрад ці атрымаецца…

А Валерый Казакоў успрыняў гэтыя словы ўсур'ёз. І менавіта ён быў першым фундатарам, пакінуў пэўную суму грошай, якая і пасадзейнічала таму, каб музей урэшце сапраўды адчыніўся.

### «Такія асобы, як Барыс Кіт, здольныя сцэментаваць беларускую нацыю»

***Скобла:*** *А цяпер паслухаем галасы з Навагрудку. Пра сваё ўражанне гаворыць рэдактар краязнаўчага часопіса «Лідскі летапісец» Станіслаў Суднік.*

**Станіслаў Суднік:** Маю ўражанне, што такія асобы, як Барыс Кіт, здольныя аб'яднаць беларускую нацыю. На адкрыцці музея выступалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, Саюза беларускіх пісьменнікаў (на чале са старшынёй Алесем Пашкевічам), Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. І ўсім ім знайшлося месца на імпрэзе. І ў нас ёсць многа такіх асобаў, як Барыс Кіт, якія здольныя сцэментаваць беларускую нацыю.

***Скобла:*** *А ў дырэктаркі навагрудскай СШ № 1 Людмілы Пелудзь я спытаў, ці ведаюць вучні, хто такі Барыс Кіт?*

**Людміла Пелудзь:** Вядома ж, ведаюць. Напрыклад, сёлета на Дзень касманаўтыкі ўся школа паглядзела фільм пра Барыса Кіта, а ў нашай школе ёсць такі фільм. Па ўсіх класах прайшлі гутаркі пра Барыса Кіта. Вучні ведаюць, што ён выкладаў у нашай школе, ганарацца тым, што Барыс Кіт — вядомы на ўвесь свет вучоны, асветнік, ганаровы грамадзянін Навагрудчыны. Таму Музей Барыса Кіта — бясспрэчна, гонар для нашай школы.

### «Арганізоўваючы беларускае школьніцтва падчас вайны, Кіт выратоўваў маладых людзей ад вывазу ў Нямеччыну»

***Скобла:*** *Спадарыня Лідзія, музей — гэта энцыклапедыя жыцця чалавека, якая не мусіць быць фрагментарнай. Але чамусьці ў музейнай экспазіцыі — ні слова пра дзейнасць Кіта з 1941 па 1944 год, а ён жа тады быў дырэктарам беларускіх гімназій у Маладзечне і Паставах, узначальваў Гандлёвы інстытут у тым жа Маладзечне. Пра ўсё гэта ёсць звесткі ў вашых кнігах «Вяртанне» і «Космас беларуса». Чаму ж названыя факты выпалі з экспазіцыі?*

**Савік:** Справа ў тым, што дакументаў, сведчанняў пра гэтую дзейнасць Барыса Кіта не захавалася. Маецца толькі даведка, што ён пры немцах сядзеў у турме ў Глыбокім. І калі ён эміграваў, гэтая даведка якраз і дапамагла яму першаму сярод беларусаў выехаць у ЗША. Але і сёння жывуць шмат вучняў Барыса Кіта, якія вучыліся падчас акупацыі ў Глыбокім, Паставах і Маладзечне. І калі Барыс

Уладзіміравіч упершыню за паўвека ў 1993 годзе прыехаў у Беларусь, усе вучні, хто мог, з'ехаліся на сустрэчу са сваім настаўнікам, якую арганізаваў у Маладзечне Генадзь Карпенка. Сярод вучняў Кіта я магу назваць прафесара медыцыны Пятра Кузюковіча, мастака Кастуся Харашэвіча... Арганізоўваючы беларускае школьніцтва падчас вайны, Кіт выратоўваў маладых людзей ад вывазу ў Нямеччыну. Бо тых, хто вучыўся, немцы не чапалі. Так што тут ягоная заслуга проста велізарная.

***Скобла:*** *Калі б Барыс Кіт не выехаў у 1944 годзе на Захад, што яго магло чакаць у СССР?*

**Савік:** Праца ў цывільных установах падчас нямецкай акупацыі савецкай уладай адназначна расцэньвалася, як калабарацыя, супрацоўніцтва з фашыстамі. Барыс Кіт — працаваў і тым самым, як я ўжо гаварыла, ратаваў беларускую моладзь. Да таго ж юнакі і дзяўчаты атрымлівалі адукацыю, набывалі нейкую спецыяльнасць. Калі б ён застаўся на радзіме і не выехаў на эміграцыю, то яго адназначна чакаў бы ГУЛАГ. І невядома, ці выйшаў бы ён адтуль жывым. Вымушана выехаўшы на Захад, ён уратаваў сваё жыццё і свой талент.

## «Музей вялікага патрыёта Беларусі месціцца ў... расейскамоўнай школе»

***Скобла:*** *Мяне на адкрыцці музея здзівіла гэткая рэч: грошы на музей адшукаліся ў Маскве (прычым, на іх быў адрамантаваны цэлы паверх СШ № 1, якая мае статус расейскамоўнай), а прысутныя на імпрэзе загадчыкі аддзелаў адукацыі ды ідэалогіі Наваградскага райвыканкаму ў адзін голас гаварылі пра заклапочанасць дзяржавы нацыянальнай адукацыяй і культурай. Вас гэта не бянтэжыла?*

**Савік:** Вядома, бянтэжыла. Агульнавядома, адкуль у нас ідзе ўстаноўка на русіфікацыю. А вось куды гэта прывядзе — невядома. І тут Музей Барыса Кіта мусіць выканаць яшчэ і выхаваўчую ролю. Барыс Уладзіміравіч, паўстагоддзя не быўшы на радзіме, ведаючы некалькі еўрапейскіх моваў, так цудоўна гаворыць па-беларуску! І сваё прывітальнае слова на адкрыццё музея даслаў па-беларуску. Я перакананая, што музей будзе натхняць і вучняў, і настаўнікаў ведаць і шанаваць сваю мову і захоўваць яе, нягледзячы на палітыку русіфікацыі. На жаль, беларуская вярхоўная ўлада не гаворыць па-беларуску і наогул пагардліва ставіцца да роднай мовы. А ва ўладзе гэтак — ніжэйшае начальства глядзіць на вышэйшае і стараецца быць падобным на тых, хто зверху. І тут з вамі згодная: выглядае недарэчным, што музей вялікага патрыёта Беларусі месціцца ў... расейскамоўнай школе.

### Барыс Кіт — мецэнат: выданне беларускіх кніг, падтрымка беларускага радыё, прэмія імя Кіта…

***Скобла:*** *Музей у Навагадку з'явіўся дзякуючы мецэнату Валерыю Казакову. І тут мне хочацца згадаць адзін факт. Здаецца, у 1997 годзе я атрымаў з ЗША ад пісьменніка Масея Сяднёва ягоную кнігу «Раман Корзюк» — твор пра рэпрэсіі 1930-х гадоў, пра працэсы над нацдэмамі. Прычым дапамог выдаць тую кнігу Барыс Кіт. Атрымліваецца, ён не толькі славуты вучоны, але і сам мецэнат?*

**Савік:** Так, і пра гэта мы, на жаль, не часта згадваем. Барыс Кіт па прыбыцці ў ЗША вельмі хутка трапіў у амерыканскія касмічныя даследаванні і меў магчымасць дапамагаць многім сваім суайчыннікам. І дапамагаў. Ён быў адным з першых арганізатараў беларускай суполкі ў горадзе Саўт-Рывер, дапамагаў перабрацца ў ЗША Юрку Віцьбічу, Масею Сяднёву і многім другім пісьменнікам і дзеячам культуры. Што яшчэ істотна: Кіт не дзяліў беларусаў на прыхільнікаў БНР і БЦР, яны ўсе былі для яго аднолькава блізкімі суайчыннікамі. Калі ў аўстралійскім Пэрце пачало працаваць беларускае радыё, Барыс Кіт і там быў сярод фундатараў. Ён заснаваў прэмію свайго імя, у ліку лаўрэатаў якой — Радзім Гарэцкі, Адам Мальдзіс, Сяргей Законнікаў, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Валер Каліноўскі, Алег Мінкін… Барыс Кіт дапамагаў дырэктарцы Карэліцкага краязнаўчага музея Святлане Кошур выдаць кнігу «Славутыя людзі Карэліччыны», пасылаў грошы Алегу Мінкіну — на выданне кнігі пра Віленскую беларускую гімназію…

### Барыс Кіт: «На сваё 100-годдзе планую прыехаць у Наваградак!»

***Скобла:*** *А цяпер самы час пачуць самога Барыса Кіта. Я патэлефанаваў у Нямеччыну і спытаўся, якімі экспанатамі можа неўзабаве ўзбагаціцца новаадчынены музей?*

**Барыс Кіт:** Буду рабіць усё, што магчыма, каб музей выглядаў паважна. У мяне ёсць вельмі шмат арыгінальных экспанатаў. З ліпеня да мяне ў Нямеччыну прыедзе адзін мастак з Беларусі, з ім я сёе-тое перадам. Я ёсць акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, дык прышлю ў музей арыгінальны дыплом на лацінскай мове. Стане экспанатам залаты медаль Оберта і Брауна, якім я быў узнагароджаны ў Нямеччыне. Шмат маю цікавых рэчаў. І ўсё пашлю ў Наваградак!

***Скобла:*** *Спадар Барыс, на адкрыцці музея выказваліся спадзяванні, што 100-годдзе Барыса Кіта будзе адзначацца ў пашыраным музеі з удзелам юбіляра. Ці плануеце прыехаць?*

**Кіт:** Спадзяюся! Добрыя навіны з Беларусі падтрымаюць маё здароўе. І тады, напэўна, прыеду. А пакуль я трошкі хварэю, але, дзякаваць Богу, хваробы не фатальныя.

## «Беларусь — еўрапейская краіна, і тыя ідэі, якія прынёс нам з вольнага свету Барыс Кіт, позна ці рана будуць у нас ажыццёўленыя»

***Скобла:*** *Спадарыня Лідзія, адна з няздзейсненых мараў Барыса Кіта — Нацыянальны ўніверсітэт у Беларусі, філію якога ён, дарэчы, планаваў адкрыць і ў Навагрудку. Як вы лічыце, калі гэта можа адбыцца?*

**Савік:** Барыс Уладзіміравіч дзеля ажыццяўлення гэтай ідэі са сваім адвакатам напісаў каля 400 лістоў верагодным мецэнатам ва ўсім свеце. І людзі, якія маглі б дапамагчы фінансава, пачалі адгукацца. Кіт літаральна жыў гэтай ідэяй. Але ў 1994 годзе ў Беларусі змянілася ўлада, змянілася афіцыйнае стаўленне да мовы, да нацыянальнай культуры, і ён больш у Беларусь не паехаў. У сённяшняй Беларусі стварыць Нацыянальны ўніверсітэт немагчыма. Але я думаю, што з цягам часу мы вернемся да гэтай ідэі. Беларусь — еўрапейская краіна, і тыя ідэі, якія прынёс нам з вольнага свету Барыс Кіт, позна ці рана будуць у нас ажыццёўленыя. Я ў гэта свята веру.

*Міхась СКОБЛА,*
*Радыё «Свабода», 2008*

# Хроніка жыцця Барыса Кіта

**1910 г.** 6 красавіка (24 сакавіка па ст. стылі) у Санкт-Пецярбургу, у сям’і служачага Міністэрства камунікацыі Уладзіміра Аляксандравіча Кіта і Ксеніі Дзмітрыеўны Зуравай нарадзіўся сын Барыс.

**1918 г.** Сям’я вяртаецца ў Агароднікі (цяпер у межах г.п. Карэлічы).

**1920 г.** Пасля смерці маці бацька бярэ шлюб з Аленай Швед з в. Валеўка (Наваградчына).

**1924–1926 гг.** Вучоба Барыса ў пачатковай польскай школе, Карэлічы.

**1926–1928 гг.** Вучоба ў Беларускай гімназіі, Наваградак.

**1928–1933 гг.** Барыс — студэнт прырода-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя.

**1933 г.** Атрыманне навуковай ступені магістра філасофіі ў галіне матэматыкі.

**1931–1939 гг.** Выкладчык матэматыкі Віленскай беларускай гімназіі.

**1939 г.** Дырэктар адноўленай Віленскай беларускай гімназіі.

**1940 г.** Дырэктар адноўленай Наваградскай беларускай гімназіі.

**1940–1941 гг.** Акруговы інспектар аддзела народнай адукацыі Баранавіцкай акругі, выкладчык матэматыкі ў Баранавіцкім педінстытуце.

Шлюб з Нінай Корсак, родам з в. Лебедзева каля Маладзечна.

**1941 г.** Праца ў пачатковай школе ў в. Лебедзева. Нараджэнне сына Уладзіміра.

**1942 г.** Дырэктар і выкладчык настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне. Закрыццё семінарыі акупацыйнымі ўладамі.

**1942–1943 гг.** Дырэктар Пастаўскай настаўніцкай семінарыі Глыбоцкай акругі.

**1943 г.** Арышт і зняволенне ў Глыбоцкай і Вілейскай турмах, вызваленне пры дапамозе былых вучняў Віленскай гімназіі.

**1943–1944 гг.** Дырэктар Адміністрацыйна-гандлёвай школы ў Маладзечне.

**1944 г.** Студэнт Магілёўскага навукова-медычнага інстытута.

**1945–1948 гг.** Студэнт медыцынскага факультэта Мюнхенскага ўніверсітэта імя Людвіга Максімільяна (Нямеччына).

**1948–1956 гг.** Праца ў якасці хіміка на фармацэўтычных фірмах Нью-Джэрсі і Каліфорніі (ЗША). Нараджэнне сына Віктара (Лос-Анджэлес).

**1956–1958 гг.** Навуковы супрацоўнік фірмы North American Aviation Inc. (сучасная Rockwell International). Удзел у праграмах распрацоўкі вадароднага паліва для касмічных сістэм Navaho і Apollo.

**1958–1963 гг.** Кіраўнік навуковай групы аддзела касманаўтыкі МПС ЗША.

**1960 г.** Выданне кнігі «Rocket Propellant Handbook» (сумесна з Evered Douglas).

**1963–1964 гг.** Старэйшы навуковы супрацоўнік ITT — Міжнароднай тэлефонна-тэлеграфнай карпарацыі (аддзел касманаўтыкі).

**1964 г.** Выданне кнігі «USSR. Space Research and Development» (сумесна з Ordway Frederick).

**1964–1968 гг.** Старэйшы навуковы супрацоўнік нацыянальнага бюро стандартаў ЗША.

**1968–1972 гг.** Старэйшы эксперт-даследчык Дзяржаўнага інстытута сістэмнага аналізу Ваеннага і Транспартнага міністэрстваў у ЗША. Удзел у распрацоўцы стратэгіі спадарожнікавых камунікацый і транспартных праблем.

**1972–1993 гг.** Прафесар матэматыкі еўрапейскага аддзела амерыканскага Мерылендскага ўніверсітэта.

**1983 г.** Атрыманне навуковай ступені доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі на падставе абароны дысертацыі «Антоні Зыгмунд, яго жыццё і яго ўклад у матэматыку XX стагоддзя» (Універсітэт Рэгенсбург, ФРГ).

**1986 г.** Узнагароджанне залатой адзнакай Таварыства Германа Оберта за вывучэнне сусветнай прасторы.

**1991 г.** Абранне членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

**1992 г.** Першае наведанне Беларусі пасля ад’езду ў эміграцыю. Сустрэчы з вучонымі Акадэміі навук, Беларускай энцыклапедыі, міністрам замежных спраў Беларусі, у Маладзечне з выпускнікамі Адміністрацыйна-гандлёвай школы і мэрам Г. Карпенкам.

**1994 г.** Абранне сапраўдным сябрам (акадэмікам) Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

**1994 г.** Заснавальнік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Мінск–Масква).

**1994 г.** Прыезд Барыса Кіта на Бацькаўшчыну з нагоды адкрыцця Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Мінск) — Мір, Карэлічы, Навагрудак, Маладзечна.

**1994 г.** Прысуджэнне навуковай ступені ганаровага доктара навук Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.

**1994 г.** Выхад кнігі Лідзіі Савік пра Б. Кіта «Вяртанне», Мінск.

**1995 г.** Трэці прыезд Барыса Кіта ў Беларусь. Наведванне Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, інстытутаў НАН Беларусі, устаноў культуры Гродзеншчыны.

**1995 г.** Узнагароджанне Барыса Кіта залатым медалём Германа Оберта і Вернера фон Брауна (ФРГ) за ўклад у развіццё астранаўтыкі.

**1996 г.** Публікацыя ў Беларусі кнігі Лідзіі Савік «Космас беларуса: жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта».

**1998 г.** Другое выданне кнігі «Космас беларуса».

**1999 г.** Публікацыя ў Вільні кнігі А. Чэмера «Выбраныя Богам. Жыццё і дасягненні вялікага матэматыка Барыса Кіта».

**2001 г.** Публікацыя кнігі Галіны Войцік «Барыс Кіт», Вільня.

**2003 г**. Сустрэча з беларусамі ў Варшаве.

**2004 г.** Публікацыя кнігі «Грамадзянін свету» (да 95-годдзя Барыса Кіта).

**2008 г.** Адкрыццё музея Барыса Кіта ў Наваградку (у школе № 1, якую ён будаваў і ў якой быў дырэктарам).

# Барыс Кіт

## Гонары і становішчы ў прафесійных арганізацыях 1958–2008 гг. Пераклад фрагментаў з біяграфіі Барыса Кіта ў ангельскай мове

**1958 г.** Ліст падзякі і павышэнне ў становішчы за выдатныя дасягненні ў працы. North American Inc. (сёння Rockwell International). *Лос-Анджэлес, Каліфорнія, ЗША.*

**1960 г.** NASA. Навуковы каардынатар і дарадчык падчас першых гістарычных перамоў паміж ЗША і СССР аб супрацоўніцтве ў галіне астранаўтычных даследаванняў. *Вашынгтон, ЗША.*

**1963 г.** Пасведчанне падзякі Міністэрства паветраных сіл ЗША. *Вашынгтон, ЗША.*

**1966 г.** Член элітнай групы амерыканскіх прафесараў, заданнем якіх было аб'ехаць увесь свет і чытаць лекцыі (у першую чаргу ў Еўропе і Азіі) аб значэнні новай навукі; павышэнне эфектыўнасці адміністрацыйных дзеянняў пры дапамозе матэматычных разлікаў (Operation Research Analysis). Б. Кіт чытаў лекцыі ў Мадрыдзе, Нью-Дэлі, Токіо.

**1967 г.** ЗША. Дзяржаўны прадстаўнік і сакратар у Тэхнічным камітэце № 51 (стандартызацыя электронных кампанентаў) Сусветнай электрычнай камісіі (Міжнародная арганізацыя стандартызацыі). *Прага, Чэхія.*

**1968 г.** Удзельнік у падрыхтоўцы даведкі (даклада) для прэзідэнта Ліндана Джонсана аб становішчы развіцця навукі і тэхнікі ў ЗША, Еўропе і Японіі. *Вашынгтон, ЗША.*

**1969 г.** Пасведчанне падзякі Міністэрства арміі ЗША. *Вашынгтон. ЗША.*

**1970 г.** ЗША. Дзяржаўны прадстаўнік і сакратар Тэхнічнага камітэта № 51 Міжнароднай камісіі па стандартызацыі электрычных і электронных прадуктаў. *Горген, Швейцарыя.*

**1970 г.** Прадстаўнік нацыянальнай Акадэміі навук ЗША ў Польшчы. *Варшава, Польшча.*

**1971 г.** Пасведчанне падзякі ад нацыянальнага Камітэта Міжнароднай электрычнай камісіі ЗША. *Нью-Ёрк, ЗША.*

**1972 г.** ЗША: Дзяржаўнае пасведчанне падзякі ў сувязі з адыходам на пенсію. *Вашынгтон, ЗША.*

**1976 г.** Абранне членам-дырэктарам Астранаўтычнага таварыства Нямеччыны імя Германа Оберта. *Гановер, ФРГ.*

**1983 г.** Пасведчанне падзякі за выдатную педагагічную дзейнасць, універсітэт Мерыленда, Еўрапейскі аддзел. *Гейдэльберг, ФРГ.*

**1986 г.** Залатая ўзнагарода ад Таварыства імя Германа Оберта Нямеччыны за ўклад у развіццё астранаўтыкі. *Гарміш-Партэнкірхен, ФРГ.*

**1987 г.** Дыплом заслужанага прафесара ад еўрапейскага аддзела Мерылендскага ўніверсітэта. *Гейдэльберг, ФРГ.*

**1990 г.** Дыплом ганаровага прафесара ад еўрапейскага аддзела Мерылендскага ўніверсітэта. *Гейдэльберг, ФРГ.*

**1991 г.** Выбар членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. *Парыж, Францыя.*

**1993 г.** Адчыненне аддзела Барыса Кіта ў Гістарычна-краязнаўчым музеі. *Наваградак, Беларусь.*

**1993 г.** Залаты медаль за ўклад у развіццё супрацоўніцтва і прыязні паміж горадам Ляймэнам ФРГ і Рэспублікай Беларусь. *Ляймэн, ФРГ.*

**1993 г.** Выбар у ганаровыя члены Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. *Мінск, Беларусь*.

**1993 г.** Заснаванне сябрыны выдатнейшых беларускіх культурных дзеячаў з мэтай падтрымкі ідэй Барыса Кіта, у першую чаргу пабудовы Беларускага гуманітарнага ўніверсітэта на Беларусі. *Мінск, Беларусь*.

**1994 г.** Тытул Ганаровага доктара навук. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. *Гродна, Беларусь.*

**1994 г.** Выстаўленне партрэта Б. Кіта ў «Залі славы» Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. *Мінск, Беларусь*.

**1994 г.** Абранне Барыса Кіта ганаровым грамадзянінам горада Наваградка. *Наваградак, Беларусь*.

**1994 г.** Адкрыццё аддзела Б. Кіта ў Дзяржаўным архіве Рэспублікі Беларусь. *Мінск, Беларусь*.

**1994 г.** Выбар паўнапраўным членам і віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. *Мінск, Беларусь.*

**1994 г.** Абранне паўнапраўным членам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. *Парыж, Францыя*.

**1995 г.** Выхад біяграфічнага фільма «Душа не падарожніца» пра Барыса Кіта на кінастудыі «Беларусьфільм» (рэжысёр Р. Ясінскі, аператар Л. Слобін). *Мінск, Беларусь*.

**1995 г.** Віншаванне Барысу Кіту з 85-годдзем ад прэзідэнта ЗША Біла Клінтана і Хілары Клінтан. *Вашынгтон, ЗША.*

**1995 г.** Абранне Барыса Кіта ганаровым членам Таварыства беларускай культуры ў Літве. *Вільня, Літва.*

**1995 г.** Узнагароджанне Барыса Кіта залатым медалём Германа Оберта на стужцы за ўклад у развіццё астранаўтыкі праз Міжнароднае таварыства астранаўтыкі імя Германа Оберта і Вернера фон Брауна. *Гарміш-Партэнкірхен, ФРГ.*

**1995 г.** Адкрыццё Таварыства беларускай культуры імя Барыса Кіта ў Салечніках, *Літва.*

**1997 г.** Абранне Барыса Кіта ганаровым членам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». *Мінск, Беларусь.*

**2000 г.** Узнагароджанне Барыса Кіта Граматай Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы за вялікі ўклад у міжнароднае навуковае супрацоўніцтва і ў сувязі з 90-годдзем са дня нараджэння. *Гродна, Беларусь.*

**2004 г.** Устаноўка мемарыяльнага помніка з барэльефам Барыса Кіта, Васіля Быкава, іншых дзеячаў беларускай гісторыі і культуры. Мастацкі музей Анатоля Белага. *Старыя Дарогі, Беларусь.*

# Персанальны архіў
# Барыса Уладзіміравіча Кіта,

## ганаровага грамадзяніна Наваградка, доктара філасофскіх навук па матэматыцы, узнагароджанага найвышэйшымі ўзнагародамі ў галіне касмічных даследаванняў, у фондах Наваградскага гістарычна-краязнаўчага музея

## Каталог

### Біяграфічныя і аўтабіяграфічныя звесткі

1. Генеалагічнае дрэва сям'і Б. У. Кіта Папера. 27 × 42 см.
2. Кароткія біяграфічныя звесткі аб усіх членах сям'і Б. У. Кіта, напісаныя яго рукой. Фармат А4, 6 л.
3. Даведка аб педагагічнай і навуковай дзейнасці прафесара Мерылендскага ўніверсітэта (ЗША, ФРГ) Б. У. Кіта. Складзена Ю. М. Астроўскім і А. Г. Майсяёнкам. Ксеракопія.
4. Успаміны Б. У. Кіта «Падарожжа ў Вільню». Падрабязна апісаны прыезд Б. У. Кіта ў Вільню 27–30 ліпеня 1995 г.
5. Гістарычны нарыс «Дзейнасць Б. Кіта ў Амерыцы».
6. Біяграфічны нарыс Б. У. Кіта з дадаткам аб яго педагагічнай дзейнасці ў храналагічным парадку.
7. Успаміны Б. У. Кіта Часткі 1, 2, 3, 4.
8. Успаміны Б. У. Кіта Праца за мяжой у галіне астранаўтыкі.
9. Успаміны Б. У. Кіта аб Беларускай гімназіі ў Вільні (1928–1939).
10. Успаміны Б. У. Кіта. Асноўныя даты жыцця і дзейнасці вучонага. 10 с.
11. Успаміны Б. У. Кіта. «Б. Кіт — адзін з першых беларусаў у Каліфорніі».
12. Аўтабіяграфія, напісаная да дня нараджэння з нагоды 80-х угодкаў, 24.02.1990.
13. Дзённік Б. У. Кіта. Пачаты 1.01.95. Напісаны ў Франкфурце-на-Майне ад рукі. 40 с.
14. Успаміны Б. У. Кіта. 1984 г. 47 с.
15. Успаміны. Аўтабіяграфія Б. У. Кіта. «Навукова-даследчая праца ў галіне астранаўтыкі (1956–1965 гг.)». 10 с.
16. Аўтабіяграфія. Успаміны Б. У. Кіта.
17. Аўтабіяграфія Б. У. Кіта. Напісана Б. У. Кітом і М. Сяднёвым у Франкфурце-на-Майне, 1988 г. Перадгімназійны перыяд (1910–1926).
18. Аўтабіяграфічны нарыс Б. У. Кіта. 17 с.
19. Біяграфія Б. У. Кіта. Фармат А4, 3 л., на ням. мове.
20. Аўтабіяграфічны нарыс Б. У. Кіта. Фармат А4,17 л., на бел. і англ. мовах.
21. Біяграфічны нарыс Б. У. Кіта. Франкфурт. Фармат А4, 27 л., на бел. і англ. мовах
22. Біяграфія Б. У. Кіта. Франкфурт, 1992 г. Фармат А4, 32 л., на бел. мове.
23. Біяграфічны нарыс Б. У. Кіта. Рукапіс, 16 с., на бел. мове.
24. Ксеракопія. Біяграфічны нарыс Б. У. Кіта, 11с., на англ. мове.
25. Дзейнасць Б. У. Кіта ў беларускім школьніцтве, 1993 г.
26. Успаміны Б. У. Кіта на святкаванне 80-годдзя Віленскай беларускай гімназіі. Фармат А4, 30 л., на бел. мове.
27. Гісторыя г. Наваградка, напісаная Б. У. Кітом. Фармат А4, 3 л., на ням. мове.

28. Архіўная даведка аб тым, што Б. У. Кіт працаваў настаўнікам Віленскай гімназіі 1932/33 навучальны год. Фармат А4, 1 л., на пол. мове., копія.
29. Успаміны Б. У. Кіта «Беларуская гімназія ў Вільні. 80-гадовы юбілей (1919–1999)». Франкфурт-на-Майне, 1998 г. Фармат А4, 44 л., на бел. мове.
30. Даведка аб дзейнасці Б. У. Кіта у галіне астранаўтыкі. 2 с., на англ. мове.
31. Даведка аб навуковай дзейнасці Б. У. Кіта. На англ. мове.
32. Анкета студэнтаў Мерылендскага ўніверсітэта — ацэнка педагагічных здольнасцей Б. У. Кіта, 1993 г.
33. Даведка аб педагагічнай і навуковай дзейнасці прафесара Мерылендскага ўніверсітэта Б. У. Кіта.
34. Кароткі спіс дасягненняў Б. У. Кіта ў галіне астранаўтыкі з перакладам на бел. мову, складзены Б. У. Кітом.
35. Спіс прысвячэнняў беларускіх аўтараў Б. У. Кіту, складзены ім самім. 7 с.
36. Спіс складу выкладчыкаў еўрапейскага аддзялення Мерылендскага ўніверсітэта ў 1993 г. На англ. мове.
37. Спіс кандыдатаў на вучоныя ступені, Мерылендскі ўніверсітэт, еўрапейскае аддзяленне, 1992 г. На англ. мове.
38. Спіс выкладчыкаў Мерылендскага ўніверсітэта і яго 16 філіялаў, 1987 г.
39. Спіс выкладчыкаў Мерылендскага ўніверсітэта і яго 16 філіялаў, 1988 г. 23 с.
40. Спіс выкладчыкаў Мерылендскага ўніверсітэта і яго 17 філіялаў, 1989 г. 24 с., на англ. мове.
41. Спіс выкладчыкаў Мерылендскага ўніверсітэта, 1989 г. 14 с.
42. Спіс-інфарамацыя аб выкладчыках Мерылендскага ўніверсітэта. На англ. мове.

### Дакументы аб атрыманай адукацыі

1. Пасведчанне аддзела адукацыі ў Катавіцах на імя Барыса Кіта — настаўніка беларускага філіяла Віленскай дзяржаўнай гімназіі імя І. Славацкага, 1939 г. На пол. мове.
2. Пасведчанне аб заканчэнні курсаў настаўнікаў матэматыкі сярэдніх агульнаадукацыйных школ, 1933 г. На пол. мове.
3. Пасведчанне Навагрудскага акруговага школьнага інспектарыяту аб здачы Б. У. Кітом экзамена па лацінскай мове.
4. Пасведчанне Віленскай школы на імя Б. У. Кіта аб прызначэнні яго членам дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па матэматыцы і фізіцы, 1936 г.
5. Пасведчанне Віленскай школьнай акругі на імя Б. У. Кіта аб прызначэнні яго членам экзаменацыйнай камісіі для абітурыентаў Беларускай дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча, 1933 г. На пол. мове.
6. Пасведчанне Віленскай школьнай акругі на імя Б. У. Кіта, настаўніка Віленскай дзяржаўнай гімназіі імя І. Славацкага, аб заканчэнні настаўніцкіх курсаў па матэматыцы, 1937 г. На пол. мове.
7. Пасведчанне № 6279 на імя Б. У. Кіта — настаўніка матэматыкі Віленскай дзяржаўнай гімназіі імя І. Славацкага. На пол. мове.
8. Пасведчанне на імя Б. У. Кіта — студэнта Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя № 2286, 1937 г., 36 с., на пол. мове.
9. Кніжка заліковая № 94 на імя Б. У. Кіта — студэнта медыцынскага факультэта Мюнхенскага ўніверсітэта 1946/47 гг. На англ. мове.
10. Пасведчанне на імя Б. У. Кіта — студэнта электратэхнічнага факультэта Вышэйшай тэхнічнай школы ў Кафелуе, 1947 г. На ням. мове.
11. Членскія білеты Таварыства імя Г. Оберта на імя Б. У. Кіта за 1973, 1976, 1981–1986, 1900, 1991 гг. На ням. мове.

## Узнагароды, дыпломы, падзякі

1. Дыплом «One of the major and leading authorities on the biographies of distinguished individuals worldwide, the American Biographical Institute, USA, does hereby proclaim that… Boris Kit has been selected Man of the Year 2005 based on his outstanding accomplishments to date and the noble example he has set for his peers and entire community» («Адна з галоўных і вядучых устаноў, якія займаюцца біяграфіямі выдатных асобаў ва ўсім свеце, Амерыканскі біяграфічны інстытут, ЗША, гэтым абвяшчае, што… Барыс Кіт абраны Чалавекам Года ў 2005 г. на падставе выдатных дасягненняў і прыклада, які ён паказаў сваім сучаснікам і ўсяму грамадству»). 28 × 35 см.
2. Падзяка Б. У. Кіту ад аддзялення чыгункі Дэпартамента транспарту ЗША. Ксеракопія.
3. Грамата на імя Б. У. Кіта аб абранні яго ганаровым членам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Ксеракопія.
4. Падзяка Б. У. Кіту ад Амерыканскага нацыянальнага інстытута.
5. Падзяка Б. У. Кіту ад наваградскага гарвыканкама.
6. Значок Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта. Б. У. Кіту. 4,5 см.
7. Медаль залаты г. Ляймэна (ФРГ) за ўстанаўленне партнёрства з РБ, уручаны Б. У. Кіту, 1993 г. Дыяметр 5 см.
8. Дыплом да залатога медаля г. Ляймэна за ўстанаўленне партнёрства з РБ, 1993 г.
9. Ксеракопія дыплома да медаля, атрыманага Б. У. Кітом у г. Ляймэне. На ням. мове.
10. Грамата аб узнагароджанні Б. У. Кіта залатым медалём за яго ўклад у справу ўзмацнення сяброўства паміж г. Ляймэнам і Беларуссю. 15.12.1993. Ксеракопія.
11. Медаль залаты, Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта, уручаны Б. У. Кіту, 1995 г. Дыяметр 3,5 см.
12. Дыплом да залатога медаля Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта на імя Б. У. Кіта, 1995 г.
13. Дыплом аб наданні Б. У. Кіту звання ганаровага грамадзяніна г. Наваградка, 1994 г.
14. Дыплом ганаровага прафесара Мерылендскага ўніверсітэта на імя Б. У. Кіта. На англ. мове.
15. Дыплом-падзяка за выдатную працу прафесарам Мерылендскага ўніверсітэта, 30 мая 1987 г.
16. Дыплом, дасланы Б. У. Кіту ў сувязі з абраннем яго ў лік дзвюх тысяч людзей найбольшых дасягненняў у свеце, Лондан, 11 мая 1971 г.
17. Дыплом да Залатой узнагароды Б. У. Кіта ад Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта за дасягненні ў галіне астранаўтыкі, 1986 г.
18. Дыплом Б. У. Кіта — сябра Нацыянальнага клуба астранаўтыкі ЗША., 1964 г.
19. Дыплом доктара філасофіі ў галіне агульнай гісторыі і матэматыкі ўніверсітэта ў Рэгенсбургу на імя Б. У. Кіта, 1983 г.
20. Дыплом – сведчанне аб уключэнні Б. У. Кіта ў лік дзвюх тысяч людзей з найбольш выдатнымі дасягненнямі ў свеце, 1969 г. На англ. мове.
21. Дыплом сябра Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі на імя Б. У. Кіта, 1992 г. Ксеракопія.
22. Дыплом доктара філасофіі ў галіне матэматыкі на імя Б. У. Кіта, 24.06.1983. Ксеракопія.
23. Дыплом настаўніка сярэдніх школ на імя Б. У. Кіта. Вільня, 1934 г. Ксеракопія, на пол. мове.
24. Дыплом на імя Б. У. Кіта аб заканчэнні матэматычна-прыродазнаўчага факультэта. Універсітэт імя С. Баторыя ў Вільні, 2.05.1933. Ксеракопія, на пол. мове.
25. Слоўнік міжнародных біяграфій, 6-е выданне, Лондан, 1969 г. На англ. мове.
26. Слоўнік міжнародных біяграфій (ч. 1), 6-е выданне, Лондан, 1969. На англ. мове.
27. Слоўнік міжнародных біяграфій (ч. 1), 5-е выданне, Лондан, 1968–1969. 633 с., на англ. мове.
28. «Хто ёсць хто у космасе», Вашынгтон, 1966–1967. 328 с., на англ. мове.
29. Каталог на 1992/93 гг. Мерылендскі ўніверсітэт, аддзяленне ў Аўгсбургу. 96 с., на англ. мове.
30. Каталог на 1992/93 гг. Мерылендскі ўніверсітэт, 1992 г. 48 с., на англ. мове.
31. Каталог на 1992/93 гг. Мерылендскі ўніверсітэт, еўрапейскае аддзяленне. 72 с., на англ. мове.
32. Буклет на ням. мове. Падарунак Б. У. Кіту.
33. Буклет на ням. мове. 25 год астранаўтычнаму музею Г. Оберта, 1996 г.

34. Пастанова Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі № 10-05 ад 24.03 2005. аб узнагародзе Б. У. Кіта Залатым медалём Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. 21 × 29,7 см, папка 22,4 × 31 см.
35. Кніга. «Year Book 2005. International Academy of Astronautics». Парыж, 2006. 199 с., 14 × 20,7 см, на англ. мове.

## Навуковыя працы

1. Кніга. Кіт Б., Іверэд Д. «Падручнік па ракетнаму паліву», 1960 г. На англ. мове.
2. Кіт Б. У. «Антоні Зыгмунд. Яго жыццё і ўклад у развіццё матэматыкі 20-га ст.». Доктарская дысертацыя Б. У. Кіта, 1983 г. 153 с., на ням. мове.
3. Кіт Б. У. «Антоні Зыгмунд. Яго жыццё і ўклад у развіццё матэматыкі 20-га ст.», 1983 г. 153 с., з надпісам аўтара на англ. мове.
4. Доктарская дысертацыя Б. У. Кіта, 1977–78 гг. На англ. мове.
5. Доктарская дысертацыя Б. У. Кіта, 1977–78 гг. Ксеракопія.
6. Кіт Б. У. «Некоторые астрономические аспекты лунной связи с использованием спутников». На англ. мове.
7. Даклад Б. У. Кіта на Міжнароднай канферэнцыі па касмічнай тэхніцы і навуцы, верасень 1963 г. На англ. мове.
8. Кіт Б. У. «Лазеры і іх прымяненне». На англ. мове.
9. Кіт Б. У. «Управление и контроль будущих военных спутников связи». 44 с., на англ. мове.
10. Кіт Б. У. «Магчымасці развіцця спадарожнікаў на сонечнай энергіі ў ЗША». На ням. мове.
11. Кіт Б. У. «Скорость для автолюбителей, приближающихся к железной дороге и к перекресткам на скоростных трассах», 1971 г. На англ. мове.
12. Кіт Б. У. «Модель для распределения поступательного движения в многополосном потоке движения». На англ. мове.
13. Кіт Б. У.«Коррелята начальной перегрузки транспортных средств. Отчет об исследовании». На англ. мове.
14. Тэзісы на Міжнародны сімпозіум па касмічнай тэхніцы і навуцы, Токіо, 1963 г. На англ. мове.
15. Кіт Б. У. «Развитие стандартов для моделирования потока движения», 1973 г. На англ. мове.
16. Кіт Б. У. «Стандартызацыя ў амерыканскай касмічнай тэхналогіі».
17. Тэзісы даклада Б. У. Кіта на 41-м кангрэсе Міжнароднай астранаўтычнай федэрацыі 6–12 кастрычніка 1992 г. На англ. мове.
18. Тэкст выступлення Б. У. Кіта на Другіх Наваградскіх чытаннях «Успаміны з майго жыцця, звязаныя з Беларускай гімназіяй у Наваградку», 1992 г. Рукапіс.
19. Даклад Б. У. Кіта «Дзейнасць арганізацыі пэнэмюндаўцаў, якія засталіся ў Германіі» на 42-м кангрэсе Міжнароднай астранаўтычнай федэрацыі, 1991 г. На англ. мове.
20. Даклад Б. У. Кіта і Б. Хайнц «Пэнэмюндаўцы, якія засталіся ў Германіі» на 41-м кангрэсе Міжнароднай астранаўтычнай федэрацыі, 1990 г. На англ. мове.
21. Даклад Б. У. Кіта «Асабістыя ўспаміны аб Тэадоры фон Кармэне» на 38-м кангрэсе Міжнароднай астранаўтычнай федэрацыі, 1987 г. 2 с., на англ. мове.
22. Даклад Б. У. Кіта «Гісторыя Таварыства імя Г. Оберта ў Германіі» на 40-м кангрэсе Міжнароднай федэрацыі, 1989 г. 3 с.
23. Кіт Б. У., Кушэн В. «Аператыўныя даследаванні ў амерыканскіх урадавых установах, якія не адносяцца да абароны», Вашынгтон, 1969 г. На англ. мове.
24. Кіт Б. У. «Развіццё стандартаў для патоку транспартнага руху», 1971 г. На англ. мове.
25. Даклад Б. У. Кіта «Будучая эпоха сонечнай энергіі» на 24-м астранаўтычным кангрэсе Таварыства Г. Оберта, 1975 г. На ням. мове.
26. Выступленне Б. У. Кіта да 25-й гадавіны Таварыства імя Г. Оберта ў Германіі, 9.09.1976. На ням. мове.
27. Перапіска Б. У. Кіта з Леслі Тэнэнам — уладальнікам юрыдычнай фірмы ў штаце Арызона (ЗША) — наконт адкрыцця ўніверсітэта ў Наваградку, 1992 г. На англ. мове.

28. Ксеракопія з газеты «Голас Радзімы» з матэрыялам «Вяртанне Б. У. Кіта».
29. Інфармацыйны бюлетэнь бібліятэкі Кангрэса, Вашынгтон, 1957 г. Інфармацыя аб прызначэнні Б. У. Кіта кіраўніком аддзела фізікі.
30. Ксеракопія старонак 17 і 18 з часопіса «Астранаўтычны сшытак» (№ 1, 1987) з артыкулам Б. У. Кіта «Мае асабістыя ўражанні аб Тэадоры фон Кармэне».
31. Часопіс «Astranautik» — орган Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта, членам якога з'яўляецца Б. У. Кіт. На ням. мове.
32. Часопіс «Astranautik» № 2, 1976 г. Артыкул Б. У. Кіта «Якія ёсць магчымасці выкарыстання энергіі ў касмічнай прасторы».
33. Часопіс «Astranautik» № 1, 1970 г. Артыкул Б. У. Кіта «Стандартызацыя ў амерыканскай касмічнай тэхніцы». 42 с.
34. Часопіс «Astranautik» № 1, 1975 г. Артыкул Ф. Ордвэя і Б. У. Кіта. 18 с., на ням. мове.
35. Старонка з часопіса з віншаваннем з нагоды 75-годдзя прэзідэнта Нямецкага астранаўтычнага таварыства імя Г. Оберта. Сярод віншуючых — доктар Б. Кіт. Ксеракопія, на ням. мове.
36. Старонка часопіса з артыкулам Ф. Джэнса «Уклад Б. Кіта». Ксеракопія. на англ. мове.
37. Каталог Мерылендскага ўніверсітэта, 1989 г. На англ. мове.
38. Часопіс «Завтра, сделанное сегодня» — орган сістэмы даследчых інстытутаў па абароне навакольнага асяроддзя. На англ. мове.
39. Каталог Мерылендскага ўніверсітэта, 1986–1987гг. На англ. мове.
40. Каталог Мерылендскага ўніверсітэта, 1988–1989 гг. На англ. мове.
41. Каталог Мерылендскага ўніверсітэта, 1989–1990 гг. На англ. мове.
42. Каталог Мерылендскага ўніверсітэта, 1990–1991 гг. На англ. мове.
43. Часопіс «Die Mitteilunqen» (нямецкія стандарты). Артыкул Б. У. Кіта «Стандартызацыя ў амерыканскай касмічнай тэхніцы».
44. Часопіс «Завтра, сделанное сегодня». Артыкул Б. У. Кіта «Образование в области окружающей среды как критическая проблема охраны окружающей среды».
45. Артыкул Б. У. Кіта і Р. Завістовіча «Што такое гравітацыя?», с. 64–65 часопіса «Касмічны агляд», 1960. Ксеракопія, 2 с., на англ. мове.
46. Артыкул Б. У. Кіта «Якія магчымасці прадастаўляе энергія космасу», с. 40–41 з часопіса «Астранаўтычны сшытак», 1976. Ксеракопія, 2 с., на ням. мове.
47. «Гісторыя г. Наваградка ў РБ» — даведка, падрыхтаваная Б. У. Кітом для бургамістра г. Ляймэна.
48. Артыкул «Далейшае выкарыстанне электронных антэн» з газеты «Electronic News», 9.09.1963. Ксеракопія, на англ. мове.

### Запрашэнні, выступленні на навуковых канферэнцыях

1. Запрашэнне на канферэнцыю «Fourth IAA International Conference on Low-Cost Planetary Missions. May 2–5, 2000». 21,6 × 27,9 см, 2 с., на англ. мове.
2. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі «IAA, 28th Newsletter», 2000. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
3. Ліст Б. У. Кіту ад Алены Макоўскай, старшыні Рады ЗБС «Бацькаўшчына», у якім паведамляецца, што Б. У. Кіт уключаны ў спіс сяброў Аргкамітэту па падрыхтоўцы і правядзенні чацвёртага З'езда беларусаў свету. У дадатку — рабочы план з'езда. 15.01.2004. 17,2 × 21 см, дадатак фармат А4, на бел. мове.
4. Ліст адносна выплаты членскіх узносаў Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2004 г. Фармат А4, на англ. мове.
5. Запрашэнне на кангрэс, прысвечаны 35-годдзю Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна. 8.03.2004. У дадатку — праграма і заяўка. Фармат А4, 4 с., на ням. мове.
6. Даклад П. Крамера, доктара тэхнічных навук, прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, на пасяджэнні, прысвечаным завяршэнню 2004 г. Фармат А4, 2 с., на ням. мове.

7. Членскія ўзносы Б. У. Кіта ў Міжнародную асацыяцыю касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна за 6.11 і 30.12.2003, 6.11.2002, 16.11.2001, 5.01.2004. Фармат А4, 6 с., на ням. мове.
8. Квітанцыя на імя Б. У. Кіта на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2001 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
9. Квітанцыя на імя Б. У. Кіта на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2004 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
10. Запрашэнне на рэгулярны агульны сход Акадэміі астранаўтыкі, 28.09.2003. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
11. Квітанцыя на імя Б. У. Кіта на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2003 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
12. Квітанцыя на імя Б. У. Кіта на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2002 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
13. Ліст Мары Лізы Шанін, старшыні камітэта па намінацыях, ад 7.07.2003, у якім прапануецца правесці галасаванне па пошце па складу камітэта апекуноў. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
14. Праграма рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, 28.09.2003. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
15. Ліст др. Хірокі Мацуо, віцэ-прэзідэнта аддзела публікацый і сувязей, ад 29.11.2001, у якім прапануецца падпісацца на навуковы часопіс. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
16. Ліст др. Жана Мішэля Кантана, генеральнага сакратара Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, ад 29.11.2001, у якім прапануецца выбраць намінацыі на ўзнагароды Акадэміі. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
17. Інфармацыйны ліст Б. У. Кіта ад 7.11.2001, у якім указваецца становішча, якое ён займае ў Акадэміі астранаўтыкі, яго месца пражывання, яго падпісныя выданні. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
18. Запрашэнне на мерапрыемствы ў Музей касмічных палётаў імя Г. Оберта ад 21.06.2003. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
19. Запрашэнне на вячэру, арганізаваную Міжнароднай асацыяцыяй касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, якая адбылася 5.07.2003. 8 × 21 см, на ням. мове.
20. Праграма 34-га штогадовага пасяджэння Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, якое адбылося 4–6.07.2003. 10 × 20,9 см, на ням. мове.
21. Запрашэнне на 34-е штогадовае пасяджэнне Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна ад 19.05.2003. У дадатку — праграма. Копія, фармат А4, 3 с., на ням. мове.
22. Запрашэнне на 34-е штогадовае пасяджэнне Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна ад 19.05.2003. Копія, фармат А4, 2 с., на ням. мове.
23. Запрашэнне на чарговае пасяджэнне Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, якое адбылося 22.06.2003. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.
24. Квітанцыя на імя Б. У. Кіта на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 2005 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
25. Ліст Б. У. Кіту ад Раяджыры Акібы, старшыні камітэта па намінацыях 2001 г., ад 20.07.2001, у якім прапануецца выбраць намінантаў на ўзнагароды. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
26. Праграма рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, Нацыянальнай акадэміі навук ЗША, Нацыянальнай акадэміі тэхнікі ЗША, Інстытута медыцыны ЗША, якая адбылася 13.10.2002. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
27. Праграма працоўнай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, Акадэміі навук Францыі і Нацыянальнай акадэміі авіяцыі і космасу (Францыя). Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
28. Рэклама выставы, арганізаванай Міжнароднай асацыяцыяй касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, якая адбылася 26.09.2004. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
29. Запрашэнне на 35-е штогадовае пасяджэнне Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, якое адбылося 26.09.2004. Копія, фармат А4, 1 с., на ням. мове.
30. Запрашэнне на выніковы сход, які адбыўся 13.05.2004 у Музеі касманаўтыкі Таварыства Г. Оберта і В. фон Брауна. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.

31. Старонка сайта «Benefits of Human Presence in Space». Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
32. Анкета ўдзельнікаў навуковай сустрэчы, якая адбылася 3.10.2004 у Канадзе. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
33. Ліст Б. У. Кіту ад Жана Майкла Кантана, ад 13.07.2004, у якім падаецца інфармацыя аб рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
34. Запрашэнне на 35-е штогадовае пасяджэнне Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, ад 08.2004. У дадатку — кароткая праграма. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
35. Рэклама мерапрыемства ў Музеі касманаўтыкі Таварыства Г. Оберта і В. фон Брауна, якое адбылося 15.05.2006. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.
36. Запрашэнне на чарговае пасяджэнне ў Музеі касманаўтыкі Таварыства Г. Оберта і В. фон Брауна, якое адбылося 28.04.2006. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.
37. Ліст Б. У. Кіту ад Жана Майкла Кантана, люты 2000, у якім прапануецца выбраць найбольш актыўнага ўдзельніка секцыі на намінацыю. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
38. Ліст В. Купрыянаву ад Б. У. Кіта з падзякай за даклад, ад 23.11.2005. У дадатку — папраўкі да даклада. Фармат А4, 3 с., на рус. мове.
39. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1998 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
40. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1999 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
41. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1994 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
42. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1995 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
43. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1995 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
44. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1996 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
45. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1997 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
46. Квітанцыя на атрыманне ганарару ад Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1997 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
47. Ліст Губерта Кур’ена, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, ад 1.01.1996, у якім прадстаўлена праграма Акадэміі на 1996 г. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
48. Ліст Б. У. Кіту з рэдакцыі газеты «Deutsche Post», ад 27.04.1999. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.
49. Праграма рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі і Акадэміі навук Ізраіля, якая адбылася 9.10.1994. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
50. Праграма пасяджэння Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, якое адбывалася 8.10.94 у Іерусаліме. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
51. Праграма чарговага сходу Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, які адбыўся 3.10.95 у выставачным кангрэс-цэнтры Sjolyst, Осла. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
52. Рашэнні і рэкамендацыі майстэрні «Маленькія партнёры Лацінскай Амерыкі», якая праходзіла 20–23.06.94 у Бразіліі. Фармат А4, 2 с., на англ. мове.
53. Праграма рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі і Акадэміі навук Нарвегіі, якая адбылася 1.10.95. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
54. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 25th Newsletter», 1998. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
55. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 24th Newsletter», 1997. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
56. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 23th Newsletter», 1998. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.

57. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 22th Newsletter», 1996. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
58. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 21th Newsletter», 1995. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
59. Навіны Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. «IAA 19th–20th Newsletter», 1993–1994. 21 × 29,7 см, 12 с., на англ. мове.
60. Ліст Б. У. Кіту ад М. Бігнера, старшыні камітэта па намінацыях 1995 г., ад 20.07.1995, у якім прапануецца выбраць намінантаў на ўзнагароды. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
61. Спіс камітэтаў у складзе Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі на 4.03.94. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
62. Спіс новых членаў Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1994 г. Фармат А4, на англ. мове.
63. Анкета на членства ў Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Узор. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
64. Анкета для намінацыі на ўзнагароду Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Узор. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
65. Ліст Б. У. Кіту ад К. Клейна, старшыні камітэта па намінацыях 1997 г., ад 20.07.1997, у якім прапануецца выбраць намінантаў на ўзнагароды. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
66. Рэклама сайта Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
67. Ліст Б. У. Кіту ад Д. Кантана, генеральнага сакратара Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, ад 24.07.1998, у якім паведамляецца аб генеральным сходзе Акадэміі, на якім абмяркоўваўся статут Акадэміі. У дадатку — статут Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Фармат А4, 3 с., на англ. мове.
68. Рэгістрацыйны ліст удзельнікаў пленарнага пасяджэння Акадэміі Астранаўтыкі ў Мельбурне, Аўстралія, верасень 1998 г. Фармат А4, 1 с. на англ. мове., копія
69. Праграма рабочай сустрэчы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, Акадэміі навук Аўстраліі і Аўстралійскай акадэміі тэхналагічных навук і тэхнікі, якая адбылася 27.10.98. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
70. Ліст Б. У. Кіту ад Эн Оксфард, старшыні камітэта па намінацыях 1999 г., ад 20.07.1999, у якім прапануецца выбраць намінантаў на ўзнагароды. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
71. Рэгістрацыйны ліст Б. У. Кіта на рабочым сходзе Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі 13.10.2002 у Х’юстане, Тэхас, ЗША. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
72. Спіс удзельнікаў рабочага сходу Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, які адбыўся 9.10.94 у Іерусаліме, Ізраіль. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
73. Даклад П. Крамера, доктара тэхнічных навук, прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі касмічных палётаў Г. Оберта і В. фон Брауна, на пасяджэнні, прысвечаным завяршэнню 2005 г. Фармат А4, 2 с., на ням. мове.
74. Спіс намінантаў і ўзнагарод Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі за 1994 г. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
75. Ліст Д. Кантана да Б. У. Кіта, ад 28.04.2006, у якім прапануецца прагаласаваць за намінантаў 2006 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
76. Ліст Д. Кантана да Б. У. Кіта, красавік 1995, у якім прапануецца прагаласаваць за намінантаў 1995 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
77. Ліст Д. Кантана да Б. У. Кіта, красавік 1996, у якім прапануецца прагаласаваць за намінантаў 1996 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
78. Ліст Д. Кантана да Б. У. Кіта, красавік 1997, у якім прапануецца прагаласаваць за намінантаў 1997 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
79. Ліст Д. Кантана да Б. У. Кіта, красавік 1999, у якім прапануецца прагаласаваць за намінантаў 1999 г. Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
80. Ліст Губерта Кур’ена да Б. У. Кіта, люты 1995, у якім пералічваюцца асноўныя планавыя сходы Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі на 1995 г. Копія, фармат А4, 1 с., на англ. мове.
81. Ліст Б. У. Кіту ад Я. Шыраева, прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, ад 18.12.1997, у якім выказваецца падзяка за прапанову Б. У. Кіта перакласці кнігу на англ. мову. Рукапіс, фармат А4, 1 с., на рус. мове.

315. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, ў якім пералічваюцца праблемы пераводу грашовых сродкаў у Літву. Вільня, 1995. 18,5 × 23,7 см, 2 с., на бел. мове.
316. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім пералічваюцца асноўныя тэмы аўтабіяграфічнай кнігі пра Б. У. Кіта «Таленты і геніі: Жыццё і дзейнасць акадэміка Б. У. Кіта». Вільня, 1995. 21,3 × 27,8 см, 2 л., на бел. мове.
317. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра цяжкасці выдаць кнігі ў Беларусі. Вільня, 1995. 21,3 × 27,2 см, 2 с., на бел. мове.
318. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім размова ідзе пра біяграфію Б. У. Кіта. Вільня, 1995. 14 × 19,5 см, 2 л., на бел. мове.
319. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра адкрыццё музея ў беларускай школе. Вільня, 1995. 21,2 × 27,7 см, на бел. мове.
320. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца аб завяршэнні работы над кнігай і прапануецца дапоўніць яе фотаздымкамі з Навагрудчыны. Вільня, 1995. 21,2 × 27,8 см, 2 с., на бел. мове.
321. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім задаюцца дадатковыя пытанні для новай кнігі Анішчыка. Вільня, 1995. 19,8 × 25,7 см, 2 с., на бел. мове.
322. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра выданне зборніка і ідэю выдаць вершы, напісаныя ў лагеры. Вільня, 1995. Фармат А4, 2 с., на бел. мове.
323. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта асабістага характару. Вільня, 1995. 21,3 × 27,7 см, 2 с., на бел. мове.
324. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта асабістага характару. Вільня, 1993. Фармат А4, 2 с., на бел. мове.
325. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта асабістага характару. Вільня, 1995. 21,3 × 27,7 см, 2 с., на бел. мове.
326. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім выказваецца заклапочанасць аб выданні аўтабіяграфічнай кнігі пра Б. У. Кіта. Вільня, 1996. 21,3 × 27,7 см, 2 с., на бел. мове.
327. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім выказваецца заклапочанасць аб выданні аўтабіяграфічнай кнігі пра Б. У. Кіта. Вільня, 1996. 21,3 × 27,7 см, 2 с., на бел. мове.
328. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта асабістага характару. Вільня. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
329. Ліст былога вучня Віленскай гімназіі Р. Мілюкаса да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра справы Беларускага таварыства Шальчынінкайскага раёна. Вільня, 1994. Фармат А4, 2 с., на бел. мове.
330. Ліст Р. Мілюкаса да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра цяжкасці атрымаць візу і зрабіць паперы на выезд. Вільня, 1994. 20,4 × 28,9 см, 1 л. з дадаткам, на бел. мове.
331. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца аб выхадзе кнігі твораў, напісаных у лагеры. Вільня, 1996. 13,6 × 20,8 см, 1 с., на бел. мове.
332. Ліст М. Сяднёва да Б. У. Кіта з падзякай за віншаванні і з найлепшымі пажаданнямі, 1994. 15,2 × 23 см, 1 с., на англ. мове.
333. Ліст А. Майсяёнка да Б. У. Кіта асабістага характару. Гродна, 1996. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
334. Ліст Б. У. Кіта да Л. Тэнэна, у якім выказваецца вялікая ўдзячнасць за ўдзел у спробе стварыць Універсітэт беларускай культуры. Франкфурт, 1996. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
335. Ліст Б. У. Кіта да Л. Тэнэна, у якім выказваецца просьба пераслаць матэрыялы дырэктару Навагрудскага музея Т. Вяршыцкай. Франкфурт, 1996. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
336. Ліст д-ра І. Шлоотца да Б. У. Кіта, у якім ён просіць папярэдзіць, ці зможа яго наведаць 11 кастрычніка. Берлін, 1996. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
337. Ліст д-ра І. Шлоотца да Б. У. Кіта, у якім ён перадае прывітанне са Скарынаўскага цэнтра і паведамляе аб выставе пра прапаганду нацызма ў Германіі. Берлін, 1996. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
338. Ліст Л. Тэнэна да Б. У. Кіта, у якім ён паведамляе, што перадае копію ліста Т. Вяршыцкай і выказвае вялікую падзяку за магчымасць стаць членам камітэта Беларускага ўніверсітэта культуры. ЗША, 1996. 21,6 × 28 см, 2 л., на англ. мове.
339. Даведкі архіўныя на імя Расціслава Мілюка, загінуўшага ў маі 1944 года ў Бухенвальдзе. Літва, 1990. Копіі, фармат А4, 3 л., на пол. і ням. мовах.

340. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім зноў падымаецца пытанне аб выданні кнігі. Вільня, 1996. 21,3 × 27,7 см, 1 л., на бел. мове.
341. Ліст Л. Савік да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца аб выхадзе сігнальных экземпляраў кнігі «Космас беларуса». Мінск, 1996. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
342. Ліст А. Гатковіча да Б. У. Кіта асабістага характару. Англія, 1993. 14,8 × 21 см, 2 л., на бел. мове.
343. Ліст Р. Сіплевіч да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за ўзнагароду за партрэт. Мінск. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
344. Ліст А. Гатковіча да Б. У. Кіта асабістага характару. Англія, 1993. 20,2 × 29,5 см, 2 л., на бел. мове.
345. Ліст ад Лёнгіны і Уладзіміра да Б. У. Кіта, у якім абмяркоўваецца побыт Б. У. Кіта ў Амерыцы. ЗША, 1989. 21,6 × 27,5 см, 2 с., на бел. мове.
346. Ліст былой вучаніцы Віленскай гімназіі Яўгеніі Навумчык да Б. У. Кіта асабістага зместу. Вільня, 1995. 20,6 × 29,7 см, на бел. мове.
347. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім выказваюцца падзякі за добрыя адносіны і за ганаровае членства ў Акадэміі Еўразіі. Мінск, 1995. 20,7 × 29,7 см, 1 л., на бел. мове.
348. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, ў якім паведамляецца пра прыезд у Франкфурт Руслана, сына В. Іпатавай. Мінск. 20,7 × 29,5 см, 1 л., на бел. мове.
349. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра святкаванне 950-годдзя Наваградка. Мінск, 1994. 20,7 × 29,5 см, 1 л., на бел. мове.
350. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца аб тым, што яе сын атрымаў чарговую стыпендыю і год будзе жыць у Франкфурце. Мінск, 1996. 21 × 29,7 см, 2 л., на бел. мове.
351. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца аб недарэчнасцях у час візіту дэлегацыі г. Ляймэна ў Беларусь. Мінск, 1995. 20,5 × 30,2 см, 2 л., на бел. мове.
352. Даклад Гюнтэра Буркаса аб выставе Нелі О'Брэн, якая адбылася ў залах Гродзенскага замка ў 1995. Аргенціна, 1995. Фармат А4, 19 л., на ням. мове.
353. Ліст Б. У. Кіту ад А. Майсяёнка, ад 20.06.2005 з просьбай дапамагчы ў стварэнні экспазіцыі Б. У. Кіта ў Музеі касманаўтыкі ў Санкт-Пецярбургу. Копія, фармат А4, 1 с., на бел. мове.
354. Ліст Б. У. Кіту ад В. Купрыянава, ад 21.06.2005, у якім задаюцца пытанні аб навуковай дзейнасці акадэміка. Копія, фармат А4, 2 с., на рус. мове.
355. Старонка сайта аб В. М. Купрыянаве. Фармат А4, 1 с., на рус. мове.
356. Ліст Б. У. Кіту ад В. Купрыянава ад 15.07.2005 з падзякай Б. У. Кіту за супрацоўніцтва. Фармат А4, 1 с., на рус. мове.
357. Ліст В. Купрыянаву ад Б. У. Кіта ад 21.07.2005, у якім аўтар апісаў сваю працу ў галіне касманаўтыкі. Рукапіс, фармат А4, 7 с.
358. Ліст Б. У. Кіту ад В. Купрыянава ад 28.09.2005 з падзякай за адказы і дасланыя матэрыялы. Фармат А4, 2 с., на рус. мове.
359. Ліст В. Купрыянаву ад Б. У. Кіта ад 10.10.2005, у якім аўтар апісаў свае сустрэчы з вядомымі навукоўцамі. Рукапіс, фармат А4, 8 с.
360. Ліст др. Кантанту ад Б. У. Кіта ад 7.04.2003, у якім аўтар выказвае падзяку за дасланую кнігу «Yearbook 2002». Фармат А4, 1 с., на англ. мове.
361. Віншаванне Б. У. Кіту з 95-годдзем ад С. А. Маскевіча, рэктара Гродзенскага ўніверсітэта. Фармат А4, 1 с., на бел. мове.
362. Ліст Б. У. Кіту ад Луізы Інгрыд Чэхофф ад 8.03.2004 асабістага характару. Копія, фармат А4, 1 с., на ням. мове.
363. Ліст Б. У. Кіту ад Луізы Інгрыд Чэхофф ад 15.03.2004 асабістага характару. Фармат А4, 1 с., на ням. мове.
364. Ліст У. Арлова да Б. У. Кіта з падзякай за дасланы ліст і інфармацыя, што перадаў Б. У. Кіту сваю новую кнігу «Таямніцы Полацкай гісторыі». Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
365. Ліст В. Якавенкі да Б. У. Кіта, у якім выказваецца захапленне ад кнігі «Цярновы шлях». Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
366. Ліст Р. Гарэцкага да Б. У. Кіта, у якім выказваюцца найлепшыя пажаданні з нагоды 93-годдзя. Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.

367. Запіска В. Быкава да Б. У. Кіта, у якой пісьменнік просіць перакласці з нямецкай мовы паперы з банку. На ёй адказ Б. У. Кіта. Прага – Франкфурт, 2003. Фармат А4, 2 с., на бел. мове.
368. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім выказваецца прапанова крыху змяніць змест новай кнігі. Франкфурт, 2003. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
369. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім выказвпаецца прапанова перадрукаваць некаторыя лісты з альбома ў кнігу. Франкфурт, 1993. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
370. Запіска П. Саўчанкі да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра новый артыкул, які быў надрукаваны ў газеце «Рунь». Мінск, 2003. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
371. Ліст В. Сырыцы да Б. У. Кіта, ў якім апісваецца змест кнігі А. Татаранкі «Безумие» з мэтай атрымаць фінансавую падтрымку. Баранавічы, 2006. Фармат А4, 3 л., на рус. мове.
372. Віншавальны ліст А. Ліса да Б. У. Кіта з надыходзячымі Калядамі і Новым 2003 годам. Наваградак, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
373. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім ён просіць улічыць заўвагі, адзначаныя ў рукапісе. Франкфурт, 2004. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
374. Ліст Б. У. Кіта да Я. Шыраева, у якім навуковец паведамляе, што апошняму ўручылі Залаты медаль. Франкфурт, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
375. Заметка В. Быкава «Шчасьлівы лёс беларускага выгнанніка». 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
376. Ліст У. Арлова да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца, што перадаў яму новую кнігу «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя.». Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
377. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра справы музея. Наваградак, 2003. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
378. Ліст-віншаванне А. Ліса да Б. У. Кіта з нагоды надыходзячага Новага 2003 года і Калядаў. Наваградак, 2002. Копія, фармат А4, 1 л., на бел. мове.
379. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім ён просіць зрабіць некаторыя папраўкі ў кнізе. Франкфурт, 2003. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
380. Прамова д-ра І. Шлоотца, прафесара Берлінскага ўніверсітэта, на ўрачыстасцях, прысвечаных уручэнню «Прэміі Б. У. Кіта». Пераклад. Берлін, 2003. Фармат А4, 8 л., на ням. і бел. мовах.
381. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім ён паведамляе, што дасылае успаміны Л. Тэнэна, якія павінны быць выкарыстаны ў кнізе. Дадатак — успаміны Л. Тэнэна. Франкфурт, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове. Дадатак — 3 л., на англ. мове.
382. Ліст да Б. У. Кіта былога вучня Адміністрацыйна-гандлёвага інстытута ў Маладзечна, у якім ён выказвае ўдзячнасць і расказвае аб сустрэчы з Л. Савік. Маладзечна, 1995. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
383. Ліст В. Якавенкі да Б. У. Кіта, у якім аўтар расказвае аб сваіх кнігах «Крушэнне на ростані» і «Надлом», якія дасылае Б. У. Кіту і просіць напісаць свае ўражанні. Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
384. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім аўтар прадстаўляе кароткі змест кнігі, чарнавы варыянт. Франкфурт, 2004. Фармат А4, 14 л., на бел. мове.
385. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім праўкі да новай кнігі і адна старонка на англ. мове. Франкфурт, 1996. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
386. Ліст Б. У. Кіта да Л. Савік, у якім падаецца пераклад паведамлення д-ра І. Шлоотца на ўрачыстасцях з нагоды 95-годдзя Б. У. Кіта. Франкфурт, 2005. Фармат А4, 9 л., на бел. мове.
387. Ліст А. Міхальчанкі, старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівам і справаводству Рэспублікі Беларусь, да Б. У. Кіта, у якім ён просіць афіцыйна пацвердзіць жаданне перадаць дакументы на захаванне. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
388. Ліст Б. У. Кіта да А. Міхальчанкі, у якім канкрэтана не агаворваецца тэрмін перадачы, але пацвярджаецца жаданне перадаць матэрыялы ў архіў. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
389. Ліст Б. У. Кіта да Г. Г. Сокала, дырэктара БЭЮК з віншаваннямі з нагоды 10-годдзя існавання навучальнай установы. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
390. Ліст С. Кошур, навук. супрацоўніка Карэліцкага музея, да Б. У. Кіта, у якім яна распавядае пра справы музея. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.

391. Ліст Славы Лягенчанкі да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца аб прыбыцці ў Франкфурт. Аўстралія, 2001. 19,8 × 29,5 см, 1 л., на бел. мове.
392. Віншавальная паштоўка з Вялікаднем ад Надзеі Барт-Юрэвіч Б. У. Кіту. ЗША. 12,1 × 14,4 см, на бел. мове.
393. Ліст Ірыны, сястры, да Б. У. Кіта, з віншаваннем з днём нараджэння. 2002. 19,1 × 27 см, 1 л., на бел. мове.
394. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, ў якім выказваецца падзяка за дапамогу ў цяжкія хвіліны жыцця. Мінск, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
395. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім яна распавядае пра свае беларускія справы. Мінск, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
396. Ліст Льва Кіты да Б. У. Кіта з аповедам аб цяжкасцях жыцця. Мінск, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
397. Лісты А. Давідовіча да Б. У. Кіта з расказам пра работу па збору матэрыялаў аб жыцці Б. У. Кіта і просьбамі даслаць фотаздымкі, анкетныя дадзеныя для будучай кнігі, Маладзечна, 2002–2003. Фармат А4, 10 л., на бел. мове.
398. Ліст С. Кошур, супрацоўніка музея ў Карэлічах, да Б. У. Кіта, у якім яна дзякуе за дасланыя матэрыялы і просіць апісаць некаторыя фотаздымкі. Карэлічы, 2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
399. Лісты Алеся Ралаўца да Б. У. Кіта, у якіх паведамляе аб сваёй працы ў школе, аб сваіх новых сувязях з землякамі за мяжой. Маладзечна, 2002–2003. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
400. Ліст А. Чэмера да Б. У. Кіта, у якім ён расказвае пра сваё жыццё і дзеліцца ўражаннямі ад твораў В. Быкава. Вільня, 2002. 21,5 × 29,7 см, на бел. мове.
401. Лісты Галіны Міхайлаўны Аўдзей, унучкі А. А. Данілевіча, да Б. У. Кіта, у якіх яна паведамляе аб сваім жыцці і просіць расказаць пра свайго дзядулю, якога яна амаль не ведала. Гродна, 2002. Фармат А4, 4 л., на рус. мове.
402. Ліст С. Кошур да Б. У. Кіта, у якім яна расказвае пра сустрэчу беларускіх пісьменнікаў у Карэлічах. Карэлічы, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
403. Ліст У. Арлова да Б. У. Кіта, у якім пісьменнік выказвае падзяку Б. У. Кіту і В. Быкаву за кнігу «Цярновы шлях». Мінск, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
404. Ліст Ірыны, сястры, да Б. У. Кіта, у якім яна распавядае пра сваё жыццё ў вёсцы Агароднікі, 2002. 19,1 × 27 см, 1 л., на бел. мове.
405. Ліст В. Іпатавай да Б. У. Кіта, у якім яна расказвае пра сустрэчу ў Глыбокім. Мінск, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
406. Лісты Вадзіма Нарбутовіча да Б. У. Кіта, у якім ён расказвае пра сваё жыццё ў Беларусі і Нямеччыне, пра сваіх дзядоў і захапляецца жыццём Б. У. Кіта. Берлін, 2002. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
407. Ліст Сяргея Законнікава да Б. У. Кіта, у якім ён паведамляе пра заснаванне новага часопіса «ТОК», просіць Б. У. Кіта стаць членам рэдакцыйнай Рады і дапамагчы знайсці спонсараў для заснавання часопіса. Мінск, 2002. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
408. Ліст Алены Глагоўскай да Б. У. Кіта, у якім яна расказвае пра свае новыя сустрэчы і задумку напісаць кнігу пра Ільяшэвічаў. Гданьск, 2002. 15,5 × 21 см, 1 л., на бел. мове.
409. Ліст В. Быкава да Б. У. Кіта асабістага характару. Германія, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
410. Ліст В. Быкава да Б. У. Кіта, у якім пісьменнік просіць дапамагчы Законнікаву знайсці спонсараў. Германія, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
411. Ліст Кастуся Харашэвіча да Б. У. Кіта, у якім ён паведамляе, што ідзе падрыхтоўка да асабістай выставы з нагоды 75-годдзя. Маладзечна, 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
412. Ліст Б. У. Кіта да А. Давідовіча, у якім навуковец пісьмова адказвае на пытанні, дасланыя раней. Дадатак — копія артыкула з газеты «Рунь» «Прэмія ймя Б. У. Кіта 2002 г.» Паўла Саўчанкі. Фармат А4, 5 л., на бел. мове.
413. Ліст Г. Сокала, дырэктара Эканоміка-юрыдычнага каледжа, да Б. У. Кіта, у якім віншаванні з днём нараджэння і паведамляецца аб запланаванай сустрэчы з Л. Савік. Баранавічы, 2002. Копія, фармат А4, 1 л., на бел. мове.

414. Ліст Г. Сокала, дырэктара Эканоміка-юрыдычнага каледжа, да Б. У. Кіта, у якім віншаванні з днём нараджэння і паведамляецца, як адзначылі гэтую дату навучэнцы каледжа. Баранавічы, 2001. Копія, фармат А4, 1 л., на бел. мове.
415. Ліст В. Быкава да Б. У. Кіта асабістага характару. Германія, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
416. Віншаванне з 91-й гадавінай з дня нараджэння Б. У. Кіту ад А. В. Ліса, старшыні Навагрsuccsкага райвыканкама. Наваградак, 2001. Копія, фармат А4, 1 л., на бел. мове.
417. Віншаванне з днём нараджэння Б. У. Кіту ад Тамары Вяршыцкай і супрацоўнікаў музея. Наваградак, 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
418. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта. у якім яна паведамляе аб працы над часопісам «Зямля Наваградская». Наваградак, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
419. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта. у якім віншаванні з днём нараджэння і паведамляецца аб чарговым конкурсе інтэлектуалаў. Наваградак, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
420. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра першы нумар часопіса «Зямля Наваградская» і пра пераможцу чэмпіяната інтэлектуальных гульняў. Наваградак, 2001. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
421. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім выказваюцца ўражанні ад юбілейнага альбома. Наваградак, 2002. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
422. Ліст Б. У. Кіта, у якім ён падрабязна расказвае пра сваю дзейнасць у часы нямецкай акупацыі. Франкфурт, 2002. Фармат А4, 9 л., на бел. мове.
423. Ліст В. Быкава да Б. У. Кіта асабістага зместу. Германія, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
424. Ліст Алены Войцік, былой вучаніцы Б. У. Кіта, дачкі Зоські Верас, да Б. У. Кіта, ў якім выказваецца падзяка за дасланы альбом, паведамляецца аб складаным становішчы беларусаў у Вільні. Вільня, 2002. 14,8 × 21 см, 1 л., на бел. мове.
425. Лісты С. Кошур да Б. У. Кіта, у якіх навіна аб выданні кнігі «Вяртанне на Радзіму», паведамленне аб няўдалых пошуках магілы маці Б. У. Кіта. Карэлічы, 2002. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
426. Ліст К. Акулы да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за «Цярновы шлях», 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
427. Ліст К. Акулы да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за дасланы юбілейны альбом і заўвагі па тэксту. 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
428. Ліст Соф'і Клозман да Б. У. Кіта, у якім выказваецца захапленне жыццём Б. У. Кіта і ўдзячнасць за аповяд «Цярновы шлях». Ізраіль, 2002. 20,5 × 29,5 см, 2 л., на бел. мове.
429. Лісты Л. Кіты, брата, да Б. У. Кіта, асабістага характару. У дадатку — песні, словы і музыка Л. Кіты. Мінск, 2001. Фармат А4, 10 л., на бел. мове.
430. Лісты П. Саўчанкі да Б. У. Кіта, у якіх выказваецца ўдзячнасць за дасланыя кнігі і паведамляецца пра мерапрыемствы, прысвечаныя Б. У. Кіту. Мінск, 2002. 14,7 × 21 см, 2 л., на бел. мове.
431. Лісты К. Акулы да Б. У. Кіта, асабістага характару, 2002. 11,8 × 21,7 см, 21,5 × 27,9 см, 2 л., на бел. мове.
432. Лісты С. Кошур да Б. У. Кіта, у якіх размова ідзе аб выданні кнігі «Вяртанне на Радзіму». Карэлічы, 2002. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
433. Ліст В.В. Струк, загадчыцы аддзела культуры Карэліцкага райвыканкама, да Б. У. Кіта, у якім выказваецца вялікая ўдзячнасць за дапамогу ў выданні кнігі «Вяртанне на Радзіму». Карэлічы, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
434. Ліст П. Кузюковіча Да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца, як пышна святкавалі дзевяностагоддзе навукоўца. Брэст, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
435. Лісты Фурса А. Л., былой вучаніцы гандлёвай школы ў Маладзечна, да Б. У. Кіта, у якіх расказвае аб сабе і ўспамінае сваё студэнцтва. Паставы, 1998. Фармат А4, на бел. мове.
436. Ліст Я. Фядзюшына да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра цяжкасці, з якімі сутыкнуліся пры арганізацыі «Беларускага дабрачыннага фонда». Мінск, 1992. 20,5 × 29,1 см, 1 л. на бел. мове.
437. Ліст М. Ярчыка да Б. У. Кіта, ў якім ён расказвае аб сваёй працы ў Беларусі, аб дзяржаўнай алімпіядзе, якаю збіраюцца праводзіць на кафедры хіміі Брэсцкага ўніверсітэта. Брэст, 1998. 19,8 × 29,8 см, 1 л., на бел. мове.

438. Лісты Яўгеніі Навумчык, былой вучаніцы, да Б. У. Кіта, у якіх яна распавядае пра жыццё беларусаў у Вільні і выказвае падзяку за дасланую кнігу. Вільня, 1997. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
439. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку СШ№ 1. Наваградак, 2000. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
440. Ліст С. Лягенчанка, былой вучаніцы, да Б. У. Кіта, у якім расказвае пра складаны лёс сваёй дачкі ў Германіі, просіць парады і дапамогі. Сідней, 2000. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
441. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім ён расказвае пра выпадак рабаўніцтва. Вільня, 2000. 21,3 × 27,5 см, 4 с., на бел. мове.
442. Ліст А. Фурса да Б. У. Кіта з віншаваннем з надыходзячым Новым годам і Калядамі. Паставы, 2000. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
443. Лісты Л. Кіты да Б. У. Кіта асабістага характару. Мінск, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
444. Ліст Ірыны, сястры, да Б. У. Кіта, у якім яна распавядае пра сваё жыццё і віншуе з надыходзячым Новым годам і Калядамі. Карэлічы, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
445. Ліст К. Акулы да Б. У. Кіта, у якім ён віншуе з надыходзячым Новым годам і Калядамі. Таронта, 2000. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
446. Ліст вучняў 5 класа Вараб’евіцкай школы Наваградскага раёна да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра жыццё класа і выказваецца просьба адказаць на ліст. Вараб’евічы Навагрудскага раёна, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
447. Ліст Я. Лецкі да Б. У. Кіта, у якім ён выказвае сваю думку наконт супадзення тэкстаў у кнігах Л. Савік і А. Чэмера. Мінск, 2000. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
448. Ліст Л. Кіты да Б. У. Кіта, у якім віншаванне з Новым годам, ноты са словамі новых песень і музычная крыжаванка. Мінск, 2001. Фармат А4, 7 л., на бел. мове.
449. Ліст Насці, сястры, да Б. У. Кіта, у якім яна расказвае пра сваю сям’ю і ўнукаў. Валеўка Навагрудскага раёна. Фармат А4, 3 л., на рус. мове.
450. Ліст Кастуся Харашэвіча да Б. У. Кіта, у якім ён просіць даслаць фотаздымак 1944 года для працы над мастацкім творам «Мае настаўнікі». Маладзечна, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
451. Лісты А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якіх паведамляецца пра жыццё і жыццёвыя турботы. Вільня, 2001. Фармат А4, 6 л., на бел. мове.
452. Ліст Ніны Леўкавічанкі, былой вучаніцы, да Б. У. Кіта, у якім яна ўспамінае выпадак са школьнага жыцця, калі была сарвана лекцыя па фізіцы. Парыж, 1999 г. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
453. Ліст І. Пракаповіча да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра краязнаўчую працу ў Паставах. Паставы, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
454. Ліст А. Фурса да Б. У. Кіта, у якім яна дзеліцца сваімі ўражаннямі пра кнігу ўспамінаў, запісаную В. Быкавым. Паставы, 2002. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
455. Ліст Ніны Леўкавічанкі да Б. У. Кіта, у якім яна ўспамінае, як калісьці ім даслалі сала ў Берлін, і віншуе з Вялікаднем. Парыж, 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
456. Ліст П. Саўчанкі да Б. У. Кіта, у якім размова ідзе аб перавыданні кнігі «Партрэты віленчукоў», і калі Б. У. Кіт згодны выдаць аб сабе, то трэба даслаць 100 $. Вільня, 2001. 21,7 × 28 см, 1 л., на бел. мове.
457. Ліст Руслана Качаткова да Б. У. Кіта, у якім ён дзеліцца ўражаннямі пра мемарыяльную дошку ў Наваградку і спадзяецца на сустрэчу ў Франкфурце. Таронта, 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
458. Ліст Андрэя Майсяёнка да Б. У. Кіта, у якім ён просіць перадаць некалькі нумароў «КГ» Васілю Быкаву. Гродна, 2001. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
459. Ліст ад членаў клуба «Айчына» СШ № 1 да Б. У. Кіта. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
460. Ліст Юрыя Шаўкова да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра відэафільм «Летуценні Язэпа Драздовіча», знятага па яго сцэнарыю. Заслаўе, 1997. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
461. Віншаванне В. Букі, доктара біялагічных навук, Б. У. Кіту з нагоды яго дня нараджэння. Гродна, 1997. Копія з факса, фармат А4, 2 л., на бел. мове.
462. Ліст Б. У. Кіта да Міхаіла Маркавіча, у якім ён просіць напісаць успаміны для В. Іпатавай, якая збірае матэрыял аб Б. Кіце для кнігі. Франкфурт, 1998. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.

463. Ліст М. Няпраўскага да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за кнігу «Космас беларуса». Брэст, 1997. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
464. Ліст М. Няпраўскага да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра Івана Іванавіча Котляра, прафесара Брэсцкага ўніверсітэта. Брэст, 1998. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
465. Ліст В. П. Платонова, прафесара матэматыкі, да Б. У. Кіта, у якім выказваюцца найлепшыя пажаданні і ўказаны паштовы адрас. Канада, 1997. Фармат А4, 1 л., на рус. мове.
466. Ліст В. П. Платонава, прафесара матэматыкі, да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за дасланыя лісты. Канада, 1997. Фармат А4, 1 л., на рус. мове.
467. Ліст Ціны Клыкоўскай, карэспандэнта незалежнай газеты, да Б. У. Кіта, у якім яна распавядае аб сваёй працы над гісторыяй моладзевых арганізацый і просіць даслаць свае ўспаміны. Пінск, 1995. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
468. Ліст М. Сяднёва да Б. У. Кіта з падзякай за кнігу «Космас беларуса». ЗША, 1998. 15,2 × 22,8 см, 1 л., на бел. мове.
469. Ліст А. Анішчыка да Б. У. Кіта, у якім даецца аналіз кнігі «Космас беларуса». Вільня, 1996. Фармат А4, 2,5 л., на бел. мове.
470. Ліст Л. Савік да Б. У. Кіта асабістага зместу, напісаны ў час адпачынку. Нарач, 1994. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
471. Ліст Валодзі і Лёдзі да Б. У. Кіта з падзякай за дасланую аўтабіяграфічную кнігу «Космас беларуса», 1994. 14,9 × 23 см, 1 л., на бел. мове.
472. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай, у якім выказваецца просьба адаслаць ліст падзякі сп. Тэнану за пошук фінансавай падтрымкі для УБК. Франкфурт, 1993. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
473. Ліст Руслана Качаткова да Б. У. Кіта асабістага характару. Мінск, 1993. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
474. Ліст Я. Лецкі да Б. У. Кіта асбістага характару. Мінск, 1994. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
475. Ліст Я. Лецкі да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра сход навуградцаў свету. Мінск, 1994. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
476. Ліст В. Іпатавай з анкетнымі пытаннямі і адказы Б. У. Кіта. Фармат А4, 6 л., на бел. мове.
477. Ліст Я. Лецкі да Б. У. Кіта асабістага характару. Мінск, 1995. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
478. Ліст Ю. Малаша да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца, што напісаны ім сцэнарый аб жыцці Б. У. Кіта ўхвалены і, магчыма, пачнецца праца над фільмам. У дадатку — графічная работа «Космас». Мінск, 1998. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
479. Ліст Ю. Малаша да Б. У. Кіта, у якім ён расказвае пра працу над канцэпцыяй выставы ў Заслаўскім музеі «Космас зямлян» і просіць адказаць на прапанаваныя пытанні. Мінск, 1998. Фармат А4, 5 л., на бел. мове.
480. Ліст Ю. Малаша да Б. У. Кіта, у якім ён паведамляе аб асабістай выставе «Адчуванне Драздовіча». У дадатку — верш «Паўстань з кален». Мінск, 1998. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
481. Ліст Ю. Малаша да Б. У. Кіта, у якім ён перадае сардэчныя прывітанні і паведамляе, што перадаў відэафільм «Летуценні Драздовіча». Мінск, 1998. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
482. Ліст Б. У. Кіта да Ю. Малаша, у якім выказваецца падзяка за дасланы відэафільм і згода дапамагчы ў працы над фільмам пра Б. У. Кіта. Франкфурт, 1998. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
483. Ліст былой вучаніцы Б. У. Кіта А. Л. Фурса да Б. У. Кіта, у якім яна з удзячнасцю ўспамінае пра навучальныя ўстановы, адчыненыя Б. У. Кітом у Паставах і Маладзечна. Паставы, 1998. Копія, фармат А4, 2 л., на бел. мове.
484. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай асабістага характару. Франкфурт, 1998. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
485. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай асабістага характару. Франкфурт, 1997. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
486. Ліст-віншаванне Б. У. Кіта да В. Іпатавай і Я. Фядзюшына з навагоднімі пажаданнямі. Франкфурт, 1998. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
487. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай, у якім пералічаны прозвішчы членаў «Сябрыны па рэалізіцыі ідэй Барыса Кіта». Франкфурт. Фармат А4, 7 л., на бел. мове.

488. Ліст А. Мальдзіса да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца, што на чарговым пасяджэнні Камітэта беларусістаў Б. У. Кіт быў абраны ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Мінск, 1992. Копія, фармат А4, 1 л., на бел. мове.
489. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай, у якім апісваюцца справы Сябрыны Б. У. Кіта. Франкфурт, 1993. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
490. Ліст Б. У. Кіта да В. Іпатавай, у якім выказваецца захапленне створанай Сябрынай Б. У. Кіта. Франкфурт, 1993. Фармат А4, 6 л., на бел. мове.
491. Ліст Я. Фядзюшына да Б. У. Кіта, у якім расказваецца, як Сябрына Б. У. Кіта адзначыла яго дзень нараджэння ў бібліятэцы Дома літаратараў. Мінск, 2003. Фармат А4, 1 л., на рус. мове.
492. Запрашэнне ў Германію на імя Я. Фядзюшына для правядзення навуковых перагавораў. Франкфурт, 1998. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
493. Запрашэнне ў Берлін на імя Я. Фядзюшына для правядзення навуковых перагавораў. Берлін, 1996. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
494. Ліст Т. Казевіч да Я. Фядзюшына, у якім яна просіць не пакідаць без увагі дасланы раней ліст у Бундэсбанк. Франкфурт, 1995. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
495. Ліст Т. Казевіч, у якім паведамляецца, што Я. Фядзюшын, нам. галоўнага рэдактара газеты «Культура», прасіў аб інтэрв'ю ў генеральнага дырэктара Бундэсбанка, які прапанаваў адказаць пісьмова. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
496. Ліст Я. Фядзюшына да Х. Тытмейру, старшыні праўлення банка, у якім ён просіць даць эксклюзіўнае інтэрв'ю газеце «Культура». Дадатак — пытанні для інтэрв'ю. Мінск, 1995. Фармат А4, 4 л., на ням. і рус. мовах
497. Ліст Б. У. Кіта да Я. Я. Шыраева ад 20.08.1995, у якім падаюцца кароткія біяграфічныя звесткі пра Фрэдэрыка Ордвэя, Фрэдэрыка Дуранта, Аўгуста Штаатса, Уладзіміра Копаля. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
498. Ліст з Кітайскага культурнага фонда да Б. У. Кіта, ў якім выказваецца зацікаўленасць праектам Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. Вашынгтон, 1994. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
499. Ліст Б. У. Кіта ў Кітайскі культурны фонд, з падзякай за цікавасць да беларускага праекта і надзеяй на хуткае спатканне і абмеркаванне. Германія, 1994. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
500. Ліст Джодзі Спайра да Б. У. Кіта і Л. Тэнэна, у якім паведамляецца аб аддзяленні фонда Сораса ў Беларусі, адрас і тэлефон. Франкфурт, 1994. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
501. Ліст Роберта Брэма Б. У. Кіту, у якім выказваецца падзяка за дасланую інфармацыю пра праект Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. ЗША, 1994. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
502. Ліст Б. У. Кіта да Дж. Ардэна, дырэктара Мерылендскага ўніверсітэта, у якім выказваецца шчырая падзяка ўніверсітэту і выкладчыкам-калегам, якія адыгралі важную ролю ў жыцці Б. У. Кіта і яго сыноў. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
503. Ліст Л. Тэнэна да Б. У. Кіта, у якім выказваецца спачуванне ў сувязі з палітычнымі падзеямі ў Беларусі і гатоўнасць аказаць дапамогу ў стварэнні Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. ЗША, 1995. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
504. Ліст Беклайкі, дырэктара Музея навукі, да Б. У. Кіта, у якім выказваецца просьба даслаць ілюстрацыі да выступлення ў Малазе ў кастрычніку 1989 года. ЗША, 1995. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
505. Віншавальная паштоўка ад К. Харашэвіча Б. У. Кіту з нагоды 86-годдзя з дня нараджэння. Канверт з адрасам. Маладзечна, 1996. 10,5 × 14,1 см, на бел. мове.
506. Віншавальная картка з Новым годам на імя Б. У. Кіта ад Р. Гарэцкага. 7,1 × 13,2 см, на бел. мове.
507. Ліст Б. У. Кіта да Імрэ Тоса, у якім выказваецца падзяка за дапамогу ў час працы ў Рэгенсбургу. Франкфурт, 1980. Копія, фармат А4, 1 л., на англ. мове.
508. Ліст Б. У. Кіта да Дж. Сасэра з віншаваннем з нагоды новай пасады і паведамленнем аб новай кнізе пра Б. У. Кіта, якая выйшла ў Беларусі. Франкфурт, 1993. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
509. Ліст Дж. Сасэра да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за дапамогу ў арганізацыі сустрэчы ў абшчыне баптыстаў. ЗША, 1995. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
510. Ліст Дж. Сасэра да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за тое, што яго ўключылі ў аргкамітэт па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта. ЗША, 1994. Фармат А4, 2 л., на англ. мове.

511. Віншавальная паштоўка ад сям'і Сяднёвых з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння Б. У. Кіта. ЗША, 1995. 12,1 × 15,6 см, на бел. мове.
512. Ліст Дж. Сасэра да Б. У. Кіта, у якім ён дзеліцца сваімі ўражаннямі пра кнігу Л. Савік і спадзяецца на хуткую сустрэчу ў 1995 годзе. ЗША, 1993. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
513. Ліст Дж. Сасэра да Б. У. Кіта асабістага характару. ЗША, 1993. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
514. Віншавальная паштоўка ад Паўла Саўчанкі з навагоднімі віншаваннямі Б. У. Кіту. Вільня, 1995. 10,5 × 15 см, на бел. мове.
515. Запрашэнне Б. У. Кіту на імпрэзу ў выдавецтва «Пейто» з нагоды выпуску ў свет кнігі «Космас беларуса». Мінск, 1996. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
516. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра знаёмства з Львом Уладзіміравічам Кіта і пра святкаванне 950-годдзя горада Навагрудка. Навагрудак, 1995. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
517. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра хуткую паездку дэлегацыі з Навагрудка ў Ляймэн. Навагрудак, 1996. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
518. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца аб святкаванні 1 верасня ў Навагрудку і ў музеі. Навагрудак, 1995. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
519. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім расказваецца пра новыя задумы і планы музея. Навагрудак, 1995. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
520. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра ўстаноўчы сход Згуртавання навагрудцаў свету, які адбыўся 18 чэрвеня бягучага года. Навагрудак, 1994. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
521. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляецца пра справы музея. Навагрудак, 1996. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
522. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім выказваецца падзяка за дапамогу пры ўстанаўленні сяброўскіх сувязей з горадам Ляймэнам. Навагрудак, 1995. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
523. Паштоўка віншавальная Б. У. Кіту ад рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з Калядамі і Новым годам. Мінск. 10,4 × 14,6 см, на бел. мове.
524. Паштоўка віншавальная Б. У. Кіту ад рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з Калядамі і Новым годам. Мінск. 10,6 × 14,6 см, на бел. мове.
525. Запрашэнне Б. У. Кіту ад Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў за подпісам А. Мальдзіса прыняць удзел у рабоце круглага стала «Беларуска-нямецкае гісторыка-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя і сучаснасць». Мінск, 1996. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
526. Ліст генеральнага дырэктара «Молодёжный стиль» Герцыка да Б. У. Кіта з просьбай дапамагчы ў пошуку спонсараў маладзёвай арганізацыі. Мінск, 1994. Факс, на рус. мове.
527. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляюцца музейныя навіны. Навагрудак, 1995. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
528. Ліст Т. Вяршыцкай да Б. У. Кіта, у якім паведамляюцца музейныя навіны. Навагрудак, 1996. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
529. Ліст Б. У. Кіта сп. Эрбару, обербургамістру г. Ляймэна, у якім выказваецца падзяка за добрае стаўленне да г. Навагрудка. Франкфурт, 1995. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
530. Запрашэнне Б. У. Кіту, падпісанае П. Бяляевым, паслом Рэспублікі Беларусь у Германіі, на прэзентацыю кнігі А. Г. Лукашэнкі «Рэспубліка Беларусь: шлях у будучыню». Германія, 1996. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.

## Прэмія Барыса Кіта

1. Дыплом «Arbeitskreis Belarusisch-Deutsche Begegnungen e.v. Boris-Kit-Preis 2004 wird in Würdigung der Verdienste um die Freiheit der Wissenschaften seines Landes und für sein gesellschaftliches Engagement verliehen an Uladzimir Arlou» («Рабочай групы аб'яднання Беларуска-нямецкія сустрэчы аб узнагароджванні прэміяй Барыса Кіта за 2004 год Уладзіміра Арлова як прызнанне заслуг па абароне свабоды навукі сваёй краіны і за грамадскую дзейнасць»). Копія, 29,8 × 19,8 см, рамка 21,1 × 31 см.
2. Дыплом «Arbeitskreis Belarusisch-Deutsche Begegnungen e.v. Boris-Kit-Preis 2004 wird in Würdigung der Verdienste um die Freiheit der Wissenschaften seines Landes und für sein gesellschaftliches Engagement verliehen an Radzim Garezki» (Рабочай групы аб'яднання Беларуска-нямецкія сустрэчы аб узнагароджванні прэміяй Барыса Кіта за 2004 год Радзіма Гарэцкага як прызнанне заслуг па абароне свабоды навукі сваёй краіны і за грамадскую дзейнасць»). Копія, 29,8 × 19,8 см, рамка 21,1 × 31 см.
3. Дыплом «Arbeitskreis Belarusisch-Deutsche Begegnungen e.V. Boris-Kit-Preis 2004 wird in Würdigung der Verdienste um die Freiheit der Wissenschaften seines Landes und für sein gesellschaftliches Engagement verliehen an Siarhiej Zakonnikau» (Рабочай групы аб'яднання Беларуска-нямецкія сустрэчы аб узнагароджванні прэміяй Барыса Кіта за 2004 год Сяргея Законнікава як прызнанне заслуг па абароне свабоды навукі сваёй краіны і за грамадскую дзейнасць»). Копія, 29,8 × 19,8 см, рамка 21,1 × 31 см.

## Успаміны пра Барыса Кіта

1. Падборка юбілейных артыкулаў з розных інтэрнэт-газет. Фармат А4, 8 л.
2. Пералік артыкулаў у перыядычных выданнях з нагоды юбілея Б. У. Кіта, напісаны яго рукой. Фармат А4, 4 л.
3. Ліст Л. Савік ад Б. У. Кіта, ад 22.05.1996, у якім размова вядзецца аб прэзентацыі кнігі Л. Савік і ў дадатку пералічваюцца заслугі Б. У. Кіта. Фармат А4, 3 л.
4. Спіс асобаў, якім выслаць запрашэнні на ўрачыстасці прэзентацыі кнігі Л. Савік «Космас беларуса», складзены Б. У. Кітом. Фармат А4, 19 л.
5. Спіс найбольш выдатных спраў на працягу жыцця, складзены Б. У. Кітом. Франкфурт. Фармат А4, 16 л., на бел. мове.
6. Успаміны А. Гатковіча, ураджэнца г. Маладзечна, выхаванца Маладзечанскага адміністратыўна-гандлёвага інстытута.
7. Успаміны П. М. Кузюковіча, прафесара медыцыны, былога вучня Б. У. Кіта, аб сустрэчы Б. У. Кіта з грамадскасцю г. Маладзечна 19.06.1992.
8. Успаміны прафесара, доктара тэхнічных навук А. Г. Раковіча пра Б. У. Кіта Мінск, 1994.
9. Успаміны Леслі Тэнэна аб супрацоўніцтве з Б. У. Кітом ад 25.12.2003, Арызона, ЗША. Фармат А4, 3 л., на англ. мове.
10. Успаміны Лены Глагоўскай «Сустрэчы з Барысам Кітом, шчасьлівым сьведкам гісторыі XX ст.», Польшча, 14.10.2003. Фармат А4, 1 л., на бел. мове.
11. Успаміны А. Г. Майсяёнка «Пра першае знаёмства з прафесарам Кітом і астатні ліст акадэміка Астроўскага». Фармат А4, 10 л., на бел. мове.
12. Успаміны праф. Кшыштафа Марліча, рэктара і прафесара Акадэміі медыцыны, «Маё спатканне з праф. Барысам Кітом». Шчэцін, Польша. Фармат А4, 5 л., на пол. мове.
13. Успаміны праф. Яўгена Шыраева аб сустрэчы з Б. У. Кітом. Масква, Расія. Фармат А4, 1 л., на рус. мове.
14. Успаміны Надзеі Барт-Юрэвіч, былой вучаніцы Б. У. Кіта, «Успаміны аб прафесары Барысе Кіце». Германія. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
15. Успаміны Дзмітрыя Ярашэўскага, настаўніка гімназіі. Гота, Германія, 2003. Фармат А4, 2 л., на бел. мове.
16. Успаміны Анастасіі і Дзмітрыя Паўлоўскіх «Выпадковая сустрэча». Франкфурт, 2003. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.

17. Успаміны Эрнэста Фазана, ганаровага дырэктара Інстытута касмічнага законазнаўства «Прафесар др. Б. У. Кіт як я яго ведаю» з перакладам на бел. мову. 10.10.2003. Фармат А4, 1 л., на англ. мове, пераклад на 4 л., на бел. мове.
18. Успаміны Дж. Сасэра, прафесара, вучня Б. У. Кіта «Мой настаўнік, мой кумір, мой сябра». Германія. Фармат А4, 2 л., на англ. мове.
19. Укспаміны д-ра І. Шлоотца, асабістага ўрача Б. У. Кіта. Патсдам, Германія. Фармат А4, 2 л., на ням. мове.
20. Успаміны Вадзіма Нарбутовіча, студэнта Берлінскага ўніверсітэта, «Пра Барыса Кіта». Берлін, Германія, 2003. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
21. Успаміны В. Фалька аб сустрэчы з Б. У. Кітом. Берлін, Германія, 2004. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
22. Успаміны Гарулі Танака, прафесара, аб сустрэчах з Б. У. Кітом «Сустрэчы з Барысам у Японіі, Амерыцы і Германіі», «Мой настаўнік доктар Б. У. Кіт». Фармат А4, 2 л., на англ. мове.
23. Успаміны Ніны Ляўкавічанкі, вучаніцы Б. У. Кіта. Парыж, Францыя. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
24. Успаміны Веранікі Чаркасавай «Жизнь во имя Родины». Мінск, Беларусь, 2003. Фармат А4, 4 л., на рус мове.
25. Успаміны Катлін Бабіт, святара епіскапальнай царквы, вучаніцы Б. У. Кіта. Вашынгтон, ЗША, 2003. Фармат А4, 1 л., пераклад Б. У. Кіта на 4 л.
26. Успаміны Славы Лягенчанкі «Мае сустрэчы з чалавекам-легендай». Сідней, Аўстралія, 2004. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
27. Успаміны Уладзіміра Караля, прафесара. Чэхія, 2004. Фармат А4, 3 л., на англ. мове.
28. Успаміны Паўла Саўчанкі аб сустрэчы з Б. У. Кітом. Вільня, 2003. Фармат А4, 4 л., на бел. мове.
29. Успаміны Гарулі Танака «Мае асабістыя ўспаміны аб Барысе Кіце» і асабісты ліст да Б. У. Кіта. Японія, 2004. Фармат А4, 4 л., на англ. мове.
30. Успаміны Г. Шостака «Барыс Кіт», Мінск, 2003. Фармат А4, 3 л., на англ. мове.
31. Успаміны Б. У. Кіта «Б. У. Кіт — адзін з першых беларусаў у Каліфорніі, ЗША (1950-1958)». Фармат А4, 6 л., на бел. мове.
32. Успаміны аб сустрэчы з Барысам Кітом Паўла Саўчанкі. Вільня, 2003. Копія, фармат А4, 5 л., на бел. мове.
33. Успаміны Надзеі Барт-Юрэвіч. Германія, 2003. Копія, фармат А4, 2 л., на бел. мове.

### Намінацыі Б. У. Кіта

1. Тлумачальная запіска, у якой Б. У. Кіт апісаў асноўныя біяграфічныя інстытуты, якія займаюцца намінацыямі ў галіне навукі і культуры. Фармат А4, 3 л., на бел. мове.
2. Ліст Міжнароднай аб’яднанай канвенцыі да Б. У. Кіта ад 10.02.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на Міжнародную узнагароду міру. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
3. Рэкламны ліст Міжнароднай узнагароды міру. Фармат А4, на англ. мове.
4. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,6 см, на англ. мове.
5. Канверт (для бланка) з адрасам Міжнароднай аб’яднанай канвенцыі. 9,9 × 22,5 см.
6. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта, ад 18.11.2005 г, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Чалавек года 2005». Фармат А4, на англ. мове.
7. Рэкламны ліст узнагароды «Чалавек года». Фармат А4, на англ. мове.
8. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,5 см, на англ. мове.
9. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.
10. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 16.12.2005, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на Міжнародную ўзнагароду «За дасягненні на працягу ўсяго жыцця». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.

11. Рэкламны ліст узнагароды «За дасягненні на працягу ўсяго жыцця». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
12. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,6 см, на англ. мове.
13. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.
14. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 7.04.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на Міжнародную ўзнагароду «За дасягненні на працягу ўсяго жыцця». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
15. Рэкламны ліст узнагароды «За дасягненні на працягу ўсяго жыцця». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
16. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,6 см, на англ. мове.
17. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.
18. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 21.10.2005, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Амерыканскі ганаровы медаль». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
19. Рэкламны ліст узнагароды «Амерыканскі ганаровы медаль». Фармат А4, на англ. мове.
20. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,6 см, на англ. мове.
21. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 х22,5 см.
22. Ліст Міжнароднай аб'яднанай канвенцыі да Б. У. Кіта ад 10.03.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца ў Ганаровы легіён Міжнароднай аб'яднанай канвенцыі. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
23. Рэкламны ліст узнагароды Ганаровага легіёна Міжнароднай аб'яднанай канвенцыі. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
24. Бланк, пры запаўненні якога намінант пацвярджае прыняцце ўзнагароды і гарантуе аплату. 9,3 × 21,6 см, на англ. мове.
25. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.
26. Ліст Сусветнай акадэміі літаратуры да Б. У. Кіта ад 5.05.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Ганаровы дыплом Майстра». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
27. Рэкламны ліст «Ганаровага дыплома Майстра», на адвароце бланк для падцвярджэння узнагароды. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
28. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.
29. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 27.01.2006, у якім паведамляецца , што ён намінуецца на атрыманне «Міжнароднага ордэна» за дасягненні. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
30. Рэкламны ліст «Міжнароднага ордэна» за дасягненні, на адвароце якога бланк для пацвярджэння прыняцця ўзнагароды і гарантыі аплаты. Фармат А4, на англ. мове.
31. Канверт (для бланка) з адрасам Міжнароднага біяграфічнага цэнтра. 8,9 × 15,2 см.
32. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 24.02.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на атрыманне ўзнагароды «За дасягненні 21-га стагоддзя». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
33. Рэкламны ліст узнагароды «За дасягненні 21-га стагоддзя». На адвароце анкета і бланк для запаўнення. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
34. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 24.03.2006, у якім паведамляецца, што пры Цэнтры будзе адчыняцца Зала знакамітасцей, у якой прапануецца размясціць мемарыяльную табліцу Б. У. Кіта. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
35. Рэкламны ліст мемарыяльнай таблiцы, на адвароце анкета і бланк. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
36. Канверт (для бланка) з адрасам Міжнароднага біяграфічнага цэнтра. 8,9 × 15,2 см.

37. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 2.05.2006, у якім паведамляецца, што у Амерыканскай зале знакамітасцей прапануецца размясціць мемарыяльную табліцу Б. У. Кіта. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
38. Рэкламны ліст мемарыяльнай табліцы, на адвароце анкета і бланк для запаўнення. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
39. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 24.03.2006, у якім прапануецца прадставіць біяграфічныя матэрыялы для першага тома даведніка, у якім будуць прадстаўлены ўсе намінанты «Чалавек года» з 1990 года. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
40. Анкета і бланк. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
41. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 21.04.2006, у якім паведамляецца, што Б. У. Кіт прапануецца на намінацыю «The Global Year of Excellence – 2006». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
42. Рэкламны ліст медаля і пасведчання, на адвароце анкета і бланк для запаўнення. 14,8 × 21 см, на англ. мове.
43. Канверт (для анкеты і бланка) з адрасам Міжнароднага біяграфічнага цэнтра. 8,9 × 15,1 см.
44. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 26.05.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «За навуковыя дасягненні на працягу жыцця». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
45. Рэкламны ліст арганізацыі Міжнароднага біяграфічнага цэнтра і Міжнароднага кангрэса мастацтва, навукі і камунікацыі. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
46. Рэкламны ліст Міжнароднай узнагароды «За навуковыя дасягненні на працягу жыцця». На адвароце анкета і бланк. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
47. Канверт (для бланка) з адрасам Міжнароднага кангрэса. 10,2 × 21,6 см.
48. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 16.06.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Дыямент да Вінчы». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
49. Рэкламны ліст узнагароды « Дыямент да Вінчы» з анкетай і бланкам. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
50. Ліст Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Англія) да Б. У. Кіта ад 23.06.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Міжнародны прафесіянал года – 2006». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
51. Рэкламны ліст узнагароды «Міжнародны прафесіянал года – 2006», на адвароце анкета і бланк. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
52. Канверт (для бланка) з адрасам Міжнароднага біяграфічнага цэнтра. 9,9 × 22,5 см.
53. Ліст з рэдакцыі энцыклапедыі па персаналіях «Хто ёсць хто» ад 24.04.2006, у якім паведамляецца аб складанні даведніка і прапануецца Б. У. Кіту даслаць сваю біяграфію. Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
54. Рэкламны ліст артыкула ў энцыклапедыі «Хто ёсць хто». Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
55. Рахунак на размяшчэнне біяграфічнага артыкула ў энцыклапедыі «Хто ёсць хто». Фармат А4, 1 л., на ням. мове.
56. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 30.06.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Ордэн амерыканскіх пасланцаў». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
57. Рэкламны ліст узнагароды «Ордэн амерыканскіх пасланцаў». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
58. Бланк для запаўнення, які пацвярджае прыняцце ўзнагароды. 9,3 × 21,5 см, на англ. мове.
59. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,8 × 22,5 см.
60. Ліст Амерыканскага біяграфічнага інстытута да Б. У. Кіта ад 22.09.2006, у якім паведамляецца, што ён намінуецца на ўзнагароду «Прэзідэнцкая ганаровая пячатка». Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
61. Рэкламны ліст узнагароды «Прэзідэнцкая ганаровая пячатка» з анкетай і бланкам на адвароце. Фармат А4, 1 л., на англ. мове.
62. Канверт (для бланка) з адрасам Амерыканскага біяграфічнага інстытута. 9,9 × 22,5 см.

